


На здымках новага беларускага фільма «Пачатак шляху» па аповесці М. Лынькова «Міколка-паравоз». Пастаноўшчык фільма Л. В. Голуб (крайні справа) рэпетыруе эпізод прахода эшалона партызан і чырвонагвардзейцаў на фронт. У цэнтры — школьнік Валодзя Гуськоў, які выконвае ролю Міколкі. Злева — рабочы Гродзенскага аблтэкстыльбуда А. Дакіневіч у ролі аднаго з партызан.

Фото А. Дзітлава.

---

На першай старонцы вокладкі: «Крэмлёўскія куранты» ў тэатры імя Янкі Купалы. У ролі В. І. Леніна народны артыст СССР П. Малчанаў, у ролі матроса Рыбакова народны артыст БССР І. Шаціла.

На чацвёртай старонцы вокладкі: На будаўніцтве бетонарастворнага завода ў г. Гродна.

Фото А. Дзітлава.



**Перадавыя будаўнікі брыгады Івана Абцэшкі** (справа налева): **Тацяна Ласюк, Іван Абцэшка, Марыя Радаман, Уладзімір Ракавец і Ольга Ярома** (гл. фотанарыс на стар 6).

Фота **С. Чырэшкіна.**

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.**

**Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск.**

**Год выдання IV.**

**Лістапад.**

**№ 11(44).**

**1956.**

# ВОГНЕННАЕ ЮНАЦТВА

С. РЫГАРОВІЧ



Унучкі Івана Паўлавіча Пачышава — настаўніца Анна Сцяпанаўна і даярка Любоў Сцяпанаўна Пачышавы.

На сцяне паміж вокнамі, там, дзе звычайна вывешваюцца сямейныя партрэты, у хаце Пятра Іванавіча Пачышава вісіць у самаробнай рамачцы пад шклом грамата, якой ганарыцца не толькі сам гаспадар хаты, а і ўвесь шматлікі род Пачышавых. Калі бліжэй прыглядзецца да злінялага ад часу малюнка і літар, надрукаваных на невялікім аркушыку паперы, можна разгледзець: уверсе намаляваны будзёнавец на баявым кані ў шапцы з вострым, як піка, верхам, з аголеным шабляй, а ніжэй вось які тэкст:

«Грамата...

Рэвалюцыйны Ваенны Совет Асобнай Каўказскай Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі (былая XI армія) у азнаменаванне спаўнення трохгоддзя геаічнай барацьбы за разнявоуленне працоўных і ахову Соцыялістычнай Айчыны ўручае гэтую грамату Чырвонаму воіну Арміі Пачышаву Пятру Іванавічу, як сімвал выканання свайго абавязку перад Рабоча-Сялянскай Айчынай». А ў самым нізе подпісы членаў Рэвалюцыйнага Ваеннага Совета Кірава і Орджанікідзе.

Гэтая грамата — знак рэвалюцыйнай мужнасці, гераізму, воінскай доблесці і славы—была выдадзена Пятру Іванавічу ў далёкім 1921 годзе, у трэцім годзе Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі... Вывешаная на відным месцы, яна, гэтая грамата, сімвалізуе сабой не толькі рэвалюцыйны гераізм аднаго Пятра Іванавіча, — яна з'яўляецца як-бы сведчаннем рэвалюцыйнай гісторыі ўсёй вялікай і дружнай сям'і Пачышавых. Яшчэ і цяпер у Прысно дзеда Івана Пачышава інакш і не называюць, як «дэмакратам». І гэтая назва не дарма прыйшла да чалавека...

Было то ў далёкія гады царскага самаўладдства. У Прысно, гэтай вялікай надсожскай вёсцы, большасць сялян гібела ў няволі і нядолі. Іван Пачышаў быў такім-жа, як і большасць, сялянскім хлапчуком. Праўда, можа ў яго больш, як у каго іншага, было дапытлівасці, цікавасці да жыцця. Яму хацелася шмат чаго ведаць. І ён пайшоў вучыцца ў школу. Але нядоўга давялося яму пасядзець за партай. Трохі толькі налаўчыўся чытаць, як бацька сказаў яму:

— Хіба ты з гэтай навукі хлеба наясіся? — узяў за руку і павёў у двор да пана Бачкова.

— Вазьміце, вяльможны пане, хлопчыка майго за пастуха, — узмаліўся стары.

Пан акінуў хлопчыка з ног да галавы і, кпліва ўсміхнуўшыся, сказаў:

— Дык які-ж з яго пастух будзе, ён сам крыху большы за авечку ростам.

— Дарма вы так кажаце, вяльможны пане, ён хлопец кемлівы, зіму ў школу хадзіў, — уступіўся за хлопчыка бацька.

Вось гэтак пачалося працоўнае жыццё Івана Паўлавіча Пачышава. За колькі год парабкоўства ў пана Бачкова Іван зненавідзеў батрацкі хлеб.

У векапомным семнаццатым годзе Іван Пачышаў вярнуўся дадому зусім іншым чалавекам. У шынялі, з напакаваным рэчавым мяшком за плячыма крочыў дадому салдат Іван Паўлавіч Пачышаў. Але ён нёс дадому не толькі гэты салдацкі нажытак. За чатыры гады акопнага жыцця ён стаў як-бы відушчым чалавекам. Несутрымная радасць хвалявала душу салдата не толькі таму, што ён вось зараз убачыць, абдыме жонку, семярых сваіх дзяцей, прынясе ім у хату бацькоўскае цяпло, ласку, а і таму, што наступала новае жыццё.

Іван Паўлавіч увайшоў у двор. Дома нікога не было, і хата была замкнута. Ён прысеў на прызбу і акінуў вокам сваю немудрашчую сялібу. Усё паразвальвалася, ліпела, паркан згніў, ды і хлеў пакасіўся і як-бы прысеў на адзін вугал. «Для рук мазалёў будзе», — падумаў сам сабе салдат. Неўзабаве прыйшла жонка з дзецьмі. Яны кідаліся на шыю бацьку, абдымалі, цалавалі.

У хвіліну радасці сустрэчы Іван нават не заўважыў, што сярод дзяцей няма большага сына Петрака, і толькі тады, як увайшлі ў хату, ён спытаў у жонкі:

— А дзе-ж наш Пятрок?

— Няма Петрака дома, — уздыхнула жонка,— яшчэ летась перад пакровам як сыйшоў у Гомель, дык з тае пары і няма яго дома. Пасварыўся з панам Бачковым і сыйшоў. Мне толькі сказаў, каб я заработак яго атрымала. Дык я пайшла да пана заработак патрабаваць, дык ён дулю скруціў і з двара прагнаў. «Твайму сынку, кажа, месца толькі ў Сібіры. Ён мяне забіць хацеў».

— Дык што, Пятрок з таго часу і дома не быў? — спытаў бацька.

— Не быў, не быў, мой галубчык, — адказала жанчына, нібы не ведаючы, як апраўдаць сына перад бацькам, і тут-жа дадала: — Але людзі, кажуць, бачылі яго ў Гомелі. З вінтоўкаю хадзіў.

Іван зноў насцярожыўся:

—З якою вінтоўкаю? Чаго ён з той вінтоўкаю?

Жанчына заўважыла яшчэ большае здзіўленне на твары мужа і хуценька дадала:

— Ды з чырвонай стужкаю на шапцы.

Толькі цяпер яна заўважыла, як праяснеў, пасвятлеў твар мужа, і ён адразу ўсміхнуўся.

— Дык, значыцца, ён у мяне пайшоў, па маёй сцежцы падаўся. Малайчына, Пятрок! — ледзь не выгукнуў стары.

То быў час паміж лютым і кастрычнікам 1917 года. Па вёсцы яшчэ сяды-тады праязджаў на брычцы пан Бачкоў. Але ён цяпер ужо быў не тым панам. Ён стаў нейкім рахманым, хоць гэтая яго рахманасць была тым ахоўным сродкам, які, як ён думаў, павінен захаваць яго ад сялянскага гневу. А ўжо ў кожнай прыснянскай хаце ішлі гаворкі аб рэвалюцыі, гаварылі напоўголаса аб раздзеле панскай зямлі. Толькі Іван, як вярнуўся ў Прысно, загаварыў на поўны голас. Ён расказваў сялянам пра тое, чаго дамагаюцца ў рэвалюцыі бальшэвікі, чытаў ім часта старыя нумары «Акопнай праўды», якую ён прынёс з сабою.

— Гэта, браткі, наша газета, — казаў ён сялянам. — Яна нам, салдатам, вочы на ўсё адкрыла.

— А скажы, Іване, як гэта мы будзем жыць без цара? — пыталі сяляне.

А Іван, нават доўга не задумваючыся, адказваў ім:

— А хіба-ж то наш цар, то-ж цар Бачковых, а нам ён трэба так, як хваробе кашаль. Нам Ленін дарогу пакажа і скажа, як нам жыць, што рабіць.

Пятрок даведаўся ў Гомелі, што бацька прыйшоў з фронта, і прыехаў у родную вёску. Не паспеў ён агледзецца, нагаварыцца з бацькам, як у дзверы хаты прасунуўся пан Бачкоў. Ён прывітаўся, нават шапку скінуў.

— Я да цябе, Іване, — пачаў ён лісліва. — Цябе ўсе сяляне слухаюць. Дык скажы ты ім, няхай не руйнуюць маю гаспадарку. Вунь ужо лес сякуць, зямлю засяваюць самапраўна, дык хіба-ж гэта парадак. Хацеў паліцыю ўжо з горада выпісваць, каб знайсці на іх управу, — раптам Бачкоў зірнуў на Пятра, які сядзеў узрушаны, раззлаваны, і асекся. — Дык я-ж не супраць, каб ім частку зямлі аддаць, але-ж гэта трэба ўсё па закону. Памажы мне, Іване, супакоіць іх, — рассыпаўся макам пан Бачкоў.

— Хопіць! — грымнуў сярдзітым басам Пятро. — Папіў ты нашай крыві, а цяпер рахманым цялём прыкідваешся. Паелі мы твайго хлеба, ведаем, які ён смачны.

А неўзабаве зусім недзе знік пан Бачкоў. Больш ніхто ў Прысно не бачыў запрэжанай цугам панскай брычкі... Вялікі Кастрычнік вынішчыў усё панскае кодла, гаспадаром жыцця стаў працоўны, мазольны люд. Івана Паўлавіча Пачышава сяляне выбралі першым старшынёй свайго сельскага Совета. Ён быў першым дэлегатам ад Веткаўскага раёна на гомельскі павятовы з'езд Советаў.

На маладую Совецкую рэспубліку насядала ўсялякая контррэвалюцыйная нечысць. Чырвонай Арміі патрэбны былі людзі, коні, хлеб. Іван Пачышаў рабіў усё, каб як мага больш памагчы сваёй роднай арміі. Тады ён сказаў свайму большаму сыну:

— Ведаеш што, Пятрок, тваё месца ў арміі. Ідзі са зброяй у руках абараняй нашу ўладу...

Колькі было радасці бацьку, калі ён ад сына атрымаў першы ліст, у якім той пісаў: «Знаходжуся ў Петраградзе, у першым Пуцілаўскім атрадзе. Быў ужо ў баях пад Чырвоным сялом... Неўзабаве еду на Каўказскі фронт...»

Так здабывалі правы на жыццё Пачышавы. Іх шматлікі род рос, шырыўся, і ўжо ў 1930 годзе ўсе яны ўступілі ў калгас. Былі арганіза-



Наследнік баявых традыцый бацькі, малодшы сержант Віктар Пачышаў за час службы ў арміі больш дваццаці разоў чуў ад сваіх камандзіраў словы падзякі. Яго партрэт змешчаны на дошцы «Лепшыя людзі часці». Маладыя воіны выбралі яго членам бюро комсамольскай арганізацыі.

тарамі яго. Заможна і шчасліва жылі сыны Пачышава.

Бывала, выйдзе стары Іван Паўлавіч, зірне на наваколле, і сэрца радуецца: перад ім расцілаліся неаглядныя нівы, зелянеў калгасны сад. Усё дыхала мірам і спакоем. Неяк аднаго разу стары вяртаўся з поля дадому і заўважыў у вёсцы нейкую незразумелую яму трывогу. Людзі нечага збіраліся ў купкі, гаварылі, твары іх былі панылыя. Толькі калі Іван падыйшоў бліжэй да людзей, нехта звярнуўся да яго:

— Іван, хіба ты не чуў, што фашысты вайной на нас пайшлі?

У той-жа дзень бацька сабраў усіх сваіх сыноў у хату і сказаў:

— Пойдзеце ваяваць, дзеці мае. Толькі не абняслаўце роду нашага. Ваюйце так, як мы з Пятром ваявалі за Савецкую ўладу. А мы са старой будзем клапаціцца пра вашы сем'і.

З вайны вярнуліся не ўсе сыны Івана Пачышава — Ягор загінуў смерцю храбрых за сваю сацыялістычную Айчыну, за тое, каб вечна квітнела новае, савецкае жыццё, каб шматлікі род Пачышавых быў свабодны, не ведаў ніякага ўціску.

Родная калгасная зямля, як ты люба сэрцу селяніна! Да тла разбурылі фашысты калгас імя Варашылава, разрабавалі, раскралі яго гаспадарку. Але нашы людзі не такія, каб падаць у роспач. За колькі год пасля вайны калгас стаў яшчэ багацейшым, чым быў да нашэсця ворага. Людзі не пашкадавалі мазольнае працы, і перш за ўсё не пашкадаваў яе род Пачышавых, які адзін складае амаль цэлую брыгаду. І заўсёды поруч з маладымі — з сынамі, з нявесткамі, з унукамі — быў стары Іван Паўлавіч.

— Ці-ж я ўседжу дома без работы, — прызнаецца ветэран працы, васьмідзесяцігадовы старэйшына роду.

— Мне цяпер, каб здароўе, — гаворыць Іван Паўлавіч, — дык адно на вяселлі хадзі да ўнукаў ды праўнукаў. Вунь-жа колькі іх у мяне — дваццаць два ўнукі і чатыры праўнукі.

Праўда, не ўсе яны дома: каторыя працуюць на прадпрыемствах, каторыя выконваюць свой воінскі абавязак. Нядаўна ў хату Пачышавых прышло пісьмо ад унука Віктара, Пятровага сына. У тым пісьме камандаванне дзякуе бацькам за тое, што яны выхавалі стойкага і свядомага воіна, які стаў выдатным камандзірам.

— Ты, Пятрок, павесь Віктараву падзяку побач з сваёй граматай. Няхай, калі хто зойдзе ў хату, дык будзе ведаць, што род Пачышавых не абы які род, а гераічны ў працы і ў барацьбе.

— Добра, тата, павешу, — згаджаецца са старым Пятро, бо яму і самому радасна, што выгадаваў такога сына, за якога дзякуюць.

**Веткаўскі раён**
**Гомельскай вобласці.**

Пётр Іванавіч Пачышаў з самай маленькай унучкай Валяй.



Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ

# Новыя вершы

## Ішлі сябры...

На вуліцы гул, што нястомны прыбой,
Калоўся аб сцены, як хвалі аб скалы.
Святочнай хадой па ўрачыстай Цвярской,
Размову сваю вядучы між сабой,
Ішлі —
Максім Горкі і Янка Купала.

Настаўнік і вучань — старыя сябры —
Свае ўспаміналі дарогі і годы.
Жылі адной думай яшчэ на зары,
Калі двухгаловыя вылі вятры
Над краем, што зваўся турмою народаў.

Пра лёс чалавека гаворку вялі.
Іх светлым вачам раскрываліся далі:
Над Волгай і Нёманам не хмары плылі,
Не пот бурлакоў апаляў Жыгулі,
Не горам жалейкі ў Палессі спявалі.

Адны іх раднілі і мары і сны,
Інакшае радасці сэрца не просіць:
Пачулі яны ля Крэмлёўскай сцяны,
Як вецер праслаўленых нетраў лясных
Над рэчкай Арэсай калыша калоссі.

Убачылі поступ заводаў і шахт —
Авітыя славай дары пяцігодак.
Шумеў маладымі прысадамі шлях,
А песня, якой не бывала ў вяках, —
Лунала любоўю і дружбай народаў.



— А хто там ідзе? —
Ты прыгадваеш, друг? —
Прыждалі з табой мы хвіліны цудоўнай!
І ветла ўсміхнуліся раптам удвух:
Як глянуць, шчаслівыя крочаць наўкруг —
Унукі і Нілаўны і Бандароўны.

Што бурная плынь поўнаводнай ракі,
Жыццём неўгамонным Масква бушавала.
Праз Красную плошчу, — ў бяссмерце,
ў вякі, —
У родным, шматмоўным натоўпе людскім
Ішлі —
Максім Горкі і Янка Купала.

## Гусі

Па блакіту неба, быццам ручаі,
Праплываюць гусі — шызыя страі.
Зашумелі травы ў тундры весялей,
Поўнымі грудзямі дыша Енісей.

Пад крутой гарою ў лазняку стаю
І дзіўлюся ў неба і вясну пяю.
Гусі падляцелі, селі ля гары.



Я гукнуў залётным:
— Добры дзень, сябры!

На прывет мой шчыры, на сардэчны сказ,
Крыллямі захлопалі гусі мне ў адказ.
Я стаяў і думаў, як-бы іх спытаць,
Што на белым свеце добрага чуваць?

Сэрца маё біцца пачало часцей.
Я гляджу з трывогай ціхай на гасцей:
Вобраз мілы сэрцу ўстаў перада мной
У зялёнай хустачцы з белаю каймой.

Пералёт — вялікі, пабываць маглі
На гасціннай, мінскай, на маёй зямлі.
Можа, сустракаліся, бачыліся з ёй?
Не змаўчу, прызнаюся — точыць неспакой.

Што ў яе на сэрцы?
Сёння бачыў сон:
Вочы, як пралескі, а каса, як лён.
Горача-б і доўга цалаваў крыло,
Каб яно мне толькі расказаць магло:
— Помніць і чакае? Любіць, як раней?
...Вечар. Цішынёю дыша Енісей.

## Сонечная поўнач

Суткамі сонца працуе,
Неба не ведае зор.
Край безыменных азёр
Росквіт суровы святкуе.

Спелай марошкай ірдзее
Скрозь і лагчына і яр.
Ціха кладзецца загар
На берагі Енісея.

Голаў у зараслі клоніць
Змучаны спёкай алень.
— Ночка цяпер, альбо дзень?
Грае ля чума гармонік.

Нібы ў адказ на пытанне —
Дальніх краёў жураўлі,
Каб адпачыць на зямлі,
Нанач спускаюцца ў тальнік.

Верная часу прыкмета:
Тундра ў прасторах сваіх
Крыллі гасцей дарагіх
Пестуе сонечным светам.

Зззяе, не знаўшы заката,
Сонца палярнага дня.
Спяць журавы. Цішыня
Аберагае крылатых.



# У бітвах за волю

**АЛЕГ ЛОЙКА**

Тады Валодзя Саламевіч толькі вярнуўся з польскага войска. Больш трох год не быў ён дома, але за гэты час у Малой Кракотцы нічога не змянілася. Новым было толькі тое, што закрылі бібліятэку, для якой некалі і Валодзя купіў томік Купалы, ды яшчэ часцей, як раней, наляталі на вёску секвестратары.

У першую-ж суботу пасля свайго прыезду Валодзя, узяўшы пад паху гармонік, выйшаў на сяло. Радасна віталі яго хлопцы і дзяўчаты. Яны, як заўсёды вясною ў святочныя вечары, сабраліся на мосце. Было цёпла, з лесу патыхала баравой, настоенай на смале свежасцю.

Валодзя даўно не трымаў гармоніка і перабіраў лады з асаблівай радасцю. На мосце танцавалі, пасля заспявалі дзяўчаты:

> Камсамолачка Дарота,
> Пойдзем разам ваяваць,
> Буду біць я з кулямёта,
> Ты — патроны падаваць...

На мост уз'ехалі на веласіпедах паліцыянты.

— Марш стонд, хамы! — крыкнуў адзін з іх. Гэта быў Плюта, камендант суседняга пастарунка. Ён падскочыў да Валодзі, вырваў з яго рук гармонік.

— Больш песень большэвіцкіх граць не бэндзеш! — сыкнуў ён, аддаючы гармонік аднаму з паліцыянтаў.

Пануры плёўся Валодзя дахаты.

Было яшчэ рана. Не спалася. Думкі аб заўтрашнім дні, аб тым, як жыць, куды падацца, былі чарнейшымі за ноч...

Назаўтра Валодзя сланяўся каля хаты, тоесёе папраўляў, каб толькі не быць без работы.

Прайшоў тыдзень. Якраз у суботу да яго цэлай гурбой зайшлі хлопцы і дзяўчаты. «Табе ад нас!» — сказалі яны, уручаючы Валодзю новы, з белымі блішчастымі гузікамі гармонік.

На мосце, як і ў мінулую суботу спявалі «Дароту», а Валодзя падыгрываў і ўсё думаў, хто-ж арганізаваў яму гэткую неспадзяванку. Дзяўчаты не стрымаліся, падказалі: «Сымон! Петручэня!..»

Не без хвалявання ішоў Валодзя да Сымона. Дома застаў адну сымонаву маці. Яна скардзілася:

— У хаце ні скарынкі хлеба, а ён усё сядзіць над кніжкамі. Чытае ўдзень, чытае і ўночы, пры святле месяца. Я і сварылася, і выгаварвала яму! Але ён свайго не пакідае... Цяпер часта і дома не начуе. А што, калі ноччу паліцыя асвеціць ды ўбачыць, што яго няма? Дык я перабіраюся з запечка на яго ляжанку...

Сымон прышоў змучаны. Яго блізарукія вочы жмурыліся больш, чым заўсёды. Убачыўшы Валодзю, узрадаваўся.

Яны і раней сябравалі, пасвілі разам кароў.

— Робім справу, — горача загаварыў Сымон, — змагаемся. І недалёка той дзень, калі ўся зямля будзе народная, а народ уздыхне свабодна.

З гэтага вечара ў Кракотцы адным падпольшчыкам стала больш.

Валодзя пачаў працаваць, як тады казалі, адцінковым. Ён кіраваў чатырма ячэйкамі — Вялікай і Малой Кракотак, Рудаўкі і Смаўжоў. Сымон-жа меў сувязь са Слонімам, з іншымі адцінковымі.

На лекцыі, якія арганізоўваў Сымон, ішлі старыя і маладыя. Прагна чытала моладзь нелегальныя брашуры. У дні рэвалюцыйных свят паліцыянты не паспявалі здымаць чырвоных сцягаў, вывешаных то дзе на дрэве, то на страсе, а то нават над самым пастарункам. Раскінутыя на кірмашах, на фэстах лістоўкі з заклікамі: «Далоў фашызм!», «Няхай жыве рэвалюцыя!» дзядзькі хавалі запазуху і начамі пры лучыне па складах чыталі.

Прайшло пагодлівае бабіна лета. Набліжалася гадавіна Вялікага Кастрычніка. Падпольшчыкі вырашылі адзначыць свята масоўкай. Больш ста чалавек сабралася на глухой лясной паляне, вядомай у ваколіцы пад назвай Пусток. Масоўку вёў Сымон Петручэня.

— Таварышы! — гаварыў ён. — У Еўропе падымае галаву фашызм. Уладу ў Германіі захапіў Гітлер. З таго-ж самага дзесятка і наш «начэльнік паньства» Пілсудскі. Нашых матак і бацькоў абіраюць да ніткі, нашым дзецям не даюць вучыцца на роднай мове, нас катуюць у засценках дэфензівы, бо мы не церпім панскага здзеку, бо мы змагаемся. Мы — Кракотка і Рудаўка, Вострава і Лапухова; мы — усе простыя людзі Заходняй Беларусі! З намі працоўныя ўсёй Польшчы; з намі народы Краіны Саветаў!..

Голас Сымона гучаў усхвалявана і мужна.

Масоўка прадаўжалася не болей гадзіны. Калі разыходзіліся, Сымон сказаў Валодзю:

— У пяць вечара будзь на Асовым Грудку. Прыдзе сакрэтчык з-пад Дзярэчына...

Сонца зайшло, калі Валодзя прышоў у назначанае месца. Там ужо быў Сымон і невысокі, вастраносы чалавек.

— Сакрэтчык, — кіўнуў у яго бок Сымон.

Сымона цікавіла, якія будуць інструкцыі, што новага пад Дзярэчынам, ці ёсць там нелегальная літаратура. Ён прасіў перадаць таварышам з горада, каб пасабілі яму наладзіць матэрыяльную дапамогу сем'ям арыштаваных. Сакрэтчык абяцаў падтрымку, літаратуру, бойка гаварыў аб справах, аб навінах з СССР, аб новым у рабоце.

Было каля сямі вечара, цямнела. Паглядаючы на гадзіннік, сакрэтчык заспяшаўся і стаў прасіць Сымона правесці яго ў Рудаўку. Той згадзіўся.

Не даходзячы Малой Кракоткі, Валодзя развітаўся. Ён раіў Сымону абыйсці вёску. Але сакрэтчык запярэчыў, што яму трэба спяшацца, і настойваў ісці бліжэйшай дарогай, цераз вёску.

— Няхай будзе дарогай!.. — згадзіўся Сымон, і сябры разыйшліся.

Дарога бегла ўніз. Справа ад яе стаяў малады хвойнік, злева, за вузкай палоскай балота, віднеўся гай.

Сымон і не згледзеў, як некалькі цёмных фігур адскочыла ад хвоек; батарэйкі, прарэзваючы вячэрні змрок, асвятлілі твар, і некалькі ўчэпістых лап закруціла яму рукі за спіну.

«Папаўся, пташак!» — радаваўся Плюта. Ён ведаў, каго прывядзе правакатар, і сам з'явіўся на ўмоўленае месца.

Ён сам і дапытваў Сымона.

— Мув, хто быў на масоўцы? — пачаў ён.

Маўчанне.

Сымону скоўваюць ногі, скутыя наручнікамі рукі закладаюць ніжэй кален так, каб пад калені праткнуць жалезны прэнт. Прэнт падымаюць угару, і тулава Сымона павісае ўніз дагары нагамі. Прэнт кладуць на крэслы. Плячамі Сымон дастае долу, галава яго ляжыць на цэментаванай падлозе. Плюта, не спяшаючыся, разувае Сымона.

— З кім ты развітаўся, падыходзячы да Кракоткі? — цягне сваё Плюта.

Сымон маўчыць.

Крыва ўсміхаючыся, Плюта пачынае біць шомпалам па сымонавых пятах.

— Мув, большэвіку! Мув!!

Ад болю цямнее ў вачах. Сціснуўшы зубы, Сымон імкнецца разагнуцца, торс яго выпростваецца, падбародак задзіраецца ўгару...

Сымон не траціць прытомнасці. І гэта яго выратоўвае. Калі Плюта ўзбіраецца на крэсла і намерваецца саскочыць Сымону на грудзі, Сымон набірае як мага больш паветра, і грудзі яго пружыняць пад цяжкімі ботамі Плюты...

Прытомнасць Сымон страціў тады, калі раз'юшаны Плюта схапіў кавалак калючага дроту і, разняўшы сымонавы сківіцы, пачаў запіхваць дрот у горла глыбей і глыбей...

Апрытомнеў Сымон у шпіталі. Шпіталь гэта быў не турэмны. Доўгі калідор з двух бакоў быў застаўлены ложкамі. На крайнім ад акна ляжаў Сымон. Побач стаяў ложак, на якім пад бальнічнымі рызманамі ціха стагнаў бледнатвары селянін. Па калідоры прахаджваўся паліцыянт, назіраючы за хворымі вязнямі.

Сымон вачам не паверыў, калі неяк пад вечар у шпіталь прышла яго маці. Паліцыянт падвёў яе да бледнатварага селяніна. Яна ціха прысела ля таго на краечку ложка. Сусед здзіўленымі вачамі глядзеў у маршчыністы твар незнаёмай жанчыны. Тая, не зводзячы позірку з сына, ледзь чутна шаптала: «Сымон... Сымон...», і бледнатвараму чалавеку ўсё стала зразумела. Калі паліцыянт быў поруч, ён гаварыў з жанчынай аб чым папала, а калі той адыходзіў, маці слухала поўшэпт сына.

Прыходзіў нібыта наведаць бледнатварага селяніна і Валодзя. Яму і пераказаў Сымон, што здарылася з ім пасля таго, як яны развіталіся.

У шпіталі Сымон прамучыўся тры месяцы. Памёр ён першага лютага 1934 года. Цела яго аддалі родным пасля таго, калі радня пасведчыла асабістай свабодай, што ніякіх прамоў над труной не будзе.

Хавалі Сымона марозным сонечным днём. Народу ў Малой Кракотцы было, як ніколі. Людзі ішлі сюды за 20—30 вёрст.

Вакол хаты Петручэняў, пабліскваючы чорнымі брылямі, стаялі паліцыянты.

Суровая жалобная цішыня вісела над вёскай. Прамоў над магілай сапраўды не было. Здавалася, і сосны прымоўклі, калі мёрзлыя грудкі жвіру застукалі па веку труны. У гэтай напружанай цішыні Валодзя не тое каб заспяваў, а толькі гнеўна, з болем у грудзях прашаптаў:

> Шалейце вы, каты, і піце нашу кроў,
> Будуйце астрогі, гадуйце шпікоў...

Быццам маланка паласнула неба. Людзі колькі хвілін маўчалі, а пасля спачатку нібы недзе далёка, а потым бліжэй і бліжэй, званчэй і званчэй пачуліся раскаты песні, і вось яна, нібы гром, ускалыхнула цішыню:

> Да бою паўстане мужык катаваны
> На смерць, на смерць, на смерць вам, тыраны.
> На смерць, на смерць, на смерць вам, тыраны!

— Маўчаць! — крычаў Плюта, і паліцыянты пачалі арудаваць прыкладамі налева і направа, разганяючы натоўп. А песня не сціхала:

> Ад усходу бліжэй бура ўсцяж грукаціць,
> Ад Віслы да Нёмана яна праляціць,
> Бо нас аб'еднала ліхая нядоля,
> Пот крывавы, здзек і няволя.

— Маўчаць! — махаючы пісталетам, крычаў Плюта. — Маўчаць, а то вам будзе тое, што і Сымону!..

Людзі падалі пад ударамі штыкоў і прыкладаў, іх тапталі паліцэйскія боты, але яны не змаўкалі. Кракотка змагалася. Яна спявала, і рэха паўтарала простыя словы суровай песні...

...Пілсудчыкі так і не здолелі задушыць падпольную камсамольскую арганізацыю ў Кракотцы.

Прайшло многа год, а Кракотка не забыла сваіх герояў. Жывы Уладзімір Саламевіч — ён паважаны ў калгасе чалавек. Памятае Кракотка Сымона Петручэню. На яго магілу часта прыходзяць піянеры — новае пакаленне барацьбітоў.

**Слонімскі раён**
**Гродзенскай вобласці.**




Польскія спартсмены ў гасцях у беларускай моладзі. А. Папова, Станіслаў Якубоўскі (злева) і Станіслаў Каспнік на цеплаходзе «Мінск».

Фото А. Дзітлава.




Пасля заканчэння сямігадовай школы комсамолка Яніна Пуцілоўская засталася ў сваёй вёсцы Капцёўка Гродзенскага раёна працаваць паштальёнам. Яніна старанны паштальён, актыўны ўдзельнік мастацкай самадзейнасці. На здымку: Яніна Пуцілоўская.

Фото С. Чырэшкіна.

## Любімы пісьменнік моладзі

Да 70-годдзя з дня нараджэння Змітрака Бядулі

Хто з моладзі нашай рэспублікі не чытаў цудоўнай аповесці «Салавей». Тысячы юнакоў і дзяўчат з захапленнем сачылі за лёсам вясковага хлопца, сына прыгоннага сялянина Сымона Салаўя, які, валодаючы надзвычайным талентам, вядзе барацьбу супраць панскага прыгнёту. Пісьменнік надзяліў галоўнага героя твора высокароднымі рысамі — бязмежнай любоўю да свайго народа, чысцінёй сумлення і ўзнёсласцю душы, чалавечай годнасцю, вялікай энергіяй, свяшчэннай нянавісцю да эксплуататараў-паноў і іх прыслужнікаў. Вось чаму вобраз Сымона стаў блізкім і дарагім юнаму чытачу.

Аўтарам аповесці «Салавей» з'яўляецца буйнейшы беларускі пісьменнік Змітрок Бядуля, 70-год з дня нараджэння якога адзначае грамадскасць Савецкай Беларусі.

Нядаўна Дзяржаўнае выдавецтва БССР завяршыла выданне збору твораў Змітрака Бядулі ў 4 тамах. Наша моладзь атрымала магчымасць пазнаёміцца з усёй творчасцю гэтага выдатнага пісьменніка.

Змітрок Бядуля (Самуіл Яфімавіч Плаўнік) прыйшоў у беларускую літаратуру больш за 40 год таму назад. У 1913 годзе выйшаў з друку першы зборнік яго апавяданняў «Абразкі». Пісьменнік цалкам аддаецца літаратурнай справе. Разам з Я. Купалам і Я. Коласам Зм. Бядуля паспяхова развівае беларускую літаратуру. Ён піша вершы, навелы, апавяданні, у якіх малюе цяжкое падняволь-нае жыццё працоўных людзей, стварае цудоўныя ўзоры пейзажнай лірыкі.

Талент Зм. Бядулі асабліва разгарнуўся пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Новае жыццё, поўнае вялікіх здзяйсненняў, натхняе пісьменніка на напісанне буйных твораў. Адзін за другім з друку выходзяць зборнікі вершаў, паэм, апавяданняў, у якіх адлюстроўваюцца новыя з'явы рэчаіснасці.



У паэме «Беларусь» (1923 год) паэт услаўляе нараджэнне новай краіны, якая паўстала з адвечнай няволі і цемры і цяпер ідзе ў сваю светлую будучыню. Паэмай «Чырвона-чорная жалоба» Зм. Бядуля выказвае ўсенародны смутак з повалу смерці вялікага Леніна. Пісьменнік паказвае гарачую любоў народаў усяго свету да мудрага правадыра.

З 1922 па 1940 год Зм. Бядуля выдае больш дзесяці кніг новых апавяданняў, паэм і вершаў, новых аповесцей і раманаў. Найбольш буйнымі творамі пісьменніка з'яўляюцца аповесць «Салавей», аб якой мы вышэй гаварылі, раман «Язэп Крушынскі» і аповесць «У дрымучых лясах».

Двухтомны раман «Язэп Крушынскі» прысвечаны вострай класавай барацьбе ў беларускай вёсцы ў гады калектывізацыі, перамозе новага ў будаўніцтве соцыялізма. У аповесці «У дрымучых лясах» пісьменнік стварае шырокую карціну жыцця працоўных беларускага мястэчка ў апошнім дзесяцігоддзі XIX стагоддзя. У цэнтры аповесці вобраз хлопчыка з беднай яўрэйскай сям'і, праз успрыйманні якога і падаюцца падзеі навакольнага жыцця.

Змітрок Бядуля прайшоў складаны літаратурны шлях. Вызваліўшыся ад некаторых памылак у пачатку сваёй дзейнасці, ён затым стаў гарачым песняром новага соцыялістычнага жыцця. Многія яго творы перакладзены на шмат якія мовы народаў СССР і сталі здабыткам усесаюзнай літаратуры. У 1939 годзе Зм. Бядуля за выдатныя поспехі ў развіцці беларускай літаратуры ўзнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцягу.

У пачатку вайны Зм. Бядуля эвакуіраваўся з Беларусі і памёр у дарозе 3 лістапада 1941 года.

Літаратурная спадчына выдатнага пісьменніка Беларусі Змітрака Бядулі з'яўляецца каштоўным укладам у нацыянальную культуру нашай рэспублікі.

## Слаўны юбілей

Напярэдадні святкавання 4-й гадавіны Кастрычніка ўпершыню ў гісторыі Беларусі ў Мінску адкрыўся Беларускі дзяржаўны універсітэт. Ён распачаў сваю работу паводле вядомага дэкрэта В. І. Леніна аб адкрыцці новых універсітэтаў і іншых вышэйшых навучальных устаноў. Гісторыя нараджэння БДУ непарыўна звязана з вялікім Кастрычнікам.

І да Кастрычніка былі спробы ліберальна настроенай інтэлігенцыі заснаваць у Беларусі універсітэт. Але ўсе гэтыя спробы не прывялі да жаданых вынікаў. Мінская гарадская дума, напрыклад, пяць разоў хадайнічала аб адкрыцці універсітэта. Пасылаліся запытанні і петыцыі губернатару, у Пецярбург.

Адказ быў нязменны — адкрываць універсітэт у Мінску няма патрэбы. Царскі ўрад баяўся, што новы універсітэт можа стаць рассаднікам рэвалюцыйных ідэй.

Вялікі Кастрычнік адкрыў беларускаму народу нечуваныя раней магчымасці для развіцця сваёй культуры. Адкрыццё універсітэта з'явілася адным з многіх звенняў культурнай рэвалюцыі.

Першы набор ва універсітэт быў даволі значным — 1440 чалавек. Гэта былі дзеці рабочых і сялян, дэмабілізаваныя чырвонаармейцы. Многія з жадаючых вучыцца ва універсітэце не мелі яшчэ патрэбнай агульнаадукацыйнай падрыхтоўкі. Для іх быў адкрыт рабфак, які рыхтаваў ва універсітэт.

У арганізацыі БДУ прымала ўдзел уся савецкая краіна. Кнігі, лабараторнае абсталяванне прыбывалі з Масквы, Ленінграда, Казані і іншых гарадоў.

Універсітэт рос з кожным годам. Ужо ў 1925 годзе адбыўся першы яго выпуск. Універсітэт закончылі 55 чалавек. Гэта былі першыя спецыялісты, якія накіроўваліся ў школы, у бальніцы, на прадпрыемствы і ў культурныя ўстановы. Паток выхаванцаў БДУ, якія былі заклікаGны змагацца за новую соцыялістычную культуру, павялічваўся з кожным годам.

У сценах універсітэта навучаліся вядомыя беларускія пісьменнікі Кандрат Крапіва, Кузьма Чорны, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка. У якасці выкладчыка ва універсітэце доўгі час працаваў народны паэт Беларусі Якуб Колас.

На базе факультэтаў універсітэта ў пачатку трыццатых гадоў арганізаваліся самастойныя вышэйшыя навучальныя ўстановы — Мінскі педагагічны інстытут, Політэхнічны інстытут, Інстытут народнай гаспадаркі, медыцынскі інстытут.

Перад вайной працоўныя Беларусі збіраліся адзначыць дзесяцігоддзе свайго універсітэта. Але гэтаму перашкодзіў напад фашысцкай Германіі. Фашысты свядома разбурылі універсітэт, знішчылі кнігі і абсталяванне, расстралялі навуковых супрацоўнікаў.

Дзякуючы клопатам Комуністычнай партыі і савецкага народа яшчэ ў суровыя гады вайны была аднаўлена дзейнасць Беларускага універсітэта. Ён пачаў працаваць у 1943 годзе на станцыі Сходня, пад Масквой.

Працоўныя Савецкай Беларусі адзначаюць у гэтыя дні 35-годдзе свайго універсітэта. За пасляваенныя гады не толькі аднаўлена ўсё разбуранае, але і ўзведзены новыя карпусы, адкрыты новыя факультэты і кафедры. Сёння ва універсітэце навучаецца звыш 5,5 тысяч студэнтаў. Універсітэту прысвоена вялікае імя заснавальніка савецкай дзяржавы — В. І. Леніна.

Я. ІКОННІКАВА.



У рабочым кабінеце старэйшага выкладчыка універсітэта, акадэміка В. Н. Перцава. Злева направа: В. Н. Перцаў, студэнт гістарычнага факультэта дыпламант А. Хількевіч, загадчык кафедры гісторыі СССР кандыдат гістарычных навук Л. С. Абэцэдарскі і студэнт-дыпламант Е. Вашкевіч.

## Вачыма іншаземцаў

Шмат беларусаў пабывалі ў гэтым годзе за мяжою — у Чэхаславакіі, Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы, Югаславіі, зрабілі падарожжа вакол Еўропы на цеплаходзе «Пабеда». У сваю чаргу і Мінск толькі за лета гэтага года наведала больш 400 чалавек з Польшчы, Чэхаславакіі, Францыі, Бельгіі, Індыі, Злучаных Штатаў Амерыкі, Галандыі і іншых краін.

Многім хочацца праверыць, што-ж з'яўляецца праўдай: тое, што бачаць яны ў нашых кінофільмах, чуюць па радыё, чытаюць у кнігах і часопісах, ці тое, аб чым даведваюцца з некаторых замежных буржуазных часопісаў, якія нярэдка выдумляюць пра нас шмат усялякай бязглуздзіцы. Вельмі цікавыя тыя пытанні, якія задаюць нашы госці савецкім людзям. Вось некаторыя з іх:

— Ці існуе ў СССР скасаванне шлюбаў?

— Ці праўда, што калі рабочы дрэнна працуе, дык супраць яго ўжываюцца розныя рэпрэсіі?

— Ці праўда, што Дом культуры прафсаюзаў дазволена наведваць толькі членам прафсаюза?

— Ці праўда, што рабочага ў парадку загаду прызначаюць на той ці іншы завод?

Пераважная большасць турыстаў сумленна імкнецца зразумець савецкую рэчаіснасць, уклад жыцця савецкіх людзей. Ёсць і такія, што свядома не хочуць бачыць нічога добрага і вышукваюць толькі ценявыя бакі. Але аб іх не будзем гаварыць, тым больш, што такіх — абсалютная меншасць.

Але лепш за ўсё аб уражаннях іншаземцаў расказвае кніга водгукаў, якая ёсць у мінскім аддзяленні таварыства «Інтурыст».

Вось запіс амерыканскага турыста, журналіста па прафесіі, Генры Шоснес:

«Быў у Мінску ў 1915 годзе. Сорак год прайшло: дзве вайны, Вялікая рэвалюцыя. І, о цуда: бачу перад сабой сталічны цэнтр, сплянаваны з шырынёю і прыгажосцю. Бачу людзей, якія аб'яднаны адной агульнай ідэяй, працай і надзеяй. Бачу працэс у перспектыве».

Быў да вайны ў Мінску і прамысловец з Н'ю-Йорка С. Гофман. Яго запіс не менш цікавы:

«Я быў у Мінску да вайны. Зараз здзіўлены, убачыўшы, як цудоўна аднаўлены Мінск пасля разбурэння. Некаторыя вуліцы я магу параўнаць з парыжскімі. Усе грамадскія ўстановы проста чароўныя».

Наведала Мінск і лектар-падарожніца з штата Масачусетс Юніс Гарыет Эўры. Яна была на фабрыках, у піонерскім лагеры, на плодагародніннай станцыі ў Лошыцы, зрабіла больш 60 здымкаў, дэталёва азнаёмілася з усімі падрабязнасцямі. У кнізе водгукаў яна напісала:

«Вельмі рада, што наведала Мінск. Яго людзі лепш дапамаглі мне зразумець гісторыю вялікага горада і яго насельніцтва. У соўгасе, піонерскім лагеры, на фабрыках, на велічавых вуліцах мне ўявілася яго будучыня. Жадаю Мінску і яго насельніцтву ўсяго найлепшага заўсёды і ва ўсім».

Усе гэтыя і другія водгукі цікавыя тым, што пішуць іх далёка не комуністы. Савецкая рэчаіснасць пераконвае гасцей з-за мяжы, што наш народ шчыра жадае міру, што ён заняты стваральнай мірнай працай, што ў нас бязупынна расце матэрыяльны добрабыт працоўных. Міжнародны турызм спрыяе лепшаму ўзаемаразуменню паміж усімі народамі.

Н. МАЦВЕЕЎ.



# ВУЛІЦА ІВАНА АБЦЭШКІ

**Фотанарыс С. КУХАРАВА і С. ЧЫРЭШКІНА**

На ўскраіне Мінска, побач з магілёўскай шашой, вырас новы пасёлак — Заходні. Яго яшчэ называюць гарадком падшыпнікавага завода, бо ў асноўным тут жывуць рабочыя, інжынерна-тэхнічныя работнікі і служачыя гэтага завода. Гэта адзін з рабочых гарадкоў, што ўзніклі ў гады пасляваенных пяцігодак у Чырвоным урочышчы; ён на многія кіламетры развінуў гарадскія граніцы.

Заходні пасёлак, бадай, самы малады ў гэтым новым прамысловым раёне горада. Ужо над векавымі соснамі ўзняліся шматпавярховыя гмахі пасёлка аўтамабілебудаўнікоў, ужо засяляліся кварталы трактарнага гарадка, а тут, за шашой, была чыстая паляна.

Сем год назад у спякотлівыя ліпеньскія дні сюды прышлі маладыя будаўнікі — муляры, цесляры, зрабілі дашчатыя падсобніцы-пячуркі. І — закіпела работа. Адзін за другім, як грыбы пасля парнага дажджу, вырасталі на нядаўняй пустцы жылыя дамы, бытавыя будынкі. Адначасова, цераз шашу, валіліся сосны — тут закладаліся падмуркі новага ў рэспубліцы прадпрыемства — падшыпнікавага завода.

У слаўным атрадзе будаўнікоў, якія заснавалі Заходні пасёлак, яшчэ тады вызначыліся муляры Іван Абцэшка, Анатоль Гоман і Уладзімір Ракавец. Зусім хлапчукамі прыйшлі яны з розных беларускіх вёсак на адбудову Мінска, нясмела ўзялі ў рукі кельмы. Не лёгкі быў першы самастойны хлеб. Давялося перажыць няўдачы і сумненні, але хлопцы не разгубіліся, не адступілі перад цяжкасцямі, стаўшы на дарогу самастойнага жыцця. Гэта і зразумела — яны былі камсамольцамі.

І вось мінулі гады. Там, дзе некалі была пустэча, узнік новы прыгожы гарадок. Простыя, аднолькавай архітэктуры беласнежныя дамы-катэджы радуюць вока. У розныя бакі бягуць шырокія заасфальтаваныя вуліцы-праезды; пад вокнамі шэпчуцца ў асенняй пазалоце рослыя акацыі і ліпы. На пасёлку ўсё пад рукамі — школа, магазіны, сталовая, камбінат бытавога абслугоўвання, бібліятэка, дзіцячы сад, яслі...

За апошні час пасёлак значна пашырыўся. Забудаваны новыя кварталы трохпавярховымі дамамі. Нядаўна будаўнікі здалі вялікі інтэрнат і бальніцу; заканчваецца будынак тэхнікума. Да святкавання XXXIX гадавіны Вялікага Кастрычніка зданы яшчэ адзін інтэрнат і два жылыя дамы.

Ідуць хлопцы з работы па прасторных кварталах гарадка, глядзяць на працу сваіх рук, і стомленасць знікае, у грудзях шырыцца радасць: мы рабілі, нашай брыгады праца!

Анатоль Гоман, камлюкаваты, з моцнымі, цяжкімі рукамі, стоячы на ўзгорку, акідвае позіркам беласнежныя дамы гарадка і гаворыць свайму сябру:

— Памятаеш, Іване, як закладвалі вось гэтыя дамы?

— А як-жа, — абзываецца Абцэшка. — Добра памятаю. Лета тады было вельмі спякотлівае, а нам нішто: па тысячы цаглін укладвалі!..

— А памятаеш, як нас тады ганяў Валодзя Яўлаш? — зноў пытае цёмнавокі Гоман.

— Яшчэ-б не памятаць! — страсянуў чарнявым чубам Абцэшка. — Строгі быў настаўнік...

Муляры-сябры, спыніўшыся ля чатырохпавярховага будынка школы, задумліва пазіраюць на шырокую вільготную вуліцу, якая ўдалечыні звужаецца, зліваючыся ля шашы ў шэрую стужку. Насустрач цячэ людская плынь. Людзі, як са старымі знаёмымі, вітаюцца з будаўнікамі.

— Іван Мікалаевіч, паступілі ў бібліятэку цікавыя кніжкі, загляньце!..

— Анатоль, запрашэнне табе — у цырульню!..

Сябры збочваюць управа, губляюцца ў натоўпе. У адным з гэтых катэджаў, якія самі будавалі, яны і жывуць. Праўда, пакуль цесна, у адным пакоі, але начальнік будаўнічага ўчастка Іосіф Пятровіч Кадэр запэўніў: да сёлетняй гадавіны Кастрычніка хлопцы атрымаюць добрыя кватэры.



Іван Абцэшка (злева) са сваім сябрам Анатолем Гоманам у раённай бібліятэцы.

Пражыта не так многа — сем год. А якія змены, колькі зроблена! Іван Абцэшка, Анатоль Гоман, Уладзімір Ракавец ужо спрактыкаваныя, сталыя муляры, майстры сваёй справы.

Усе яны паспелі пабываць на вайсковай службе, узмужнелі, загартаваліся, вярнуліся ў родную брыгаду, узялі ў рукі верную сваю спадарожніцу-кельму і, як і сем год назад, сталі на рыштаванні. «Старыкі», як іх называюць маладзейшыя сябры, ідуць правафлангавымі ў дружным калектыве сваёй маладзёжнай брыгады. Цяпер брыгадзірам стаў Іван Абцэшка, адзін з энергічных і кемлівых муляроў.

У будтрэсце № 136, які вядзе забудову гэтага новага прамысловага раёна, брыгада Абцэшкі заваявала адно з першых месц у спаборніцтве будаўнікоў. 150—160 працэнтаў месячнага задання — такі вытворчы паказчык маладых будаўнікоў.

Малады, увішны брыгадзір здолеў згуртаваць сваіх хлопцаў і дзяўчат у дружны, працавіты калектыў. Вучачыся ў лепшых муляроў, усе члены брыгады добра асвоілі мулярскую справу і працуюць комплексным метадам, усе ўдзельнічаюць у галоўным вытворчым працэсе—кладцы цэглы. У брыгадзе няма



Да Івана Абцэшкі, які сем год назад скончыў школу ФЗН № 11, прышлі на практыку вучні гэтай школы — камсамольцы Георгі Сержановіч, Пётр Лаўрэнаў і Уладзімір Ёжык.

падзелу на так званых майстроў і падсобнікаў — усе ўмеюць трымаць кельму, цяслярнічаць. Яшчэ нядаўна ў брыгаду прыйшлі вясковыя дзяўчаты Марыя Радаман і Марыя Бульчук, а сёння яны — самастойныя муляры, працуюць не горш за хлопцаў.

Прыемна глядзець, як мුруюць дом Іван Абцэшка і яго сябры. Вось вядзе кладку Марыя Радаман, рослая, чырвонашчокая дзяўчына. Цагліны, як чырвоныя пакеты-лісты, мільгаюць у яе дужых, абветраных руках. У вачавідкі расце сцяна. Непадалёк працуе муляр Васіль Шкуцько, хлопец з нясвіжскай вёскі. Здаецца, ціха, павольна рухаецца ён, але і ў яго рухі дакладныя, разлічаныя. Хлопец працуе моўчкі, нават ні разу не паглядзіць у той бок, дзе схілілася Марыя, але востраязыкі Валодзя Ракавец ужо каторы раз упікае: не лаві варон, Вася, бо дзяўчына любіць перастане!..

«Не перастане, — моцна ўпэўнены Васіль. — На Кастрычніцкае свята вяселле дамоўлена», а ўсё-ж на валодзевы кепікі нязлосна адказвае:

— Ты глядзі, каб цябе жонка не разлюбіла...

Але Валодзя і не злуе, ён упэўнены, што разам з усімі сябрамі, калі будзе вяселле, заўзята крыкне «горка!» Такія ўжо людзі ў абцэшкавай брыгадзе: і добрае, і благое дзеляць разам, адной сям'ёю.

Зусім нядаўна ў брыгаду прышло новае папаўненне — дэмабілізаваныя воіны Леанід Леўчанка і Васіль Вітка і двое выпускнікоў школы ФЗН — Валянцін Кандратовіч і Віктар Малахоўскі. Навічкі хутка асвоіліся і палюбілі свой калектыў і сваю новую працу.

— Мне пашанцавала,— шчыра хваліцца Леанід Леўчанка.— За тры месяцы я набыў новую спецыяльнасць — муляра.

— І мы хутка павысім свае разрады,— дзеляцца сваёй радасцю хлопцы са школы ФЗН.

...Учора брыгада Абцэшкі закладвала падмурак, а сёння больш як на два метры ўзняліся сцены будучага шматкватэрнага дома. Адсюль, з узгорка, увесь Заходні пасёлак відзён, як на далоні. Асляпляюча бялеюць прамавугольнікі дамоў у празрыстай асенняй сіняве. Добра відаць рады дамоў той вуліцы, якую сем год назад забудоўваў Іван Абцэшка, хлопец з Капыльшчыны, са сваімі сябрамі. Вуліцы ў пасёлку не маюць назваў — іх называюць проста: квартал першы, квартал другі...

А добрая была-б назва — «Вуліца Івана Абцэшкі». Такія людзі, як Іван і яго сябры-муляры, заслугоўваюць гэтага.

Іван Абцэшка.






# Ляпіцаў гай

Іван НАУМЕНКА

Эцюд

«Мяне ўзнялі юнацтва
дні — майго адлёту
крылы».

**Аркадзь Куляшоў.**

У вялікім раённым сяле Бацькавічы, на тым месцы, дзе была некалі пыльная кірмашовая плошча, цягнуцца да сонца сваімі срабрыстымі кронамі разложыстыя таполі. Таполям толькі крыху болей як па дзесяць гадоў, але-ж вядома, што дрэвы гэтыя надзвычай гонкія ў сваім росце. Карацей кажучы, бацькавіцкім закаханым ёсць куды пайсці летнім вечарам, калі на небе высыплюць частыя зоркі, а хітраваты круглы месяц пачынае ўсміхацца са сваёй вышыні.

Адны называюць плошчу, засаджаную таполямі, паркам, другія — скверам. Спрачацца з аматарамі вячэрніх зорак на гэты конт, бадай, не варта, бо ў Бацькавічах дзве гэтыя назвы добра і мірна ўжываюцца. Тым болей, што ёсць і трэцяя, самая галоўная назва — Ляпіцаў гай...

Сказаць пра Ляпіцаў гай толькі тое, што вечарам тут грае мандаліна і што на кожнай лавачцы чуваць прыцішаныя, вымаўленыя для аднаго або адной словы, будзе палавінай праўды. Калі-ж гаварыць усю праўду, то нельга абмінуць і зялёны домік, які стаіць пад самай навіссю срабрыстых таполяў. Домік гэты не дужа прыкметны ў суседстве з двухпавярховай каменнай будынінай. Але не скажаш, што ў Бацькавічах ніхто не запыняе позірку на зялёным доміку, які двума сваімі вокнамі даволі бадзёра пазірае на белы свет.

Пад дахам гэтага прыветлівага на выгляд доміка збіраецца самы рознастайны люд. Заходзяць сюды шафёры, якія па той ці іншай патрэбе прыгналі свае паўтаратонкі ў Бацькавічы. Пасля нарады або справаздачы заглядваюць старшыні калгасаў, брыгадзіры, жывёлаводы. Адным словам, многія з тых, хто прыехаў у Бацькавічы па асабістых ці службовых патрэбах, калі ў кішэні ляжыць скамечаная дзесятка, рэдка здолеюць мінуць парог зялёнага доміка.

Але не падумайце благога пра зялёны домік. Сюды заходзіць сумленны народ. Заходзяць з дарогі або перад дарогай, заходзяць двое або трое, калі яны стрэліся пасля доўгага растання. Як-жа дзеля такога выпадку не пасядзець за столікам, засланым цыратай з адбітымі на ёй доўганогімі жуўравамі? Як не пагаварыць пра жыццё-быццё, пра яго ўздымы і няходжаныя пакручастыя сцежкі?

Добра пасядзець тут летнім вячэрнім часам, калі паціху згасаюць размаітыя фарбы дня, а разложыстыя таполі, што, нібы ганаровая варта, стаяць пры зялёным доміку роўнай чарадой, пачынаюць шаптаць сваім срабрыстым лісцем пявабную і таемную казку ночы.

Хто калі перажываў расстанне з роднымі мясцінамі, той ведае, як радасна і дорага ўбачыць іх зноў, прайсці па скрыпучым тратуары і не аступіцца ў тым месцы, дзе адразу нехапае двух дошчак. Нават таму, што дзірка ў тратуары знаёмая, старая, сэрца напаўняецца прыемнай цеплынёй. Бо ці не па гэтым самым тратуары ішоў ты, блытаючы крок, і можа ўпершыню ў жыцці вёў пад руку тую, пра каторую трызніў у сне і на яве. Ты ішоў п'яны без віна і спалохаўся па-сапраўднаму, калі твая каханая ледзь не ўпала, трапіўшы нагой у тратуарную шчыліну. Ты абураўся тады ўсім сэрцам на комунгасаўскага начальніка, які пад носам у сябе не бачыць такіх беспарадкаў. А цяпер табе ніколечкі не крыўдна, што на дашчаным тратуары дзірак яшчэ больш і, мабыць, захавалася тая, памятная...

Ты прыехаў у свае Бацькавічы і бачыш, што сям-там павырасталі новыя камяніцы. І ты глядзіш на іх нават трошачкі недружалюбна. Іх-жа тады не было, гэтых камяніц, і ты як-бы рэўнуеш, што выраслі яны без цябе...

Але яшчэ больш такога, што пазнаеш ты да самых малюткіх дробязей. Той-жа поўны жнівеньскі месяц узыходзіць над дахамі родных Бацькавічаў, так-жа шчодра высыпаюць частыя зоркі. Ёсць адна ў небе такая зорка, на якую ты загадаў даўно-даўно, яшчэ калі табе ў бібліятэцы для дарослых не вельмі ахвотна давалі кнігі. У жнівеньскую поўнач, як і тады, гэтая зорка свеціць над самай тваёй галавой. Стаіць на сваім месцы па-ранейшаму зялёны домік, акружаны новым Ляпіцавым гаем...

Няхай даруюць суровыя крытыкі, асабліва тыя, што нават памятныя сустрэчы адзначаюць квасам або ліманадам. Сёння варта зайсці ў зялёны домік у знак спаткання з роднымі мясцінамі і сябрамі. Сябры — бацькавіцкі ляснічы Цішка Дрозд і настаўнік Мікола Біцюг разам са мной. Не так даўно Цішка не быў ляснічым, Мікола — настаўнікам, а ўсе мы

ўтраіх тады ніколі не расставаліся. Дык чаму-ж нам не зайсці ў зялёны домік?

Недзе ў скверыку іграе мандаліна, шэпчуць срабрыстым лісцем таполі. А мы будзем сядзець і размаўляць да таго часу, пакуль цётка Анэля, якая ўжо восем гадоў нязменна пампуе піва, не скажа, што пара зачыняць зялёны домік.

— Ну, дык як твой, Цішка, лес расце?

Цішка смяшлівы і спакойны, ён рэдка калі здзіўляецца, і хоць мы не бачыліся ўжо цэлых тры гады, ён расказвае з такім выглядам, нібы мы развіталіся ўчора.

— Бераслет такі расце на балоце, я-ж табе казаў. Вучоныя ўсё спрачаюцца: будзе ён расці на балоце ці не, а ён расце. У два разы хутчэй, як на звычайным грунце.

Цішка любіць лес, яму, відаць, падабаецца быць гаспадаром ляснічым. Ён насадзіў берасклетавыя плантацыі на асушаных тарфяніках і можа пра берасклет расказваць усю ноч. Ён нават становіцца крыху хвальком, гэты спакойны і смяшлівы Цішка.

Мікола Біцюг крыху падтруньвае з яго. Гэта, можа, таму, што яму, Міколу, няма чаго асабліва расказваць пра сябе. Вучыць ён сабе дзяцей і ўсё. Дзеці канчаюць школу, становяцца дарослымі, працуюць. Што-ж тут асаблівага раскажаш.

Я адчуваю, што і Мікола і Цішка, канешне, хочуць трохі пахваліцца перада мной. Міколу зрабіць гэта цяжэй, у яго няма таго, што ёсць у Цішкі — берасклету. І школа, дзе працуе Мікола, самая звычайная, у ёй адно крыху лепш, другое крыху горш, чым у іншых школах.

У юнацтве-ж Мікола быў куды больш бунтарнай натурай, чым Цішка. У яго душы жыло шмат усялякіх захапленняў. Адзін час ён лічыў, што прысвеціць сваё жыццё збіранню народнай творчасці. Мікола тады сумеў улагодзіць усіх знаёмых бабулек, і яны вечарамі спявалі яму песні, а ён запісваў. Запісаў набралася некалькі сшыткаў, але пасля аказалася, што ўсе міколавы песні надрукаваны ўжо гадоў восемдзесят назад.

Пазней Мікола падбіў і мяне пісаць гісторыю нашых Бацькавіч. Па тым часе ў мяне была ўжо досыць грунтоўная адукацыя — цэлых восем класаў. Мы з запалам узяліся за работу. Была спісана вялікая бухгалтарская кніга, дзе з вышыні птушынага палёту мы аглядалі гісторыю роднага сяла. Мы не забылі ні адной больш-менш прыкметнай падзеі, якая адбылася на нашых вачах, або на вачах нашых бацькоў. Але чым далей мы заглядвалі ўглыб мінулага сівога веку, тым справа аказвалася цяжэйшай. Па-першае, ніякіх рукапісаў ці манускрыптаў у нашых Бацькавічах не знайшлося. А сельсовецкі сакратар Жыкун проста прагнаў нас, калі мы ў імкненні да аб'ектыўнасці папрасілі паказаць царкоўныя кнігі з метрычнымі запісамі.

Адным словам, адзінай крыніцай для нас, як для гісторыкаў, заставаўся мой васьмідзесяцігадовы дзед Атрахім. Але і тут нас напаткала няўдача. Справа ў тым, што мой родны дзед быў цвёрда пераконаны, што раней было ўсё добра, а цяпер усё перавярнулася і стала горшым. Ён не хацеў слухаць ні пра трактары, ні пра заводы, а дакazваў сваё. Довадаў у дзеда было не асабліва багата.

— Зойдзеш, бывала, перад вялікім пастом да Румана ці Ёткі,— гаварыў дзед Атрахім,— дык колькі хочаш бяры і тараноў, і селядцоў, і алею. І напавер давалі. А цяпер знайдзі таго тарана хоць за грошы. Богу душой не вінават, а прыходзіцца скароміцца...

У сваёй гісторыі мы збіраліся паказаць Ётку і Румана як бязлітасных эксплуататараў, мясцовых багацеяў і буржуяў. А мой родны дзед узносіў іх да неба. На грунце такога ўзаемнага непаразумення прыйшлося нам разысціся з дзедам Атрахімам. Ён не мог для нас, гісторыкаў, служыць надзейнай крыніцай. Але факт застаўся фактам — гісторыя Бацькавіч не была даведзена да канца.

Перад самай вайной Мікола раптам захапіўся вайсковай справай. Ён перачытаў усё, што магло знайсціся ў нашых Бацькавічах пра Суворава і Кутузава. Сваё жыццё Мікола наважыў аддаць артылерыі. Яшчэ не скончыўшы дзесяцігодкі, ён паслаў запытанне ў вайсковае вучылішча. Але вучыцца на артылерыста майму сябру не прыйшлося. Пачалася вайна...

У процівагу Міколу, у юнацтве Цішка быў больш сузіральнай натурай, любіў паразважаць і пасмяяцца. Цішка рос без бацькі. Яго бацьку, які працаваў на чыгунцы, раптам паслалі на курсы. Там ён правучыўся цэлых два гады і вярнуўся апрануты ў форменны суконны касцюм. Яго прызначылі дзяжурным па станцыі. Дома бацька заявіў, што ён разбіраецца цяпер не толькі ў простых дробах, а і ў дзесятковых і таму жыць з цішкавай маці не будзе, бо яна так і засталася малапісьменнай.

Цішка, канешне, апранаў новыя сарочкі радзей, чым мы з Міколам. Не вельмі-ж разгонішся на той сотні, якую вылічвалі з бацькавага заробку. Але ён быў надзіва шчодрай душой. У яго можна было ўзяць любую кніжку, няхай гэта была-б самая любімая цішкава кніжка. Аднойчы я хацеў купіць падручнікі, а грошай не ставала. Цішка без хістання выняў мне з кішэні пяцёрку. У яго таксама засталася пяцёрка на два тыдні да чарговых бацькавых аліментаў. І ён сам забыў пра пазычаныя мне грошы. Дык хіба-ж калі-небудзь забудзеш пра такую дарагую пяцёрку?

Вось таму мы і сядзім у зялёным доміку, які акружаны слаўным Ляпіцавым гаем, разважаем пра жыццё-быццё, пра тое, што прайшло і што яшчэ абавязкова павінна быць. Вецер паціху гладзіць срабрыстыя галовы таполяў, пахне мятай і даспелымі антонаўскімі яблыкамі. У скверыку смяюцца дзяўчаты і хлопцы, з якіх мы, мабыць, ужо нікога ў твар не ведаем.

А Цішка гаворыць, на яго проста няма сёння ўпынку. Калі ўдумацца ва ўсё, што ён нам паведаміў сёння, то выходзіць, нібы і ляснічы ён самы лепшы, і лясніцтва ў яго самае адменнае. Мабыць, трохі хвальком стаў наш Цішка. Раней такога з ім быццам не было. Але па-ранейшаму Цішка ўмее ўсміхацца па-дзіцячаму шчыра, даверліва і, канешне, нічога благога з ім не здарылася і не здарыцца ніколі.

Мы ведаем утраіх, хоць гэтага ўслых і не гаворым, што не проста так сабраліся пад дахам зялёнага доміка. Тое, што мы спаткаліся пасля доўгага расстання, гэта, вядома, прычына. Але-ж, мабыць, ёсць і другая яшчэ большая прычына. Нам цяпер за трыццаць, а дружбе нашай без усялякай хлусні па дваццаць гадоў. Плялі мы некалі смелыя планы накont будучага жыцця, нашага месца і ролі ў гэтым самым жыцці...

Наш Мікола, які цяпер усяго толькі выкладае гісторыю ў бацькавіцкай школе, некалі-ж думаў прабірацца ў Балгарыю і падымаць там народ на рэвалюцыю. І навошта праўду таіць, мы сур'ёзна і падрабязна абмяркоўвалі міколаў план. Яшчэ тады, калі балгарскі народ стагнаў у няволі, Мікола выпісаў з самай Масквы балгарскі слоўнік.

З-за вялікай адлегласці ў часе цяжка ўспомніць, наколькі далёка пайшоў наш Мікола ў балгарскай мове. Але мы памятаем — рэвалюцыйныя лозунгі ён ведаў добра. Ён вымаўляў іх з уздымам, з натхненнем, і русявая пасмачка валасоў спадала пры гэтым на яго высокі лоб. Мы верылі, што за ім, безумоўна, пойдуць балгары на смяротны бой...

Нам за трыццаць ужо такім чынам, і можна падвесці сякія-такія рахункі зробленаму.

Вядома, Міколу не прыйшлося падымаць рэвалюцыі ў Балгарыі. Паднялі яе там і без яго. Але-ж важна другое — Мікола ўсё-такі адчуваў, што рэвалюцыя балгарам трэба, і аб гэтым можна ўспамінаць нават і ў трыццаць год.

Мы ўспамінаем, смяемся, а Мікола нікольki не крыўдзіцца. Хацелася-б толькі спытаць у яго, ці не пляце такіх самых смелых планаў хто-небудзь з міколавых сённяшніх выхаванцаў. Але паставіць рубам такое пытанне, здаецца, няёмка. Мы размаўляем пра другое, а ў Міколы вырываецца само:

— А вы ведаеце, што тысячу гадоў назад у нашых Бацькавічах спынялася кіеўская княгіня Ольга?

Гэтага мы не ведалі, вядома, але раз Мікола гаворыць, то ён нешта чуў. А наш сябра расказвае старую легенду пра Ёўжыныя студні, якія былі нібыта выкапаны непадалёк ад нашых Бацькавіч, каб вялікая княгіня, якая аб'язджала свае ўладанні, напілася чыстай вады. Гэтую легенду Мікола вычытаў у Адама Кіркора, які жыў за сто гадоў да яго і пісаў пра нашы мясціны. Але куды цікавей тое, што гэтае-ж паданне толькі ў новай адзежыне Мікола пачуў ад самага славутага бацькавіцкага старажыла.

— Дык цяпер ты, летапісец Нестар, мабыць, шукаеш гэтых студняў?

— Я ўжо іх знайшоў, — спакойна гаворыць Мікола.— І студні, і гарадзішча. Бацькавічы раней не на гэтым месцы стаялі. На гэтым месцы яны з часу шведскай вайны. Шведы, мабыць, спалілі іх. А другі раз яны былі спалены, калі казак Нябаба тут ваяваў з панамі.

Мікола, відаць, пільна стаіць на варце слаўнага мінулага нашых Бацькавіч. Можа, ён і дапіша тую гісторыю, якую не змаглі мы напісаць гадоў шаснаццаць назад...

— Ты нам заўтра раскажаш пра гарадзішча,— гаворыць Цішка.— Гэта цікава, калі ты не выдумаў.

— Заўтра не раскажу, бо паззвалі мяне на вяселле. Жэніцца мой выпускнік на маёй-жа выпускніцы. А гарадзішча ты і сам ведаеш. Ты-ж сам адвёў там месца для кароўяга тырла, неразумная лясная галава.

Такі ўеў Мікола скептычна настроенага да яго гістарычных вышукаў Цішку.

Мне здаецца ўсё-ж, што Мікола дарэмна падкалвае Цішку. Мог, вядома, ляснічы і не ведаць, дзе калісьці было гарадзішча. Але-ж гэта яшчэ не гаворыць, што ён абыякавы да гісторыі Бацькавіч. Ён, можа, і сам робіць гэтую гісторыю. Цішка хваліцца берасклетам, але маўчыць пра дубы. А ён-жа насадзіў іх гектараў сто. Берасклет праз дзесяць год высякуць на гутаперчу, а дубы будуць расці і расці. Гадоў праз трыста паглядзяць на іх

Яраслаў ПАРХУТА

## ГОРАД НА АНГАРЫ

Аб тым паведаюць дарогі,
Ці надпіс рэдкі на скале,
Што праз Падунскія парогі
Не шмат праходзіла далей.

Ды славу тых землепраходцаў
Пранеслі мы па Ангары,
Палаткі там разбілі хлопцы
І пазапальвалі кастры.

Цяпер над горным перавалам
Арлы кружылі ў вышыні,
Здзіўлялі, пэўна, іх нямала
На гэтым беразе агні.

Тут горад вырасце на славу.
І заўтра гэтай стараны
Мы пазнаем цяпер яскрава,
Нам далі новыя відны.

## ЗА ПЕРАВАЛАМ — ПЕРАВАЛ

Шмат дарог нялёгкіх за плячыма,
Вадаспадаў і замшэлых скал.
Толькі ці здаволіць адпачынак,
Калі там, пад сонцам, перавал?

І няхай няпрошанае стомы
Зноў грукоча ў скроні малаток,
Да вяршыні гэтай невядомай
Цвёрда мы за крокам робім крок.

У абдымкі кінуліся ветры.
Тут зрабіць-бы ў самы раз прывал.
Ды ўдалі на многа кіламетраў
Зноў за перавалам перавал.

людзі і скажуць: «Не дарма пражыў на свеце той ляснік, які пасадзіў гэтыя дубы».

У скверыку зноў грае мандаліна. Чуюцца адтуль галасы — маладыя, незнаёмыя. Можа тыя двое, у якіх заўтра будзе вяселле, таксама ходзяць па нашаму скверыку, слухаюць мандаліну і ціхі шэпт срабрыстых таполяў. Яны думаюць, вядома, пра сваё шчасце. Якое толькі іхняе шчасце? Мікола, мабыць, пра гэта лепш ведае, бо ён-жа ідзе на іх вяселле, ён-жа вучыў іх.

Мы не адны ў зялёным доміку. За суседнім сталом, які засланы такой-жа, як і ў нас, цыратай з адбітымі на ёй доўганогімі жураўамі, сядзяць, як і мы, трое. У іх свая размова, да якой нам няма ніякай справы. Але вось адзін з гэтых незнаёмых нам людзей гаворыць словы, ад якіх мы ўсе ўтраіх уздрыгнулі.

— За Івана Ляпіцу, — гаворыць незнаёмы і падымае чарку.

— Няхай яму лёгка будзе на тым свеце,— прамаўляе другі.

Гэта сказалі незнаёмыя людзі, якія, можа, і не жывуць у Бацькавічах. А мы-ж лепш ведаем Івана Ляпіцу і, можа, нават абавязаны яму болей, чым якому-небудзь другому чалавеку.

...Перад вайной не было ў Бацькавічах ні старога, ні малога, хто-б не ведаў нізенькага, шчупленькага муляра і печніка Івана Казлюка, якога празвалі Ляпіцай.

Ідзем гаманлівай талакой у школу, а насустрач Ляпіца ў сваім адубелым ад гліны фартуху.

— Вы не бачылі, кірпатыя, маіх ваўкоў — збеглі яны ад мяне.

— А якія вашы ваўкі, дзядзька?

— Белыя, чырвоныя, зялёныя — усялякія.

— Га-га-га! А хіба-ж ёсць чырвоныя ваўкі?

— Дык чаго-ж вы вушы развесілі, невукі? А яшчэ прыроду вывучаюць. Марш у школу, лайдакі вы, абібокі. Я ўжо раскажу вашай настаўніцы...

А ў школе ў той дзень толькі і гамонкі пра зялёных і чырвоных ляпіцавых ваўкоў.

Ва ўсіх Бацькавічах не знайсці было хаты, дзе-б Іван Ляпіца не зрабіў печ або грубку. Яго печы і грубкі не дымілі і не чадзілі. Бывала, ідзе Ляпіца марозным днём і крычыць:

— Войска маё, стройся!

І з усіх каміноў падымаюцца ў неба роўныя слупы дыму...

Быў у Ляпіцы кум і найлепшы сябра Кузьма, таксама муляр. Яго можа-б лічылі нямым, каб ён, выпіўшы, не гаварыў адных і тых-жа слоў: «Усё, брат, ад зямлі — і хлеб, і гліна. А калі будзе хлеб і гліна — усё можна зрабіць, брат...»

Іншы раз любіў Іван Ляпіца са сваім маўклівым Кузьмой пасля таго, як яны злепяць новую печ, зайсці ў зялёны домік і перакуліць чарку.

— Яшчэ адна печ зляплена,— гаварыў пры гэтым Ляпіца.— Няхай грэюцца людзі, няхай вараць сабе страву, няхай жывуць на свеце...

А маўклівы Кузьма, спаражніўшы кілішкаў тры, можа праз паўгадзіны паттакваў: «Усё, брат, ад зямлі — і хлеб, і гліна...»

Калі мы падраслі, Ляпіца ўжо не займаў вялікага месца ў нашым жыцці. І амаль зусім мы забылі пра яго, як пачалася вайна. У родныя Бацькавічы прышлі немцы і жылі ў нашай школе, як у казарме.

У той час мы складалі планы бязлітаснай барацьбы з германскім фашызмам. Калі-б аб гэтых планах як-небудзь пранюхаў Гітлер, то ён-бы не раз пакаяўся, што распачаў вайну.

Нам трэба быў толькі кіраўнік, чалавек з баявым вопытам, які-б павёў нас на святую барацьбу. Такога чалавека мы бачылі ў асобе былога кіраўніка раённага Асоавіяхіма Хвядоса Рэдзькі. Рэдзька ўласнаручна некалі выдаваў нам значкі юных варашылаўцаў, і мы справядліва лічылі, што іменна ён павінен узначаліць нашу баявую групу.

Але Рэдзька гуляў з намі ў хованкі. Ён адпусціў сабе бараду і ўвесь час нам тлумачыў, што слабы здароўем і што яму спярша трэба падлячыцца. А калі мы намякнулі, што некалі ў Асоавіяхіме была сапраўдная баявая вінтоўка і што мы хочам яе цяпер атрымаць, Рэдзька замахаў на нас рукамі і збялеў, як палатно...



Пакуль ішоў гэты гандаль з Рэдзькам, у Бацькавічах адбылася гісторыя, пасля якой мы зусім забылі дарогу да былога раённага асоавіяхімаўца.

Стаяла першая ваенная халодная зіма. Бацькавічы, здавалася, застылі ў нейкім нямым чаканні. Вечарамі па скрыпучым тратуары грукаў каванымі ботамі нямецкі патруль. З нейкіх шчылін павылазілі яснавідцы і гадалкі. Яны нешта там загадвалі сталу, і стол грукаў усімі сваімі чатырма ножкамі, адказваючы «так» або «не»...

Невядома, што думаў у тыя дні немец-камендант пра Бацькавічы. Можа, ён радаваўся, што здабыў сабе новую вотчыну. Аднойчы камендант прывёз аднекуль бочку спірту і вывесіў аб'яву, што за кожны здадзены насельніцтвам кілаграм медзі і свінца можна атрымаць бутэльку гарэлкі. Мабыць, не толькі пра кулі і патроны з бацькавіцкай медзі думаў фашыст. Мабыць, думаў ён і пра душы, якія можна купіць за гарэлку.

Медзь і свінец панеслі нават не ўсе паліцэйскія. Але сярод тых, хто атрымліваў кварты, быў і Ляпіца. Ён цягаў з лесу цэлыя яшчэ артылерыйскія снарады. Ляпіца прыходзіў кожны дзень, на вуліцы яго чакаў кум Кузьма. Яны разам ішлі піць нямецкую гарэлку....

Мы паглядалі на Ляпіцу з нянавісцю. Мы лічылі яго, як і фашыстаў, як і паліцэйскіх, ворагам нумар адзін. Яго ўперадзе чакала наша расплата...

А праз тыдзень ноччу занялася агнём нямецкая камендатура. Бухалі ляпіцавы снарады. Зыркія водбліскі пажару скакалі ў кожным акне. Назаўтра раніцай вялі босымі па снезе падпальшчыкаў — Ляпіцу і кума яго Кузьму. Кузьма маўчаў, а Ляпіца кланяўся людзям...

Так Іван Ляпіца дапамог нам і навучыў нас. Пасля гэтага на бацькавіцкіх парканах паліцэйскія зрывалі лістоўкі. Яны былі надрукаваны сапраўдным шрыфтам, толькі літара «ф» пісалася ад рукі. Гэтай літары наш Мікола проста не знайшоў у старым хляве, дзе да вайны хаваўся набытак раённай друкарні.

Летам ужо пад нямецкай дрызінай на чыгунцы узарвалася міна. Такіх мін, мабыць, не рабілі і не робяць на свеце. Пад рэйкі мы закапалі калашыну старых цішкавых штаноў, напакаваную аманалам. У якасці запала ў стык была ўваткнута бутэлечка з сернай кіслатой, якую прышлося сцягнуць з непатрэбнай тады школьнай лабараторыі. З хіміі мы ведалі — калі кіслата трапіць на сумесь берталетавай солі з цукрам — адбудзецца выбух...

Плошчу, на якой стаяла нямецкая камендатура, пасля вайны ўжо засадзілі таполямі. Адсюль і назва — Ляпіцаў гай...

Ззяюць над роднымі Бацькавічамі жнівеньскія зоры, стаяць каля зялёнага доміка, нібы ганаровая варта, срабрыстыя таполі. Нехта ў скверыку грае на мандаліне, і, здаецца, што тут, каля самага парогу, велічна і спакойна плешчуцца амурскія хвалі...




У апошні час у друку ўсё часцей і часцей сустракаюцца паведамленні, прысвечаныя міжпланетным палётам. Па гэтых пытаннях выступаюць не толькі пісьменнікі-фантасты, як гэта было некалькі год назад, але і вучоныя.

Яшчэ ў 1954 годзе прэзідэнт Акадэміі навук СССР А. І. Несмеянаў у адным са сваіх выступленняў гаварыў, што сучасная навука і тэхніка дасягнулі такой ступені развіцця, калі стварэнне штучных спадарожнікаў Зямлі і пасылка ракеты на Месяц сталі зусім рэальнай справай.

Бурнае развіццё навукі і тэхнікі ў апошнія дзесяцігоддзі, адкрыццё і прымяненне атамнай энергіі, развіццё радыёэлектронікі, радыёлакацыі і радыётэлекіравання, дасягненні ў галіне ракетнай тэхнікі, а таксама поспехі сучаснай фізікі дазваляюць ужо зараз прыступіць да вырашэння раду навуковых і тэхнічных праблем, звязаных з міжпланетнымі палётамі.

Ажыццяўленне касмічных палётаў будзе, відавочна, складацца з трох паслядоўных этапаў. Спачатку будуць створаны аўтаматычныя штучныя спадарожнікі Зямлі без экіпажа. Потым будуць ажыццёўлены рэгулярныя палёты з людзьмі па розных арбітах вакол Зямлі і палёты аўтаматычных ракет вакол Месяца. Завяршаючым этапам першай стадыі заваявання касмічных прастораў павінна з'явіцца ажыццяўленне міжпланетнага палёту з пасадкай на Месяц, а потым і на другія планеты сонечнай сістэмы.

Што-ж такое штучны спадарожнік Зямлі і якім чынам можна ператварыць тое ці іншае цела ў спадарожніка нашай планеты.

У астраноміі спадарожнікам нябеснага цела называецца другое, значна меншае цела, якое верціцца вакол большага пад уздзеяннем сіл прыцяжэння. Так, Зямля і планеты з'яўляюцца спадарожнікамі Сонца, Месяц — спадарожнікам Зямлі.

Каб ператварыць якое-небудзь цела ў спадарожніка Зямлі штучным шляхам, трэба надаць гэтаму целу высокую хуткасць — ад 8 да 11 км у секунду, г. зн. ад 30 да 40 тыс. км у гадзіну. Каб руху спадарожніка не перашкаджала супраціўленне паветра, ён павінен рухацца вакол Зямлі на дастаткова вялікай адлегласці.

Для вырашэння такой задачы неабходны рухавік, здольны развіваць цягу ва ўмовах беспаветранай прасторы і забяспечваць высокую хуткасць палёту.

Такімі якасцямі ў поўнай меры валодаюць ракетныя рухавікі.

Ракетны рухавік вядомы людзям з даўніх часоў, але асаблівае развіццё ён атрымаў толькі ў апошнія дзесяцігоддзі.

Пасля другой сусветнай вайны ў розных краінах пачалі запускаць высотныя ракеты для вывучэння верхніх пластоў зямной атмасферы. У галоўку такіх ракет змяшчалі спецыяльную апаратуру, якая аўтаматычна рэгіструе і перадае на Зямлю звесткі аб будове і складзе верхніх пластоў зямной атмасферы; змяшчалі ў гэтыя ракеты і жывых істот — мышэй, малпаў і трусоў — для вывучэння таго, як уздзейнічаюць умовы палёту на жывыя арганізмы.

Амерыканскія вучоныя выкарысталі для высотных палётаў трафейныя нямецкія ракеты V-2, з дапамогай якіх у гады вайны ажыццяўлялася бамбардыроўка Лондана з узбярэжжа Галандыі. Пры вертыкальным запуску такая ракета магла дасягнуць 160 км вышыні. Але ўжо ў 1945 г. ракета «Вікінг-ІІ» паднялася на вышыню ў 245 км.

Для дасягнення яшчэ большых вышынь пачалі прымяняцца так званыя двухступенчатыя ракеты, якія ўяўляюць сабой дзве ракеты, злучаныя паміж сабой. У момант старту ўключаецца рухавік ніжняй, асноўнай, ступені. Калі паліва ў гэтай ступені будзе зрасходавана, аўтаматычна ўключаецца рухавік другой ступені. Двухступенныя ракеты падымаюцца на вышыню 400 км.

Вядуцца работы ў галіне стварэння трохступеннай ракеты, якая можа падняцца на вышыню 1.200 км і развіць хуткасць каля 7 км у секунду.

З ліпеня 1957 г. па снежань 1958 г. будзе праводзіцца так званы Міжнародны геафізічны год. У яго правядзенні прымуць удзел таксама савецкія вучоныя. Вялікая ўвага будзе ўдзелена вывучэнню атмасферы, у асаблівасці верхніх яе пластоў. З гэтай мэтай намечана стварыць штучныя спадарожнікі Зямлі, высотныя аўтаматычныя лабараторыі. Канструкцыі гэтых спадарожнікаў і спосабы іх запуску могуць быць розныя.

Вось адзін з праектаў.

Штучны спадарожнік будзе ўяўляць сабой алюмініевы шар папярэчнікам каля 60 см і вагой каля 45 кг, змешчаны ў насавую частку трэцяй ступені высотнай ракеты.

Ракета стартуе вертыкальна ўверх і скідвае першую ступень на вышыні 80 км, а другую на вышыні 320 км. Трэцяя ступень развівае хуткасць каля 8 км/сек, пасля чаго спадарожнік выштурхоўваецца з гнязда і пачынае рухацца па кругавой арбіце, робячы адзін абарот вакол Зямлі за 90 мінут. Унутры спадарожніка будзе размешчана аўтаматычная апаратура і радыёперадатчык.

Для работы ўсіх гэтых прыбораў неабходна электрычная энергія. Крыніцай яе будзе акумулятар. Але ён патрабуе пастаяннай падзарадкі. Для гэтага, магчыма, прыйдзецца выкарыстаць энергію Сонца.

У апошнія гады паявіліся новыя крыніцы электраэнергіі — сонечныя батарэі, якія ператвараюць сонечнае святло і цяпло ў электрычны ток. Такі прыбор будзе ўстаўлены ўнутр спадарожніка; з дапамогаю спецыяльных лінз на яго будзе накіроўвацца сонечнае святло. Для ўстойлівасці спадарожніка ён будзе прыведзены ў стан вярчэння. Дзякуючы гэтаму пры руху вакол Зямлі адзін і той-жа бок спадарожніка заўсёды будзе звернуты да Сонца. Гэта аблегчыць работу сонечнай батарэі.

Аўтаматычныя прыборы, устаноўленыя на спадарожніку, будуць працаваць бесперапынна. Але перадаваць звесткі на Зямлю ўвесь час нельга, бо для пастаяннай работы радыёперадатчыка спатрэбіцца вялікая колькасць электраэнергіі. Таму паказанні прыбораў мяркуецца запісваць на магнітную ленту і перадаваць пры кожным абароце спадарожніка вакол Зямлі, калі ён будзе пралятаць над полюсамі. У гэты час наглядальнікі з самалёта сувязі або з наземнага пункта збору даных сенняў з дапамогай радыёлакатара прывядуць у дзеянне перадатчык спадарожніка, які на працягу 30 сек. паведаміць усе даныя, запісаныя на плёнку за 45 мінут палёту.

Мяркуецца, што першыя спадарожнікі пратрымаюцца над паверхняй Зямлі некалькі тыдняў, а магчыма і месяцаў. Хуткасць іх будзе паступова змяншацца з прычыны супраціўлення паветра. Трапіўшы ў шчыльныя слаі атмасферы, яны разбурацца, падобна да метэорных целаў, не прычыніўшы ніякай шкоды.

Арбіта спадарожніка будзе загадзя разлічана з дапамогай электронных лічыльных машын. Для ўдакладнення нашых ведаў аб заканамернасцях руху спадарожніка за ім будзе весціся нагляданне з дапамогаю тэлескопаў, радыёлакацыйных станцый і іншых прыбораў.

Зараз над стварэннем першых штучных спадарожнікаў Зямлі працуюць ужо інжынеры і тэхнікі. Вырабляюцца першыя дэталі. Хутка настане дзень, калі складаныя разлікі і чарцяжы ператворацца ў зззяючы ў праменях сонца металічны шар, які свабодна рухаецца вакол нашай планеты.

А потым прыйдзе чарга стварэння вялікіх штучных спадарожнікаў — касмічных лабараторый з людзьмі, прамежкавых станцый міжпланетных палётаў.

**В. Н. КАМАРОЎ,**
**заг. навукова-метадычнага аддзела Маскоўскага планетарыя.**

---

*Вывучайце музыку!*

## Музычныя формы

У мінулай нашай гутарцы мы гаварылі, што для таго, каб музычны твор быў мастацкім, яго змест павінен быць глыбока і праўдзіва адлюстраваны ў адпаведнай мастацкай форме.

Зыходзячы з ленінскага вызначэння ўзаемасувязі зместу і формы, зусім ясна, што **ў шырокім разуменні — кожны музычны твор ёсць музычная форма,** а значыць і ў прыродзе існуе столькі музычных форм, колькі можа быць створана музычных твораў.

Разам з тым, на працягу стагоддзяў існуюць выкрышталізаваныя тыпы кампазіцый музычных твораў, г. зн. існуюць пэўныя пабудовы частак музычнага твора, пэўныя ўзаемасувязі паміж імі, якія даюць тое, што завуць музычнай структурай твора. Вось гэтая структура і ёсць музычная форма твора, якая разумеецца ў вузкім сэнсе, г. зн. так, як мы карыстаемся азначэннем «музычная форма» ў нашым быту, кнігах аб музыцы, радыёперадачах, тлумачэннях да канцэртаў і г. д. І калі так разумець азначэнне музычнай формы, зразумела, чаму М. І. Глінка пісаў, што музычная форма — «значыць прыгажосць, г. зн. суразмернасць частак для складання стройнага цэлага. Пачуццё дае асноўную ідэю; форма апранае ідэю ў прыстойную, падыходзячую рызу».

Якія-ж існуюць тыпы кампазіцый музычных твораў, так званыя музычныя формы?

Найбольш старажытнай музычнай формай і самай простай па структуры з'яўляецца пабудова народнай песні (адсюль у многім і такая яе даходлівасць). Гэта пабудова дае **аднарадковую** або **страфічную,** як мы завем, **форму.** Утвараецца аднарадковая (адначастковая) форма ў выніку таго, што адзін і той-жа вельмі кароткі напеў шмат разоў паўтараецца з рознымі словамі тэксту. Напае (па даўжыні) гэтага напеву на **адзін радок тэксту,** як напрыклад у сучасных частушках або ў старажытнай рускай быліне:

С того было с чистого поля,
С того было с тёмного моря,
С того было с тёмного лесу
Прилетела малая птица.

Страфічная музычная форма атрымліваецца ў выніку таго, што мелодыя напеву адпавядае страфе верша тэксту. Адсюль страфічная музычная форма падзяляецца ўжо на састаўныя часткі — фразы або сказы. У ёй мелодыя складаецца з запеву і прыпеву. Запеў і прыпеў — гэта два музычныя сказы, дзе першы нібы з'яўляецца музычным пытаннем, а другі — адказам або пацвярджаннем думкі. Часта страфічная музычная форма завецца таксама **куплетнай.** Яна, як вядома, шырока прымяняецца і ў нашых сучасных масавых песнях, і ў рамансах.

Пяройдзем да разгляду больш складаных музычных форм (структур). Кожны музычны вобраз твора знаходзіць сваё адлюстраванне як адна з тэм гэтага твора. Тэма павінна мець яркую мелодыю, магчымасці для музычнага развіцця, бо яна з'яўляецца адной з асноўных думак твора, носьбітам яго зместу. А адсюль і патрабаванне, што тэма павінна мець форму.

Для класічнай музыкі характэрныя тэмы, блізкія па форме да страфічнай пабудовы народнай песні. Такая пабудова атрымала назву — **перыяд,** узятую з тэорыі літаратуры.

У форме музычнага перыяду могуць пісацца невялікія творы (маленькія прэлюдыі Скрабіна, Шапена і падобныя да іх). Гэта адначастковыя па форме творы.

Калі ў творы два розныя па мелодыі перыяды, але калі яны дапаўняюць адзін другога, дык такі твор мае, як мы гаворым, **простую двухчастковую песенную форму.** У такой форме вельмі часта пішуць танцавальныя творы. Прыкладам можа служыць хоць-бы наша «Лявоніха», дзе першы перыяд заканчваецца словамі: «чаравічкі купіў», а наступны тэкст прыпадае на другі музычны перыяд.

Твор, які складаецца з трох перыядаў, прычым музычны змест першага і трэцяга аднолькавы, а другога перыяду іншы, — мае трохчастковую простую песенную форму. Узорам твора ў такой форме можа служыць просты вальс, паланез, мазурка і г. д., некаторыя песні.

# Любчанскія мільянеры

Антон БЯЛЕВІЧ

Ходзіць восень па садах калгаса «Вялікі Кастрычнік», ходзіць ды лістамі пажоўклымі шастае, яблыкі абтрасае ў кошыкі. Пах антонаўкі ў калгаснай вёсцы. Ходзіць восень па зялёнай руні — у рост азіміну выганяе. Шырока, далёка разлілося зялёнае мора. Ходзіць восень па наднёманскіх паплавах, жоўтыя палоскі трасты падымае, жураўліныя ключы над Нёманам падымае. Ходзіць восень па разvoраных барознах — бульбу шуфлюе ў капцы, у калгасныя скляпы, у крухмальныя заводы дзяржавы. Вазамі ды машынамі возіць восень дабро калгаснікам. Добра аплочваецца сёлета працадзень. Авансам ужо атрымалі калгаснікі больш двух кілаграмаў збожжавых. Па дзесяць рублёў грашыма плаціць працадзень, а «ільняны» працадзень — 25 рублёў дае праслаўленым ільнаводам. 132 гектары лёну было пасеяна ў калгасе. А такі ўрадзіў лён, што тут праз вякі такога валакністага ды рослага лёну не было. Па сем цэнтнераў валакна ды 6 цэнтнераў ільносемя даў кожны гектар. Водзіць нас старшыня калгаса па брыгадах, трасту нам паказвае.

— О цэ стагі-ярусы! — любуецца Міхаіл Сцяпанавіч Сакрэта. — Цэ-ж мільёны!

Украінскімі словамі перасыпан яго прыемны, хуткі гаварок. Нарадзіўся і вырас Міхаіл Сцяпанавіч на Украіне, а ў цяжкія дні Айчыннай вайны быў у тутэйшых мясцінах, у наднёманшчыне, у Налібоцкіх лясах партызаніў. Храбрым, баявым камандзірам быў Міхаіл Сцяпанавіч Сакрэта. Накручваў, як ён гаворыць, ворагу «хвіста».

— Найкрашчыя мясціны тут у нас, — як сапраўдны старажыл, гаворыць старшыня. — І Нёман, і лес, і лугі та качкі, журавы ў кустах. Праўда, зямля не такая тлустая, як на Украіне. Тут трошкі гіршая зямелька. Але ганьбіць нельга. Бачыце, палюбуйцеся, — паказвае новую сцірту трасты, — наша зямля такі дарунак нам дала.

І падумаў, паправіўся:

— Сваімі рукамі з зямлі вырвалі такі высокі лён. От з Таісай Аркадзьеўнай пабалакайце. Яна ў нас добра ўмее гадуваці лён. У брыгадзе Ігната Кохана кіруе трэцім звяном. От раскажыце, Таіса Аркадзьеўна, чалавіку, як і што было.

— Усяляк было, — адказвае звеннявая. — Самі-ж ведаеце, якая вясна была. Гора, а не вясна. Даўно трэба сеяць лён, а на поле не ўзлезці: гразь, балота. Выгляне сонца, а пасля зноў насунецца хмара ды як пачне ліць у тую гразь на полі, — аж душа баліць, вымакае дабро... Пасеяць пасеялі, а тут зноў халады наляцелі на лён. Хоць душою сагрэй яго. Ой, усяляк было. Папрацавалі. І кармілі, і паілі яго. Нібы тое малое дзіцё, нянчылі, гадавалі ды калыхалі, угору падгушквалі свой лён.

— А яшчэ-ж, Аркадзьеўна, колькі трэба папрацаваць, каб да ладу яго давесці, — заўважыла знатная ільнаводка Феафанія Уладзіміраўна Мычко. — Добра, што сушыльняў набудавалі ў калгасе. Сушыльні нас выратуюць, а то-б да новага лёну з гэтай трастою тузаліся. Міхаілу Сцяпанавічу трэба падзякаваць, ён надумаўся тыя сушыльні пабудаваць.

— О, цэ мне дужа падабаецца,— жартуе Міхаіл Сцяпанавіч Сакрэта. — Люблю, калі хваляць старшыню.

І ён неяк спахмурнеў.

— Сумная гісторыя ў нас была, — сказаў старшыня. — Летась было. Натапталі мы поўную лазню трасты, а нейкі падлюга, падпаліў лазню. Ратаваць кінуліся людзі тую лазню з трастою. Нават абсмаліліся некаторыя. Бяда. Сэрца мае баліць. Што рабіць? Дзе таго падлюку знайсці? Ох, лютасць! Ды я-ж яго, як пірхаўку, растаптаў-бы! А тут шасць у калгас нейкі кручок з папкаю законаў: «А ну, падаць мне таго халатнага Міхайлу Сакрэту! Накруціць яму хвіста! Заруштуваты Міхайлу!» А ў чым я вінаваты?

І Міхаіл Сцяпанавіч задумаўся.

— А падумаўшы добра, дык трошкі вінаваты, — разважае старшыня. — Раней трэба було тыя спецыяльныя ільносушылкі будаваць. Яшчэ пабудуем. Саманныя будуем. Моцна, гарна, танна.

Слухаем старшыню і ўсё ідзем між той пахучай, пажоўклай трасты.

— О цэ нашы комсамолкі, — сказаў старшыня, падыходзячы да маладых дзяўчат. — Медалямі ўзнагароджаны ўсе яны за лён. У Маскве на сельскагаспадарчай выстаўцы былі, — расхвальваў сваіх ільнаводак старшыня.

Мы пазнаёміліся з аграномам калгаса Раісай Комар. Яна яшчэ малады аграном, у калгасе нядаўна, але добрая работа прынесла Раісе Комар добрую славу. Паважаюць яе ў калгасе, радзяцца з ёю людзі. А яна з усёй шчырасцю, ахвотна перадае свае веды калгаснікам, сама многаму вучыцца ў добрых практыкаў-умельцаў. Вось і цяпер яна нешта расказвала маладым ільнаводкам, а тыя слухалі яе ўважліва, а пасля і самі пачалі штосьці даказваць свайму аграному.

— Гарны дзяўчаты ў мяне, Ігнат, — звяртаецца старшыня да брыгадзіра першай паляводчай брыгады Ігната Кохана. — Ольга, Тамара! — гукае ён. — Шпідка да мэнэ. На картачку будзем вас здымаць. Хочаце?

— Ой, што вы, Міхаіл Сцяпанавіч! Мы-ж вось на рабоце, не прыхарошаны... Не, што вы?

— Ой, хітрушы, — смяецца старшыня. — Яшчэ больш ім трэба харашыцца. І так-жа хораша.



Перадавыя калгасніцы калгаса «Вялікі Кастрычнік» комсамолка аграном калгаса Раіса Комар і калгасніцы Тамара Веевнік і Вольга Карбавец узнагароджаны медалямі ўдзельнікаў Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі.

Фото С. Чырэшкіна.

Аграном і маладыя ільнаводкі Ольга Карбавец, Тамара Веевнік папапраўляюць прычоскі, хусцінкі. Фатаграфіруем. Ідзем далей.

Зноў з вясёлымі жартамі падыходзіць старшыня да маладых ільнаводак, да звяна брыгады Ігната Кохана.

— О цэ комсамолкі Ігната Кохана. Він без іх загінуў-бы, — усміхаецца старшыня. — О цэ-ж яны яму мільёны куюць. Мільянерам яго брыгада стала.

— Я не прыбядняюся. Мільянер. Дзяўчат у мяне прыгожых ды працавітых многа. Магу пахваліцца,— спакойна гаворыць разважлівы брыгадзір. — Знаёмцеся з маімі комсамолкамі. Гэта Валя Маскалевіч. Хвалю. Добра працуе.

— А Галіну хваліце?

— І Галіну Цырусь хвалю, старшыня, — гаворыць скупы на словы Ігнат Кохан. — Слаўныя дзяўчаты. Папрацавалі добра.

Пабылі на кукурузным полі, на тытунёвай плантацыі. І тут сёлета добрыя ўраджаі знялі калгаснікі. Па 300 цэнтнераў кукурузы даў кожны гектар. Зялёная маса засіласавана. Добрая, сытная зімоўка для жывёлы створана ў калгасе.

Ад калгаснага свірна ад'язджалі фурманкі. Поўныя вазы мяшкоў.

— О цэ аванс на працадні, — сказаў Міхаіл Сцяпанавіч. — Добра зарабілі людзі.

І старшыня пачухаў патыліцу.

— Бяда.

А мы яго не зразумелі. — Чаму бяда? Зарабілі дык і добра. Хай ядуць на здароўе.

— Я пра клуб, — пачаў тлумачыць старшыня. — Клуба ў нас добрага няма. Клуб трэба хутчэй канчаць. А то прыдзе вечар, загарацца ў нас электрычныя лямпачкі — святлей, чым у райцэнтры, а клуба няма.

Мусіць, добра дапяклі яму з гэтым клубам, калі ён так многа гаворыць пра яго ды патыліцу чухае.

... Ідзём па дарозе, жоўклымі лістамі ўсланай. Ходзіць восень па лістах, ходзіць, у кошыкі яблыкі атрасае, у вырай жураваў падымае...

Калгас «Вялікі Кастрычнік»,
Любчанскі раён.



Старшыня калгаса «Вялікі Кастрычнік» Любчанскага раёна Гродзенскай вобласці Міхаіл Сцяпанавіч Сакрэта, брыгадзір Іван Кліменцьевіч Кохан і звеннявая Феафанія Уладзіміраўна Мычко разглядаюць лён.



Выкладчыкі і выхавацелі складалі спісы будучых выхаванцаў.

Ірына Яглейка — дачка калгасніка з Быценскага раёна; Анатоль Саган — сын калгасніцы з Новамышскага раёна; Валянціна Савось — дачка прыбіральшчыцы з Баранавіч... Доўгі гэты спіс. Усяго 150 хлопчыкаў і дзяўчынак, якія будуць жыць і вучыцца ў новай школе-інтэрнаце.

І вось маленькія гаспадары запоўнілі класы і пакоі сваёй школы. Усё тут новае, усё цікавае. Выкладчыкі школы-інтэрната цёпла сустрэлі дзяцей, усё рабілі, каб хлопчыкі і дзяўчынкі адчувалі сябе тут, як дома.

Празвінеў званок. Наступіла цішыня. Пільна схіліліся над кнігамі і сшыткамі вучні. Уважліва слухаюць сваю настаўніцу Паліну Аляксееўну Галяк першакласнікі — здымак першы. Як цікава і захапляюча расказвае іх настаўніца!

Нядаўна пачаўся навучальны год, нядаўна арганізавана школа-інтэрнат, а вучні ўжо могуць пахваліцца сваімі поспехамі, выдатнай самадзейнасцю. Добра тут спяваюць, танцуюць, дэкламуюць!

# ДЗЕЦІ вялікай МАЦІ



Не так даўно ў Баранавічах каля прыгожага трохпавярховага будынка завіхаліся муляры. Да новага навучальнага года рыхтавалася не зусім звычайная школа. Аб гэтым сведчыла і вялікая шыльда каля галоўнага ўваходу — «Школа-інтэрнат № 1».





Вучаніца трэцяга класа Ліля Супрановіч вучыцца і ў музычнай школе. Яна добра грае на фартэп'яна, удзельнічае ў мастацкай самадзейнасці, дапамагае дзецям палюбіць музыку.

Перад заняткамі і пасля ўрокаў, у дакладна вызначаны час, узяўшыся за рукі, дзеці ідуць у сталовую. Кухары клапоцяцца, каб ежа была смачная і рознастайная. І сёння абед смачны! Кухар Зінаіда Нікіцічна Сушанкова і шэф-кухар Кацярына Пракоф'еўна Галкіна гавораць дзяжурнаму па сталовай Мікалаю Сайчыку:

— Можна раздаваць!..

Пакуль дзеці абедаюць, Маша Рыкалава, вучаніца першага класа, заканчвае ўборку спальні. Пасля



абеду, згодна распарадку дня, школьнікі павінны адпачываць, а Маша сёння дзяжурная. Яна не хоча, каб яе палічылі за гультайку, таму так стараецца.

У пакоях адпачынку і ў класах дзеці з дапамогай старэйшых таварышаў падтрымліваюць узорны парадак.

На здымку ўнізе ў цэнтры — вучні 5-га класа Валодзя Палуняка, Рая Кавалевіч, Валя Сокуць і Люда Лук'янчык за падрыхтоўкай урокаў па геаграфіі. Так, тут не горш, чым дома, можна падрыхтавацца да заняткаў, нават лепш. Калі што незразумела, то дапамогуць таварышы.

Са свежымі сіламі, добра адпачыўшы, устаюць раніцай выхаванцы школы-інтэрната. Настрой бадзёры. Хутчэй у клас! Спяшаюцца закончыць ранішні туалет Лёня Чыпорын, Валодзя Аніскін і Алег Пасько. Але, спяшаючыся, трэба ўсё рабіць, як мае быць. Прыдзірлівая камісія са сваіх-жа выхаванцаў абавязкова праверыць, ці пачысціў ты зубы, ці чыста памыўся...



За здароўем дзяцей пільна сочыць урач Людміла Васільеўна Кананенка. Хваробу лепш папярэдзіць, чым лячыць. І Людміла Васільеўна рэгулярна робіць медыцынскі агляд.

— Не думайце, што мы імкнемся, каб дзеці забылі свае сем'і, сваіх бацькоў, — заўважае загадчык навучальнай часткі Вера Васільеўна Трэбнікава. — Наадварот!..

Каб пераканацца, што гэта сапраўды так, паглядзіце на здымак уверсе справа. Вучаніца першага класа Вольга Курыловіч прытуліла да вуха тэлефонную трубку, шчыра ўсміхаецца, быццам гэтую ўсмешку можа ўбачыць маці, з якой яна гутарыць.

— Ну, дачушка, чым сёння парадуеш? — пытае ў дачкі Марыя Антонаўна Курыловіч, работніца баранавіцкай прамысловай арцелі «Адраджэнне».



— Чатыры пяцёркі, мамачка! — радасна паведамляе маленькая Волька.

Тамара Пісарава, што на здымку ўнізе справа, не можа пагутарыць са сваёй маці па тэлефону. Яе маці жыве далёка, у вёсцы Дружылавічы Іванаўскага раёна. Затое можна кожны дзень у пісьмах дзяліцца сваімі радасцямі і поспехамі. Здаецца, зусім нядаўна Тамара паслала вестку аб тым, што атрымала пяцёрку па прыродазнаўству, а ўжо прыйшоў ёй адказ.

«Дачушка, я вельмі рада, што цябе сяброўкі абралі звеннявой, што ты атрымала пяцёрку, — піша Соф'я Міхайлаўна дачцы. — Мяне вельмі турбуе, як у цябе там з арыфметыкай».

І дзяўчынка ўжо адказвае:

— Не хвалюйся, мама. І арыфметыку я палюбіла.



...Добрыя выхаванцы ў баранавіцкай школе-інтэрнаце — дзеці вялікай маці-Радзімы. Не дарэмна дырэктар Іван Парфенавіч Астапаў гаворыць:



— Нашы дзеці дысцыплінаваныя, працавітыя, вясёлыя...

Да гэтага хочацца дадаць:

— І выхавацелі ў школе выдатныя.

**Тэкст С. БАРЫСЕВІЧА.**
**Фота С. ЧЫРЭШКІНА.**



Партызанская артылерыя ў баі.

# ПАДАРОЖЖА Ў СУРОВАЕ МІНУЛАЕ

**А. ЗАЛЕСКІ**

Партызанскі край...

Колькі ўспамінаў навяваюць гэтыя словы, што сталі шырока вядомымі і пачэснымі з часоў Вялікай Айчыннай вайны!

У свяшчэннай барацьбе за свабоду і незалежнасць сацыялістычнай Радзімы беларускі народ не толькі знішчаў гітлераўскіх захопнікаў, але і ачышчаў ад нямецка-фашысцкіх акупантаў вялікія тэрыторыі ў тылу іх войск. Партызанскія зоны, якія знаходзіліся пад кантролем народных мсціўцаў, складалі больш 60 працэнтаў тэрыторыі рэспублікі. Звыш 20 працэнтаў яе тэрыторыі партызаны ўвесь час трымалі ў сваіх руках.

Адзін з найвялікшых партызанскіх краёў у Беларусі знаходзіўся ў Любанска-Старобінска-Акцябрскай зоне.

Лета 1955 года. У Любанскі раён накіравалася этнаграфічная экспедыцыя Акадэміі навук БССР. Хоць мінула ўжо дзесяць год пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны, але, едучы палескімі дарогамі праз гушчары лясоў, дзе калісь шумелі партызанскія сосны, кожны з нас міжвольна адчуваў нейкае незвычайнае хваляванне: тут пачынаецца своеасаблівае падарожжа ў суровае і гераічнае мінулае.

...Далёка ад нас засталася Арэса. Яшчэ адзін лясок — і наша аўтамашына пад'язджае да сяла Загалле. Мы едзем па тых месцах, якія так любоўна ўславіў вялікі пясняр беларускага народа Янка Купала ў паэме «Над ракой Арэсай». Але нашы ўспаміны аб днях гераічнага будаўніцтва змяняюцца ўспамінамі аб суровых днях змагання ў часы Вялікай Айчыннай вайны. Перад вачыма паўстае Загальшчына, адкуль у 1941 годзе кіравалі барацьбой супраць ворага члены Мінскага падпольнага абкома Комуністычнай партыі, дзе быў пабудаваны самы вялікі партызанскі аэрадром.

Нас цікавяць усе падрабязнасці жыцця калгаснікаў Загальшчыны ва ўмовах партызанскага края. Хочацца даведацца аб паўсядзённым быце тых простых людзей, якія аказвалі штодзённую падтрымку народным мсціўцам, дапамагалі ім у барацьбе.

Жывучы ў тылу ворага, працоўныя Беларусі імкнуліся ўсімі сіламі захаваць у сваім быце савецкія звычаі і традыцыі. Сталі традыцыйнымі ў жыцці беларускага народа рэвалюцыйныя святы, якія за гады Совецкай улады трывала ўвайшлі ў яго нацыянальныя звычаі.

Беларускія партызаны заўсёды стараліся ў першую чаргу ўшанаваць совецкія святы ўзмацненнем барацьбы супраць ворага. Ужо нават першую Кастрычніцкую гадавіну ва ўмовах вайны любанскія партызаны азнаменавалі тым, што ноччу з 6 на 7 лістапада 1941 года штурмам узялі раённы цэнтр Любань і знішчылі там фашысцкі гарнізон. Над Любанню быў узняты Чырвоны сцяг. У гэтай баявой аперацыі прымалі ўдзел і працоўныя Загальшчыны.

Едучы з Загалля ў Жывунь, мы звярнулі ўвагу на невялікае абгароджанае ўзвышша, якое зарасло маладым сасоннікам. Гэта жывуньскія партызанскія магілкі. Тут пахавана адважная беларуская партызанка комсамолка Рыма Шаршнёва, якая загінула геройскай смерцю ў адной з баявых аперацый, прыкрыўшы сваім целам амбразуру фашысцкага дзота.

— У дзень 25-й гадавіны Вялікага Кастрычніка, — расказвае былы партызан Н. Капусцін, — на гэтых могілках у нас адбыўся святочны мітынг.

Было гэта вось як. У вёсцы Жывунь, на яе пасёлках і на хутары Фамін Рог размяшчаліся тады тры партызанскія атрады. Раніцай 7 лістапада атрады сабраліся ў канцы вёскі Жывунь і адтуль строем з чырвонымі сцягамі і песнямі рушылі да партызанскіх могілак, якія знаходзіліся на адлегласці аднаго кілометра ад вёскі. Да партызан далучыліся мясцовыя жыхары.

На могілках была падрыхтавана трыбуна. На мітынгу партызаны стаялі ў страі са зброяй у руках. Побач з імі размясціліся калгаснікі. На трыбуну падняліся камандзіры і камісары партызанскіх атрадаў. Адзін з камандзіраў павіншаваў прысутных з 25-й гадавінай Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі і заклікаў шырэй разгортваць партызанскі рух. Потым партызанскі радыст зачытаў матэрыялы аб святкаванні Кастрычніцкай гадавіны ў Маскве.

Пасля выступленняў на магілы загінуўшых барацьбітоў былі ўскладзены вянкі ад партызан і ад калгаснікаў.

Сакратар партарганізацыі Любанскай МТС С. Д. Локаць расказаў пра тое, як адзначаліся рэволюцыйныя святы ў школах.

— У вёсцы Загалле і ў многіх іншых вёсках партызанскага края ў 1942—1943 навучальным годзе працавалі совецкія школы. Адчынены яны былі па ініцыятыве ЦК ЛКСМБ.

У канцы кастрычніка і пачатку лістапада 1942 г. у Загальскай школе наступіла вялікае ажыўленне. Настаўнікі і вучні рыхтаваліся да сустрэчы Кастрычніцкай гадавіны. Раніцай 7 лістапада ў школе сабраліся жыхары вёсак Загалле, Татарка, Старасек. Пачаўся ўрачысты сход. Намеснік камісара партызанскага атрада зрабіў даклад аб 25-й гадавіне Вялікай Кастрычніцкай рэволюцыі. Ён расказаў аб мужнай і гераічнай абароне Сталінграда, аб подзвігах народных мсціўцаў у тылу акупантаў.

Пасля даклада пачалася мастацкая самадзейнасць вучняў...

Не менш урачыста адзначалі сяляне Загальшчыны гадавіну Вялікага Кастрычніка ў 1943 годзе. Гэта быў час, калі совецкія войскі, атрымаўшы славутыя перамогі пад Сталінградам і Курскам, уступілі ва ўсходнюю частку Беларусі. У дні 26-й гадавіны Кастрычніцкай рэволюцыі ўсе жыхары Загальшчыны, здольныя насіць зброю, былі ўжо партызанамі мясцовых атрадаў. Усе яны актыўна дапамагалі Совецкай Арміі вызваляць нашу цудоўную Радзіму ад фашысцкіх акупантаў.



З «Вялікай зямлі» ў партызанскім атрадзе атрыманы чарговы груз.

## НЕЎМІРУЧАСЦЬ ПОДЗВІГУ

— Пятнаццаць год прайшло з таго дня, а ўсё як-бы ажыло перад вачыма... Вось там, — паказаў ён на адно з вокан каземата, — стаяў Іван Фальваркаў. Разам з пехацінцам Тарасавым ён наглядаў за фашыстамі, пакуль я закопваў сцяг...

Пятнаццаць год назад!

То былі дні жорсткіх баёў з вераломным ворагам, які парушыў мірнае жыццё совецкіх людзей. Разам з другімі абаронцамі Брэсцкай крэпасці украінец Радзівон Семянюк абараняў беларускую зямлю.

Многае ўспомніў Семянюк, калі ён стаяў са сцягам у ясны верасенёўскі дзень каля крэпасной сцяны.

...Не было ўжо боепрыпасаў, не было харчу і вады. Але моцны быў баявы дух людзей, стойка адбівалі яны націск азвярэлага ворага. Усходні форт, баямі якога кіраваў маёр Гаўрылаў, абараняла невялікая жменька зенітчыкаў першай батарэі 393 асобага зенітнага артылерыйскага дывізіёна. Было іх спачатку пяцьдзесят, а праз некалькі гадзін бою, калі адна за другой выйшлі са строю дзевяць гармат, людзей засталося менш дзесятка. На дапамогу прыйшлі пехацінцы 333 стралковага палка, прыйшлі рэшткі атрада герояў-пагранічнікаў.

Сярод байцоў быў і Радзівон Ксенафонтавіч Семянюк — хлопец з невялікай украінскай вёскі Стрэльнікі, што на Віннішчыне. Ён прыйшоў у армію назадоўга да вераломнага нападу гітлераўцаў. Выхаванец Ленінскага комсамола, ён добра ведаў свой воінскі абавязак і свяшчэнна выконваў яго.

...Глыбокая ноч ахутала зямлю. Ноч? Хутчэй гэта быў дзень. Фашысты няспынна пускалі ў неба яркія ракеты. З усіх бакоў крэпасці вялася бязлітасная ку-




...Ён увайшоў у памяшканне каземата. Агледзеўся. Слабае дзённае святло ледзь пранікала ў сутарэнне.

— Здаецца, тут, — сказаў ён, зрабіўшы некалькі крокаў наперад.

Нагнуўся. Спачатку рыдлёўкай, потым проста рукамі пачаў хутка разграбаць зямлю. Яму дапамагала некалькі салдат.

Яма ўсё павялічвалася. Але таго, чаго шукалі, усё не было.

— Не можа быць. Павінен быць іменна тут, — упэўнена прамовіў Радзівон Семянюк. Ад хвалявання выразна вызначыўся стары шрам на твары.

Ён зноў узяў у рукі рыдлёўку і сказаў сваім памочнікам:

— Цяпер я сам.

Яшчэ хвіліна, і рыдлёўка шкрабнула па жалезу.

— Ёсць! — радасна ўскрыкнуў Семянюк.

Ён беражліва дастаў вядро. Жалеза наскрозь пражавела. Рассыпаліся ў руках брызент і чахол. А сцяг, баявы сцяг часці захаваўся вельмі добра! Час не пашкадаваў толькі літар. Але, уважліва прыгледзеўшыся, можна было прачытаць: «393 асобы зенітны артылерыйскі дывізіён». А зверху: «Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!»

Радзівон Семянюк са слязамі радасці доўга глядзеў на баявы сцяг, потым пацалаваў краі палотнішча і сказаў:

# Юлька

**Міхась ДАНІЛЕНКА**

**Апавяданне**

У гэтыя дні ў жыцці Аляксея з'явілася нейкае новае адчуванне. Ён прачынаўся задоўга да заводскага гудка і ляжаў з расплюшчанымі вачыма, прыслухоўваючыся да роўнага дыхання сяброў. Круглы, як мяч, Толя пахрапваў і час-ад-часу ў сне нешта мармытаў. Аляксей ляжаў і, ледзь-ледзь павярнуўшы галаву, наглядаў, як праз шырачэзныя вокны інтэрната паволі прасочвалася світанне. Некалькі дзён назад у іхнім пакоі ўставілі падвойныя рамы, і зараз тут стала як-бы крыху цямней. На падаконніку, паміж рам, на тоўстым валку беласнежнай ваты віднеліся маленькія папяровыя кветачкі. Калі Аляксей прачынаўся, ён перш за ўсё глядзеў на гэтыя кветачкі і ў думках вітаўся з імі, быццам са сваімі старымі знаёмымі.

Кветачкі гэтыя зрабіла для хлопцаў Юлька. Яна ўпершыню заглянула ў іхні пакой, калі маўклівы камендант Атрохаў прымерваў да акна другія рамы. Юлька, убегшы ў пакой, наморшчыла носік і здзівілася:

— Ой, хлопчыкі! Які-ж у вас маленькі пакоік! І гэта на траіх?..

Толя запярэчыў Юльцы:

— Нам якраз хапае. Нават вунь ён не можа паскардзіцца, хоць ростам, як кажуць, бог не пакрыўдзіў, — паказаў ён на Грышу.

Той з самым сур'ёзным выглядам дапамагаў Атрохаву прыладжваць раму.

— Тут не танцы наладжваць, — буркнуў Грыша.

Юлька прайшлася па пакоі, спынілася насупраць аляксеевага ложка і раптам успляснула рукамі:

— Хлопчыкі! Хлопчыкі! Якія-ж вы!.. Давайце хутчэй нажніцы і паперу.

Аляксей, які яшчэ не паспеў падумаць, навошта Юльцы спатрэбіліся нажніцы, кінуўся на кватэру да каменданта, да яго жонкі, непаваротлівай цёткі Каці, і папрасіў нажніцы. Калі ён вярнуўся, Юлька, адкінуўшы з ільба непакорны завіток мяккіх белавых валасоў, вырывала з аляксеевага сшытка аркушык паперы.

— Што ты робіш? — жахнуўся ён. — Там-жа я вяду канспект па тэхналогіі металаў.

Але дзяўчына яго не слухала. На стол паляцелі вырваныя лісты. Асцярожны Грыша пакінуў дапамагаць Атрохаву і баязліва пачаў паглядваць на этажэрку, дзе ляжалі яго сшыткі. Толя насмешліва зірнуў на Аляксея.

— Што мы зараз зробім! — выхапіўшы з аляксеевых рук нажніцы, шчабятала Юлька. — Вы нават не ўяўляеце, што мы зараз зробім.

— Нічога. Хіба толькі тое, што нехта з нас схопіць двойку, не далічыўшыся ў канспекце некалькіх запісаных урокаў, — буркнуў нахмураны Грыша.

Здзіўлены Аляксей маўчаў. Ён наогул не ўмеў пярэчыць гэтай бойкай дзяўчыне.

Юлька хуценька нешта выкройвала нажніцамі, і Аляксей міжвольна здзівіўся, як спрытна яна працуе.

— Алёша, — распарадзілася Юлька, — зараз-жа хоць з-пад зямлі дастань чырвонай фарбы.

Камендант, які неадабральна паглядваў на дзяўчыну, сказаў:

— Навошта з-пад зямлі даставаць? Няхай хто з хлопцаў збегае да Каці: у нас ёсць.

Аляксею зноў выпала ісці ў дальні канец калідора, на кватэру Атрохава. Цёця Каця, якая вечна корпалася ў сваіх чамаданах ці буфеце, не любіла, калі заглядвалі ў яе кватэру.

— Якую фарбу? — раззлавалася яна.

— Сам-жа таварыш камендант паслаў, — нявінным тонам прасіў Аляксей.

— Камендант, камендант, — незадаволена бурчала жанчына.

---

лямётная стральба, не змаўкалі аўтаматныя чэргі, грымелі разрывы цяжкіх мін.

— Семянюк! — крыкнуў, падбягаючы да байца, сувязны. — Хутчэй да старшага лейтэнанта.

Радзівон паўзком прабраўся да руін адной са сцен форта. Тут яго чакаў камандзір першай батарэі старшы лейтэнант Сяргей Шрамко. Ён, як Семянюк, таксама быў з Вінніцкай вобласці. Малодшы сяржант паважаў і любіў свайго земляка за вясёлы характар, за добрую службу.

— Вось што, таварыш малодшы сяржант, — сказаў яму Шрамко. — Хачу даручыць вам адказную справу. Неадкладна дастаўце сюды баявы сцяг нашай часці. Ён знаходзіцца ў каравульным памяшканні.

— Ёсць даставіць баявы сцяг часці.



Р. Семянюк цалуе сцяг.

... Гэта была цяжкая і небяспечная задача. Каравульнае памяшканне, дакладней палатка, дзе быў сцяг, знаходзілася ад штаба Усходняга форта за некалькі соцень метраў. Уся прастора няспынна прастрэльвалася немцамі. Радзівон па-пластунску папоўз да палаткі. Ён заміраў, прыціскаючыся да зямлі, калі яркім святлом успыхвалі ракеты, і зноў поўз. Асколкам гранаты яго параніла ў галаву. Але Радзівон не спыняўся.

Вось і палатка. Нібы вялікая параненая птушка, яна ляжала на зямлі. Прыўзняўшы край палотнішча, слабеючы ад стомленасці і страты крыві, Семянюк намацаў дрэўка сцяга, асцярожна сарваў з яго шаўковае палотнішча і, згарнуўшы яго, схаваў пад гімнасцёрку.

Дрэнна памятае Семянюк, як ён дабраўся назад. Але назаўсёды ў яго памяці засталіся словы старшага лейтэнанта:

— Вы з чэсцю выканалі баявое заданне, таварыш малодшы сяржант. За сцяг часці адказваеце галавой!

І з той ночы Семянюк не раставаўся са сцягам. Загарнуўшы яго ў чахол, а потым у кавалерыйскае брызентавае вядро, ён насіў сцяг на грудзях.

30 чэрвеня фашысты, засцілаючы свой шлях трупамі, паўтараючы атаку за атакай, усё бліжэй і бліжэй падыходзілі да Усходняга фронта.

— Трэба спаліць сцяг, каб ён не дастаўся ворагу, — сказаў Тарасаў.

Але Семянюк яшчэ мацней прыціснуў сцяг да грудзей і рашуча сказаў:

— За сцяг я адказваю. Фальваркаў і Тарасаў — да амбразур! Наглядайце за ворагам!

А сам пачаў раскопваць зямлю. Выкапаў яму, беражліва загарнуў шаўковае палатно ў чахол і брызентавае вядро і паклаў дарагі скарб у яму.

— Хутчэй, Радзівон! — крыкнуў Фальваркаў. — Немцы паказаліся!



Урачыстая перадача сцяга на захаванне ў Музеі абароны Брэсцкай крэпасці.

— Не падпускаць!

Радзівон аглянуўся па баках, шукаючы, у што можна пакласці сцяг. Позірк яго спыніўся на жалезным вядры, якое валялася ў кутку каземата. Ён умомант ускочыў на ногі, схапіў вядро і хутка паклаў у яго сцяг. Перавярнуўшы вядро ўверх дном, Семянюк хутка, рукамі і нагамі, пачаў засыпаць яму.

Трое сяброў, адстрэльваючыся, выбраліся з каземата.

... Яшчэ многа баёў з гітлераўцамі правёў Семянюк у сценах Брэсцкай крэпасці. Загінулі смерцю мужных старшы лейтэнант Сяргей Шрамко, пехацінец Тарасаў, загінула яшчэ многа баявых сяброў Семенюка. Некалькі разоў быў паранены і ён сам. А 27 ліпеня цяжка кантужаны Семянюк трапіў у палон.

... Прайшлі гады.

Многа выпрабаванняў выпала за гэты час на долю Семенюка. Ён уцёк з лагера ваеннапалонных і потым змагаўся ў радах Савецкай Арміі. Пасля вайны Семянюк працуе на Кузнецкім металургічным камбінаце.

Нядаўна Радзівон Ксенафонтавіч Семянюк наведаў Брэст. Ён сустракаўся з грамадскасцю горада, з моладдзю, расказваў аб гераічных днях абароны крэпасці. З хваляваннем слухалі яго юнакі і дзяўчаты. Кожнаму з іх хацелася быць падобным на герояў абароны крэпасці, на людзей, чый подзвіг стаў сімвалам мужнасці, стойкасці і гераізму савецкага народа.

Зіновій ІЛЬЕЎСКІ.

Але фарбу цётка Каця дала — невялічкі акуратна складзены пакецік.

— Разводзіць будзеце халоднай вадой, — крыкнула яна наўздагон Аляксею.

На стале перад Юлькай ужо ляжала некалькі папяровых кветачак.

— Глядзіце, хлопчыкі, як добра атрымліваецца, — захаплялася сваёй работай Юлька. — Чык нажніцамі — і адразу тры кветкі. Трэба толькі ўмець такімі вось столкамі складваць паперу.

Аднак хлопцы дэманстратыўна не заўважалі юльчынай работы. Грыша заклапочана корпаўся ў кнігах на этажэрцы, а Толя дапамагаў Атрохаву.

Аляксей узяў грышаву мыльніцу, каб развесці фарбу (з хлопцаў адзін ён галіўся), той раптам плюнуў і выйшаў у калідор. Юлька паглядзела на фарбу і загадала:

— Падсып яшчэ. Трэба гусцейшая.

Праз хвіліну амаль увесь стол быў укладзены маленькімі яркачырвонымі астрамі. Юлька іх спрытна вырэзвала, Аляксей фарбаваў, а Толя, які нечакана зацікавіўся работай, раскладаў на стале, каб хутчэй прасыхала фарба.

Дзяўчына зірнула на свой наручны гадзіннік, кінула нажніцы і ўсхапілася:

— Ой, хлопчыкі! Я-ж зноў спазнілася.

Яна, спяшаючыся, апранула паліто і, не развітваючыся, выскачыла з пакоя. У Аляксея адразу спахмурнеў твар.

— Іх, гэтыя кветкі, можна адразу ставіць паміж рам. Там і прасохнуць, — параіў Толя.

Камендант, які цярпліва чакаў, пакуль Юлька закончыць вырэзваць кветкі, кіўнуў галавой, і хлопцы пачалі асцярожна расстаўляць астрачкі на пульхным валку ваты.

З тае пары, прачынаючыся, кожную раніцу Аляксей перш за ўсё паглядваў на падаконнік і радаваўся невядомай яму дагэтуль радасцю, бачачы, што кветкі спакойна сабе чырванеюць паміж шыбамі.

Сёння Аляксей таксама палюбаваўся імі. А потым разбудзіў Толю Каравая.

Паснедаўшы, хлопцы пайшлі ў вучылішча. Яго новы трохпавярховы будынак быў яшчэ як след не абжыты. У класах пахла атынкоўкай, свежай фарбай, клеем. На двары з машыны згружалі цэглу. Рабочыя рыдлёўкамі раўнавалі насыпаную зямлю.

Сябры займаліся ў групе токараў. У суседнім класе вучыліся будучыя чарцёжніцы. Тут былі толькі адны дзяўчаты. Раней у гэтым класе займалася і Юлька. Аляксей з прыемнасцю ўспамінаў, як пазнаёміўся з гэтай бойкай дзяўчынай.

У аляксеевым класе выкладчык Піліп Ільіч на дошцы намаляваў крэйдай розныя віды малаткоў і тлумачыў, як называецца і для чаго служыць кожная дэталь малатка.

Спачатку Аляксею здалося смешным, што ім, учарашнім выпускнікам сярэдняй школы, з самым сур'ёзным выглядам расказваюць пра звычайныя малаткі, якімі не раз даводзілася дома забіваць цвікі. Аднак неўзабаве юнак са здзіўленнем адзначыў, што вельмі многага, аб чым тлумачыў Піліп Ільіч, ён не ведаў, ды нават і трымаць малаток правільна не ўмее.

— Крэйды не хапае, — сказаў выкладчык, абтрасаючы далоні. — Схадзіце, Шынкарук, у чарцёжніц пазычце.

Аляксей пастукаў у дзверы суседняга класа і, трохі засаромеўшыся, зайшоў туды. Дзесяткі пар дзявочых вачэй з цікавасцю ўставіліся на яго. Стаяла высокая выкладчыца ў акулярах. Яе Аляксей не ведаў. Настаўніца трымала ў руцэ цыркуль.

— Дазвольце ў вас пазычыць трохі крэйды, — сказаў Аляксей і паглядзеў на бялявую дзяўчыну на пярэдняй парце, якая насмешліва паглядала на яго.

— А ў нас, здаецца, і няма, — сказала настаўніца.

— У мяне ёсць, — паднялася бялявая. — Толькі крэйда ў паліто.

— Дык ідзіце і дайце таварышу, — дазволіла настаўніца.

Дзяўчына паднялася з-за парты і, кінуўшы Аляксею, каб ён ішоў за ёю, выйшла ў калідор.

— А вы займаецеся ў групе токараў? — адразу загаварыла яна, зачыніўшы за сабою дзверы. — Ой, як гэта, мусіць, цікава!.. А ў нас — адзін сум.



— Чарцёжнікам, магчыма, таксама цікава быць, — асцярожна запярэчыў Аляксей.

— Чарцёжнікам? Нічога ты не разумееш, — адказала дзяўчына, траханўўшы завітком, які свавольна падаў на лоб. — Я ў вашу групу перайду. З якіх гадзін у вас вытворчая практыка?

— З чатырох дня.

— Цудоўна! — падскочыла на адной назе бялявая і, раптам нахіліўшыся да разгубленага Аляксея, шапнула: — А крэйды ў мяне ў паліто няма — зманіла...

— Як-жа так? — разгубіўся хлопец.

— А так. Надакучыла слухаць... Хто ў вас староста групы?

— Я, — прызнаўся Аляксей.

— Вельмі добра! — абрадавалася дзяўчына. — Я Юлька Канаплёва. Можаш адразу запісаць у свой журнал.

Вытворчыя майстэрні вучылішча размяшчаліся ў дрэваапрацоўчым цэху завода. Вучылішча было маладое, працавала толькі другі год, і майстэрні пакуль былі неўладаваны. Ад цэхавага пралёту іх аддзяляла рэдкая драцяная сетка. З другой палавіны цэха, дзе працавалі рабочыя, у майстэрню даносіўся прыглушаны грукат і шум машын. Завод, на якім праз год-два павінны былі працаваць цяперашнія вучні, быў буйнейшым у рэспубліцы. Юлька зззяючымі ад захаплення вачыма глядзела на кожны цэх.

— Глянь, — схапіла Юлька Аляксея за руку, і той раптам адчуў, як часта застукала яго сэрца. — Гатовыя зернесушылкі.

— Іх на цалінныя землі адправяць, — паведаміў Толя, павярнуўшы рыжую галаву.

Але Юлька нават і не глянула на Толю. Яна падбегла да зернесушылкі, пагладзіла яе срабрыстую металічную паверхню. А Аляксей усё адчуваў цяпло маленькай юльчынай рукі.

У цэху стаялі радамі новенькія станкі. Іван Кузьміч, начапіўшы на нос непаслухмяныя акуляры, урачыста аб'явіў, што станкі зрабілі спецыяльна для вучняў на суседнім станкабудаўнічым заводзе.

— Для вас зрабілі, — падняўшы ўгару палец, гаварыў майстар. — От і шанаваць вы гэтыя станкі павінны. Па-сапраўднаму шанаваць.

Іван Кузьміч, не спяшаючыся, паклаў акуляры ў кішэню вылінялай спяцоўкі. Усе ведалі, што цяпер ён будзе апытваць асобных вучняў, каб лепш засвоілі матэрыял. Аляксей з заміраючым сэрцам чакаў, што майстар выкліча іменна яго. Хлопцу вельмі-ж хацелася адказваць. Іван Кузьміч звычайна так і рабіў. Першым ён называў прозвішча Аляксея, які ўжо ведаў назву асобных частак станка. Майстру падабалася, з якой любоўю адносіўся юнак да вучобы. Але зараз Іван Кузьміч назваў прозвішча Толі.

Каравай шмыгнуў носам, прабраўся бліжэй да станка і пачаў бойка пераказваць тое, аб чым да гэтага расказваў майстар. Матэрыял ён ведаў, і задаволены Іван Кузьміч пагладжваў пасівелыя вусы.

З вытворчых майстэрань Юлька ішла зноў поруч з Аляксеем. Яна цяпер прыціхла і была нейкай задумлівай. На блакітнай кайме шапачкі з'явілася брудная пляма, а Аляксей не мог адважыцца папрасіць дазволу сцерці гэтую пляму. Выйшаўшы з заводскага двара, Юлька зноў ажывілася.

— Я так рада, — засмяялася яна. — А Іван Кузьміч такі дзівак.

Аляксей хацеў быў запытацца, чаму майстар дзівак, але Юлька спынілася. Яна пачакала, пакуль Грыша з Караваем адыйдуцца, і прапанавала:

— Ведаеш што? Паедзем да нас. Валерый так узрадуецца!

— А хто такі Валерый? — насцярожыўся Аляксей.

— Брат мой. Артыст, — з гонарам паведаміла яна. — Вунь якраз і аўтобус падыходзіць. А мы жывем каля парку. Праз поўгадзіны будзем у нас.

Аляксей услед за Юлькай ускочыў у перапоўненую машыну. Намагаючыся на ўсю сілу, ён стрымліваў націск людзей і загароджваў дзяўчыну сваёй спіной.

Калі яны сышлі, Юлька паглядзела на новы будынак тэатра, які будаваўся недалёка адсюль, і сказала:

— Хутка адкрыццё яго будзе. Я абавязкова пайду. — Яна памаўчала і дадала: — І ты, Алёша, на адкрыццё трапіш.

Аляксей нават не запытаўся, як ён трапіць на адкрыццё тэатра.

— Вось мой дом, — перабіла яго думкі Юлька каля будынка з новымі жоўтымі акяніцамі. Пад вокнамі юльчынага дома раслі два разгалістыя каштаны, на брамцы была прымацавана дошчачка з надпісам: «Асцярожна: у двары злы сабака».

Калі дзяўчына адчыніла брамку, з глыбіні двара, загрымеўшы ланцугом, выбегла вялікая шэрая аўчарка. Аляксей спалохана падаўся назад.

— Аракс! — прыгразіла Юлька. — Марш у будку!

Юлька правяла Аляксея праз кухню, дзе жанчына, вельмі падобная на цётку Кацю, скубла чорнага з сіняватым адлівам пеўня. Аляксею стала аж шкада гэтага пеўня, з якога ляцела такое прыгожае пер'е.

У зале, перад круглым сталом, на якім ляжалі раскрытыя ноты, стаяў высокі малады чалавек з даўгімі валасамі. «Ну, і прычоска. Як у Тарзана», — непрыязна падумаў Аляксей.

— Знаёмся, Валерый. Гэта мой сябра па вучылішчу — Алёша Шынкарчук, — сказала Юлька.

Валерый павярнуўся да Аляксея (ён прыціскаў падбародкам да пляча скрыпку) і кіўнуў галавой. Аляксей сеў на гасцінна прапанаванае Юлькай мяккае крэсла і агледзеўся.

На сцяне вісеў, відаць, надта дарагі дыван. На ім былі па-майстэрску вытканы два залатыя алені ў імклівым бегу. Паляўнічы са стрэльбы цэліўся ў аленяў.

На астатніх сценах былі развешаны партрэты. На двух з іх Аляксей адразу пазнаў Юльку і Валерыя. Валерый быў сфатаграфаваны ў кашулі, павязанай стракатым гальштукам. Яго валасы былі яшчэ даўжэйшыя, чым зараз. «Нішто сабе адрасціў кудлы», — адзначыў у думках Аляксей. На наступным партрэце быў сівы чалавек з ордэнамі ў палкоўніцкай форме. «Няйначай, юльчын бацька».

Юлька пакінула яго з братам, а сама выбегла на кухню. Пасля таго, як Аляксей зайшоў і прывітаўся, Валерый нават ні разу не зірнуў на яго.

Валерый заклапочана хмурыў лоб, перабіраў тонкімі пальцамі струны і вёў-вёў смычком усё тую-ж ноту. Юлька не прыходзіла, і Аляксей раптам пашкадаваў, што згадзіўся з ёю ехаць. Да гэтага два разы яго запрашаў да сябе майстар Іван Кузьміч. Ён сам накладваў у шкляную вазачку варэння, жонка майстра налівала шклянку чаю, і ўсе сядзелі вакол зззяючага самавара. Там было неяк пра-

сцей, утульней, хоць на сцяне і не вісеў дыван з залацістымі аленямі.

Ажывіўся Аляксей толькі тады, як убегла Юлька. Яна па прывычцы замітусілася па зале, чамусьці вырашыла, што ў буфеце няма парадку і пачала перастаўляць посуд.

Валерый спыніў гранне, апрануў шэры макінтош, надзеў капялюш і ўзяў у руку вытачаны кіёчак.

— Я іду на рэпетыцыю, — сказаў ён Юльцы. — Вернецца маці, дык скажы, што да яе тут нейкая Ала заходзіла: хоча чарнабурку дастаць. Яна ведае...

Артыст крутнуўся перад высокім люстрам, узмахнуў, як дырыжор, сваім кіёчкам і, сказаўшы «віват», выйшаў.

— Ух, ён-жа страшэнна здольны, — хвалілася Юлька. — Каб ты толькі чуў, як ён рэпетыруе ролю Рамео!.. Маці заўсёды гаворыць, што я нават і сотай долі Валерыя не варта. Яна кажа: ад цябе мазутам пахне.

— Твая маці, мусіць, з роду таго мазуту не нюхала. Дзе яна працуе?

— Нідзе. Яна ў Рыгу ездзіць. Мы на бацькавай пенсіі жывем. Ён-жа ў нас палкоўнік у адстаўцы, — на момант вялікія юльчыны вочы зрабіліся сумнымі.

— А мая маці — настаўніца. Ужо трыццаць год вучыць. Яна заслужаная настаўніца...

У пакоі было горача, і ў Аляксея пачала балець галава. На развітанне Юлька правяла хлопца да аўтобуснага прыпынку.

— Ты часцей да нас прыязджай. Валерый і мама так будуць рады, — сказала Юлька.

«Нічога сабе, рады твой Тарзан», — падумаў Аляксей, але, каб не пакрыўдзіць Юльку, кіўнуў галавой.

Пабываць у Канаплёвых Аляксею больш не прышлося. Непрыкметна ляцелі дні. Ужо вучні навучыліся наладжваць станкі, устаўляць у патрон дэталь і злёгку абточваць яе. Некаторыя нецярплівыя, такія, як Каравай, прасілі самастойнай работы. Але майстар хітравата пасмейваўся ў вусы, па-бацькоўску ляпаў іх па плячы і супакойваў:

— Цярпенне, хлопцы. На ўсё свой час. Наробіце браку, а майстар за вас адказвай...

Якраз у тыя дні Каравай, прышоўшы ў пакой, глянуў на папяровыя астры, што былі ў акне, і нечакана аб'явіў:

— А гэтая Юлька Канаплёва пакінула вучылішча.

— Як пакінула? — ускапіўся з ложка Аляксей.

— Не ведаеш, як пакідаюць? Стукнула малатком не па зубілу, а па руцэ. Заплакала і пабегла...

Грыша, які сядзеў над канспектам, падняў галаву.

— Я такіх-бы і на гарматны стрэл да вучылішча не падпускаў. Токар называецца! — ён зняважліва паморшчыў нос.

Спачатку Аляксей паверыў Караваю. Ён некалькі дзён хварэў, на заняткі не хадзіў і таму нічога не ведаў. Каравай расказваў, як нейкі дзівак-рабочы, паглядзеўшы на Канаплёву праз сетку, быццам сказаў, што не для таго дзесяць год вучылася дзяўчына, каб малатком рукі збіваць. Юлька не паслухала Івана Кузьміча, шпурнула малаток і зубіла і выбегла з майстэрні. У той-жа дзень яна забрала дакументы.

— Токар называецца! — яшчэ раз прамармытаў Грыша. — Рознага несвядомага элемента слухае.

«Як-жа так? — разважаў Аляксей. — Нейкі дурань пасмяяўся, а Юлька прыняла да сэрца, пакрыўдзілася».

— А дзе-ж вы былі? Чаму не ўгаварылі яе? А яшчэ камсамольцы! — накінуўся Аляксей на сяброў.

Рыжы Толя агрызнуўся:

— Паспрабаваў-бы ты яе ўгаварыць. Яна нават Івана Кузьміча не захацела слухаць. Малаток як кіне! Я адразу заўважыў, што ў яе інтэлігентныя рукі...

— Сціхні ты! — раззлаваўся Аляксей.

Ён чамусьці цвёрда верыў, што не сёння-заўтра Юлька вернецца ў вучылішча. «Не такая яна, каб пакінуць вучобу», — разважаў ён. Але на памяць прыходзілі яе крыўдныя словы, што настаўніцкая праца сумная, і Аляксей падумаў: можа Юлька ўжо расчаравалася і ў прафесіі токара, як расчаравалася ў прафесіі чарцёжніцы.

Між тым непрыкметна надыйшла зіма. Доўгі час стаялі пагодлівыя асеннія дні, і калі аднойчы Аляксей праязджаў паўз парк, то ўбачыў, што каштаны каля юльчынага двара запалалі жоўталісцем. А потым пахаладнела, падзьмуў вецер, і праз колькі дзён паваліў мокры снег. На вуліцах адразу пасвятлела. Людзі павыходзілі з ранку ў туфлях без галош і цяпер, смешна, неяк па-буслінаму, падымаючы ногі, пераходзілі па снезе вуліцы.

У адзін з такіх дзён Іван Кузьміч прышоў у майстэрню і сказаў:

— Запомніце, хлопцы, добранька гэты дзень. Сёння будзеце самастойна выконваць работу.

— Ура! — не вытрымаў Каравай.

— Цішэй ты! — астудзіў яго запал Грыша. — Сам, можа, першы браку наробіш.

Майстар выдаў хлопцам загатоўкі — кароценькія цыліндрыкі пакрытага іржою жалеза, растлумачыў, на якую глыбіню рабіць абточку, нават начарціў на дошцы просценькі чарцёж. Дэталь была нескладанай, але без яе не маглі-б сабраць ніводнай зернесушылкі.

— Ведаеце, — усхвалявана зашаптаў Каравай. — Я калі скончу выточваць, якую-небудзь метку на дэталі пастаўлю, каб ведалі, што гэта зрабіў я.

— Сказаў, — усміхнуўся Аляксей, а сам падумаў: «Эх, няма сярод нас Юлькі. Можа, і яна радавалася-б так, як мы?» — і чамусьці ў юнака паявілася злосць на высакамернага, ганарыстага Валерыя і на юльчыну маці. Дзіўна, але злосці на Юльку ў яго не было.

Як толькі група вярнулася з майстэрань, Аляксея паклікалі да дырэктара. Той моцна пацісную яго руку.

— Ну, віншую, Шынкарчук. З першай дэталлю віншую. І яшчэ адно. — Дырэктар узяў са стала некалькі аддрукаваных у друкарні білетаў з пазалочанымі абадкамі: — Заўтра адкрыццё абласнога драмтэатра. Нам выдзелілі пяць білетаў. Вось мы вырашылі табе, як лепшаму вучню, даць білет. Так што заўтра ў восем вечара будзь, як кажуць, на месцы...

...Задоўга да васьмі гадзін Аляксей прышоў да тэатра. Тут ён убачыў Юльку Канаплёву. Яна ішла з маладзенькім лейтэнантам. Той нешта ажыўлена ёй расказваў. Дзяўчына была ў новым паліто з каракулевым каўняром, у моднай шапачцы, у ботах на высокіх абцасах. Яна здавалася нейкай чужой. Юлька таксама ўбачыла Аляксея і, нешта сказаўшы лейтэнанту, пакінула яго.

— Ну, вось... Добры дзень, Алёша, — прывіталася яна.

— Добры дзень, — адказаў Аляксей і чамусьці ў адзін момант ён з нянавісцю падумаў аб тым маладзенькім лейтэнанце.

— На адкрыццё тэатра? — запыталася Юлька.

— На адкрыццё.

— А нашага Валерыя ў гэтую трупу не прынялі, — ціха паведаміла дзяўчына. — Падаў заяву ў другі тэатр...

Крыху памаўчалі.

— Ну, як жывеце?

— Як? Учора выконвалі першую самастойную работу — дэталі выточвалі. Каб ты бачыла...

Аляксей ажывіўся, расказваў і расказваў, а Юлька слухала з шырока расплюшчанымі вачыма. Раптам яна адвярнулася і ціха прамовіла:

— З маці я пасварылася. Праз яе пакінула вучылішча. Так дэрнна, Алёша, тады атрымалася. Ой, дрэнна! Я, дурная, прыбегла дадому, а маці і ну крычаць: «Не пушчу рукі збіваць! Не пушчу!» А я і паслухала яе... А цяпер вось і сама не ведаю, што рабіць...

— А дзе-ж маці?

— Ды з Валерыям збіраюцца ў другі горад ехаць. Кажа, ёй там знаёмы рэжысёр...

— Хочаш, пойдзем заўтра да Івана Кузьміча, да дырэктара, — захваляваўся Аляксей. — Папросім.

Юлька адмоўна пакруціла галавой і прадаўжала:

— Маці што? Ёй толькі чарнабуркі рупяць. Ад цябе, кажа, мазутам нясе...

— Ды кінь ты з гэтым мазутам, — узлаваўся Аляксей.

Юлька аб нечым падумала і ціха запыталася:

— Алёша, а як там нашы астры?

— А ты прыдзі, паглядзі, — прапанаваў Аляксей. — Я з імі здароўкаюся кожную раніцу, — прызнаўся ён і нечакана пачырванеў.

Юлька раптам нечага абрадавалася і ўзяла Аляксея за рукаў.

— У цябе які рад? Пойдзем і памяняемся з кім-небудзь месцамі, каб сядзець поруч.

Аляксей нахмурыўся.

— А гэты з пагонамі куды?

— Ды гэта-ж стрыечны брат мой. Хадзем хутчэй, пазнаёмлю. Каб ты чуў, як ён мяне падтрымліваў, калі я з маці ваявала! Не, не будзе, кажа, з Юлькі беларучкі, а сапраўдны рабочы чалавек выйдзе. Пойдзе яна, кажа, у вучылішча, папросіць прабачэння і зноў будзе вучыцца...

Ужо ў тэатры, седзячы поруч з Юлькай, Аляксей глядзеў на сцэну, але не разумеў, аб чым там гавораць артысты. «Вернецца яна да нас, ці не?» — думаў ён. У гэты час Юлька нахілілася да яго і шапнула: «Якое хараство, Алёша, праўда?»

Аляксей паглядзеў у сінія юльчыны вочы і адчуў, што, вядома-ж, Юлька Канаплёва вернецца. І як гэта ён можа сумнявацца? Безумоўна, вернецца...

**г. Гомель.**





# Таямніца „лятаючай смерці"

## СТРЭЛЫ ПЛЕМЯ АРАВАКАЎ

Ля вогнішча сядзелі двое: англійскі падарожнік Уолтэр Рэлей і стары Нумі, правадыр індзейскага племя аравакаў.

— Курарэ — наша таямніца, — гаварыў Нумі. — Мне расказаў пра яго бацька, а ён даведаўся ад свайго бацькі.

Прайшло некалькі год з таго часу, як Рэлей абяцаў каралеве Елізавеце здабыць золата і дыяменты Новага Свету. Тры экспедыцыі наладзіў ён для гэтага на Арыноко, дзе, на яго думку, ляжала краіна незлічоных скарбаў — Эльдарадо. Лясныя гушчары Гвіяны сустрэлі англійскія атрады смертаноснай трапічнай ліхаманкай, ядавітымі змеямі. Здаралася, што ў няпрошаных гасцей ляцелі атручаныя індзейскія стрэлы. З гэтага часу загадка курарэ — раслінпай атруты, якою аравакі змазвалі канцы сваіх тонкіх, з густым апярэннем стрэл, не давала Рэлею спакою. Лёгкая страла бясшумна пралятала некалькі дзесяткаў метраў і калі пападала ў чалавека, то нават самае лёгкае раненне было смяротным. Нездарма гэтыя стрэлы называлі «лятаючай смерцю».

У расказах пра курарэ праўда перапляталася з выдумкай. Казалі, што прыгатаваннем атруты займаецца спецыяльна вызначанае советам племя жанчын. У свяшчэнных катлах яны вараць зёлкі, дадаючы ў іх атрутныя выдзяленні вялізных чырвоных мурашак, яд гадзюк, раздвоеныя гадзючыны языкі. Цырымонія суправаджаецца магічнымі заклінаннямі. Атрута лічыцца гатовай, калі жанчына, якая яе варыла, упадзе мёртвая, атруціўшыся выпарэннямі...

Рэлею даводзілася бачыць у індзейцаў ярка расфарбаваныя драўляныя бутэлечкі, напоўненыя курарэ: паляўнічыя насілі іх на паясах.

Але Рэлею патрэбны былі дакладныя звесткі аб курарэ: ён ехаў раскрыць сакрэт страшнай атруты.

Неяк раніцай Рэлей убачыў, што аравакі, сабраўшыся лавіць рыбу, пацягнулі на бераг ракі бярэмкі зялёных галінак.

Каля вёскі рака рабіла вялікі выгіб, які ўтварыў ціхую завадзь. Індзейцы пакідалі галінкі ў ваду, а потым пачалі іх выціскаць. Сок, падобны на малако, хутка распаўсюджваўся па вадзе, афарбоўваючы яе ў белаваты колер.

Неўзабаве пачалі ўсплываць рыбы. Адтапыраныя іх жабры варушыліся. Рыбы шырока разяўлялі рот, пераварочваліся на спіну і замiралі...

Здабычу выцягвалі сеткамі, сплеценымі з ліян, а каля берага проста збіралі рукамі. Рыбу, злоўленую такім незвычайным спосабам, індзейцы елі, не баючыся атруціцца.

Рэлей спытаўся ў Нумі, ці не з гэтых раслін здабываецца курарэ, але індзеец адказаў, што не, не з гэтых. Атрута здабывалася з кары нейкіх другіх ліян.

Рэлею ўдалося ўгаварыць старога індзейца ўзяць яго ў джунглі і паказаць гэтыя таямнічыя ліяны.

## У ДЖУНГЛЯХ

Сонца ўжо ўзыйшло, калі ў хіжыну, дзе жыў Рэлей, увайшлі Нумі і яго сын. Рэлей хутка апрануўся, узяў плашч, шпагу і стрэльбу і разам з індзейцамі выйшаў з дому.

Лес пачынаўся адразу за сяленнем. Вузкая сцяжынка час-ад-часу гублялася ў густых зарасніках.

Нумі ішоў уперадзе, прасякаючы сваім мачэтэ дарогу сабе і сваім спадарожнікам. За ім ішоў малады індзеец. Рэлей замыкаў шэсце. Калючкі ліян, падобныя на рыбалоўныя кручкі, чапляліся за адзенне. Было горача. Падарожнікі спусціліся ў лагчыну. Пад нагамі захлюпала вада, скрозь зялёныя шаты лесу праглянула неба.

Нумі спыніўся і пачаў уважліва разглядаць сплеценыя ў клубкі ліяны. Потым ён выцягнуў адну з іх. Яе сцябло, таўшчынёй з руку, цягнулася метраў на пятнаццаць. Глянцавітыя лісты з тонкімі жылкамі былі пакрыты спадысподу іржавым пушком. Відны былі прадаўгаватыя ягады.

Бацька і сын пачалі хутка здзіраць кару з гнуткіх сцяблін і складваць яе ў сеткі, прывязаныя да пояса.

Напоўніўшы сеткі, падарожнікі рушылі дамоў.

## ГАТАВАННЕ АТРУТЫ

Праз некалькі дзён пасля паходу Рэлей убачыў, як індзейцы гатавалі курарэ. Кара кіпяцілася на слабым агні. У кацёл дадавалі карэнні нейкіх іншых раслін. Накіп здымалі, а варыва працэджвалі. Пасля кіпячэння атрыманы сіроп вылівалі ў плоскія гліняныя пасудзіны, якія потым ставілі на сонца. Вільгаць выпаралася, заставалася густая паста, якую захоўвалі ў драўляных бутэлечках і пасудзе, зробленай з гарбуза.

Змазаныя атрутай стрэлы прымяняюцца пры паляванні на буйных жывёл, галоўным чынам, на малпу. Падкраўшыся да звера, паляўнічы закладвае стралу ў доўгую драўляную трубку і, моцна выдыхаючы паветра, пасылае стралу ў жывёліну.

Малпа звычайна адразу-ж выцягвае стралу і, як расказваюць, іншы раз кідае яе назад, у паляўнічага. Таму пасля стрэлу індзейцы хаваюцца за дрэвы.

Смерць ад курарэ настае праз адну-дзве хвіліны. Адзіны сродак выратавацца ад яе — гэта выразаць кавалак мяса вакол раны, пакуль атрута не паспела распаўсюдзіцца разам з крывёю. Аднак, мяса дзічыны, забітай курарэ, ужываюць у ежу.

## АД АТРУЧАНЫХ СТРЭЛ ДА СУЧАСНАЙ МЕДЫЦЫНЫ

Вярнуўшыся ў Англію, Рэлей апублікаваў у 1597 г. кнігу «Адкрыццё вялікай і багатай краіны Гвіяны, а таксама залатога горада Маноа і правінцыі Эрукрыя». У ёй падарожнік упершыню падрабязна апісаў курарэ.

Прайшло дзвесце год. Курарэ прыцягнула ўвагу ўрачоў і фізіёлагаў.

У сярэдзіне XIX стагоддзя французскі вучоны Клод Бернар атрымаў з Поўднёвай Амерыкі некалькі гарбузавых бутэлечак з курарэ. Гэтая атрута даўно цікавіла вядомага фізіёлага. Імгненнае дзеянне курарэ ўсё яшчэ было загадкай.

На працягу некалькіх месяцаў вучоны выпрабоўваў дзеянне атруты на жывёл і ўстанавіў характар дзеяння курарэ. Выявілася, што атрута паралізуе рухаючыя нервы. Мускулы расслабляюцца і трацяць здольнасць скарачацца — жывёліна не можа рухацца. Смерць настае ад удушша, якое з'яўляецца вынікам паралiча дыхальных мускулаў.

Атрута дзейнічае толькі тады, калі трапляе ў кроў. У кішэчніку курарэ распадаецца і траціць свае атрутныя ўласцівасці. Вось чаму індзейцы смела елі мяса жывёл, забітых атручанымі стрэламі.

Адкрыццё Бернара прыцягнула ўвагу ўрачоў: ці нельга прымяніць курарэ для рэгулявання работы рухаючых мускулаў.

Даследаванні прасунуліся ўперад, калі з курарэ ўдалося выдзеліць асобнае рэчыва — алкалоід курарын, які валодае ўстойлівымі якасцямі. Курарын быў выпрабаваны ў клініках. Вынікі пераўзышлі ўсе спадзяванні. Уведзены ў кроў у малых дозах, ён з'яўляецца дзейсным сродкам пры лячэнні сударагаў, стаўбняку і дрыжальнага паралiча. Асабліва карысным курарын стаў у хірургіі. Невялікая колькасць гэтага прэпарату, расслабляючы мускулатуру, дапамагае паспяхова праводзіць пад мясцовым наркозам аперацыі грудной клеткі. Пры гэтым хворы лягчэй пераносіць аперацыю, а зрастанне зламанай касці адбываецца хутчэй і не так балюча.

У наш час хімікам удалося атрымаць штучны курарын.

**Е. ЛІННІК.**

(Часопіс «Вокруг света»)



# Ручаінам — шырокую плынь!

Г. ШЧАРБАТАЎ

У апошнія гады ў беларускую дзіцячую літаратуру прыйшлі новыя сілы. На кніжных паліцах з'явіліся кнігі маладых літаратараў аб прыгодах дзяцей, аб школьным жыцці і піянерскай арганізацыі, кнігі фантастыкі. Асабліва прыемна, што, нарэшце, атрымалі кнігі беларускіх аўтараў і нашы маленькія сябры — дашкольнікі і малодшыя школьнікі.

Вядома, што пісаць для дзяцей, тым больш для дашкольнікаў, вельмі складаная задача. Гэтыя творы павінны быць простымі па форме і захапляльнымі па зместу. Тым большай пахвалы заслугоўваюць маладыя паэты Іван Муравейка, Артур Вольскі і празаік Пётр Рунец, якія выдалі першыя кнігі для маленькіх чытачоў.

«Ручаінкі» — так сціпла і вельмі паэтычна назваў зборнік вершаў для дзяцей малодшага ўзросту Іван Муравейка. У кніжцы сабраны вершы, падобныя на маленькія, але вельмі празрыстыя ручаінкі, ваду якіх хочацца пераліваць у руках, пакаштаваць на смак, паглядзецца ў яе, як у люстэрка. Паэт тонка разумее псіхалогію дзяцей, мае добрую назіральнасць і ўмее ў жывой, зразумелай форме данесці да дзіцяці сваю думку.

У зборнік «Ручаінкі» ўключана шэсцьдзесят пяць вершаў, і для кожнага з іх І. Муравейка знаходзіць сваю тэму і сваё паэтычнае вырашэнне. Характэрна, што ўсе тэмы вершаў узяты з жыцця, што яны вучаць нашых дзяцей любіць працу, рабіць добрыя справы, што яны адкрываюць перад дзецьмі шмат невядомага і цікавага.

Вось, напрыклад, верш «Як сеялі абаранкі»:

Мы за вёскаю гулялі,  
Там два трактары аралі.  
— Будзем сеяць абаранкі, —  
Трактарысты нам сказалі.

Дзеці, вядома, не паверылі, бо самі бачылі, як іх мацеры пяклі абаранкі ў печах. Але размова прадаўжаецца, і паступова дзецям становіцца зразумелым, што абаранкі пяклі з мукі, атрыманай з зерня, а зерне расце на полі. У выніку:

Мы гукнулі ў адзін голас:  
— Дзядзька Вася, цётка Ганка,  
Хутчэй сейце абаранкі!

Вершы «Мы збіралі каласы», «Ала піша маме пісьмо», «Перапёлка» і іншыя — гэта творы аб першых працоўных навыках дзетвары, аб яе кемлівасці і стараннасці.

Аўтар знаходзіць свежыя паэтычныя сродкі, каб паказаць гордасць хлапчукоў і дзяўчынак за свае першыя поспехі. Верш «Мы збіралі каласы» канчаецца такім сказам:

Каласочак к каласку —  
Будзе нам па піражку!

Без непатрэбнай дыдактыкі паэт гаворыць і аб адмоўных з'явах. Дзецям адразу запамінаецца верш «Плача бярозка»:

Плача бярозка,  
Плача бярозка,  
Цякуць па сарочцы бяроставай  
слёзкі.  
Бяжыць і бяжыць  
За слязінкай слязінка...  
Дрэўца пашкодзіў сякеркаю  
Дзімка.

І. Муравейка ўмее перадаць тую наіўнасць і непасрэднасць, з якімі дзеці ўспрымаюць падзеі, з'явы жыцця. Вось як па-дзіцячаму шчыра гучыць верш «Два зайкі»:

Мне два шэрых зайкі ўчора  
Прынясла сястрыца Зіна:  
Аднаго з густога бору,  
А другога з магазіна.

Што рабіць мне? Я заплачу...  
Памяркуйце самі вы:  
Адзін есць, па хаце скача,  
А другі — як нежывы...

Не ўсе вершы ў зборніку «Ручаінкі» вылучаюцца сваёй мастацкасцю. У аснову некаторых з іх пакладзена дробная думка, абмежавана і тэматыка твораў. Амаль усе вершы расказваюць аб жыцці толькі вясковых дзяцей.

Кніга А. Вольскага «Маленькім сябрам» як-бы дапаўняе «Ручаінкі» і запаўняе яе прабел. Тут дзеці знойдуць многа цікавага аб сваіх сябрах, аб старэйшых таварышах-мараках, аб сваіх запаветных марах. Чытаеш вершы «Мой брат», «Юнга» і адчуваеш, як праўдзіва перадае паэт захапленне хлапчукоў рамантычнай прафесіяй марака, іх мару самім павесці караблі па шырокіх морах і акіянах, сесці ў танк і «ў грозную гадзіну павесці ў бой машыну» («Ліст да таты»), або проста сесці на сапраўднага каня («Конь»).

Артур Вольскі паказвае звычайныя, штодзённыя справы дзетвары. Але ў кожнай справе паэт знаходзіць штосьці вельмі цікавае і карыснае, і маленькія чытачы, безумоўна, будуць браць прыклад з герояў твораў. Верш «Сталяры» расказвае, як двое хлопчыкаў зрабілі звычайную лаўку на двары. Але колькі ім давялося прыкласці старання! І вось шчаслівыя хлопчыкі, нібы сапраўдныя сталяры, садзяцца на зробленую сваімі рукамі лаўку і пераконваюцца, што «прастаіць яна сто год».

Паэту добра ўдаюцца гумарыстычныя вершы. У іх аўтар з дасціпнасцю і вастрынёй высмейвае баязліўцаў, балбатуноў. Верш «Васьміног» вельмі трапна высмейвае хлопчыка, які ўсюды хваліўся, што ён «смялей за ўсіх на свеце». На справе-ж выйшла, што ён спалохаўся рака ў рэчцы. «І цяпер вядома дзецям: баязлівец гэты Пеця».

Вершы А. Вольскага намнога пашыраюць кругагляд нашых дзяцей, умеюць захапіць іх добрай справай. Паэт вучыць сваіх маленькіх сяброў жыццю. У гэтым вялікая карысць яго кніжкі.

Станоўчай ацэнкі заслугоўвае і трэцяя кніга для дзяцей малодшага ўзросту, таксама выдадзеная сёлета Дзяржаўным выдавецтвам БССР. Гутарка ідзе аб зборніку апавяданняў П. Рунца «Бярозавы конь». Дзетвара — вялікі ахвотнік слухаць ці чытаць невялічкія, але яркія апавяданні. П. Рунец правільна зразумеў сваю задачу: на адной-дзвюх старонках ён расказвае павучальныя гісторыі з жыцця дзяцей. Маленькія чытачы прасякаюцца павагай да разумных і ласкавых дзядуль і бабуль, да клапатлівых настаўнікаў, вучацца ў сваіх таварышаў берагчы грамадскае багацце.

Лепшымі апавяданнямі, на маю думку, з'яўляюцца «Бярозавы конь», «Палачка» і «Незвычайная дружба». У першым з іх — просценькі сюжэт, але аўтару ўдалося стварыць цікавыя вобразы хлапчукоў і іх дзеда. Вельмі праўдзіва раскрыты характары маленькіх герояў. Верыш, што, стаміўшыся ў пошуках грыбоў, яны, па прапанове дзеда, сапраўды маглі ехаць з лесу на бярозавых конях і ніколечкі не адчуваць зморанасці.

Выхаваўчае значэнне мае апавяданне «Палачка». У ім расказваецца, як дашкольнік Вова рашыў прыдбаць сабе палачку, бо ў суседскага хлопчыка Янкі была палачка, прывезеная аж з Каўказа. З гэтай мэтай ён зламаў малады таполік у школьным садзіку. Але яго на месцы «злачынства» затрымалі дзве дзяўчынкі-школьніцы. Неўзабаве падыйшоў да іх і стары настаўнік Іван Андрэевіч. Настаўнік ласкава ўзяў за руку хлопчыка і павёў яго ў школьны гадавальнік. Ён расказаў яму, як вучні з гэтых маленькіх галінак клапатліва вырошчваюць вялікія дрэвы. Нарэшце, настаўнік адпусціў хлопчыка і аддаў яму зламаную тапольку. «Вова ўзяў тапольку, але яна ўжо не радавала яго», — піша аўтар.

Зборнік П. Рунца, нажаль, слаба адрэдагаваны. У некаторых апавяданнях паўтараюцца адны і тыя-ж сітуацыі. Апавяданне «У ягадах» не вылучаецца навізной тэмы. Некаторыя яго сітуацыі нагадваюць сітуацыі апавядання «Бярозавы конь». Дзіцячыя апавяданні патрабуюць асаблівай дасканаласці мовы. Аўтар-жа недастаткова патрабавальны да мовы сваіх твораў. Так у апавяданні «Сінічка» гаворыцца, што сінічку «і варона магла-б задзяўбці, і сава разарваць сваімі вострымі кіпцюрамі, і воўк мог зжэрці, і пякучы мароз замарозіць». Становіцца незразумелым, як «воўк мог зжэрці сініцу? Хіба ён па паветру за ёй ганяўся-б? У некаторых апавяданнях многа шэрых, казённых слоў, чаму кніга многае траціць.

Першыя кнігі беларускай літаратуры для маленькіх чытачоў — справа вельмі добрая. Трэба, каб Саюз пісьменнікаў і Дзяржаўнае выдавецтва БССР не спыніліся на першых кроках, каб нашы дзеці штогод атрымоўвалі многа цікавых і разнастайных кніг.

Ручаінам — шырокую плынь!









# Што думаюць пра вас хлопцы?

## Бывае і так...

Прачытаўшы ваша адкрытае пісьмо «Што думаюць пра вас хлопцы?», я не магла не прызнаць крытыкі, у асноўным правільнай. Праўда, крытыка некалькі аднабаковая: можна падумаць, што ва ўсіх няго дах у жыцці вінаватыя толькі мы, дзяўчаты. Ці так гэта?

Безумоўна, у сям'і жанчына адыгрывае асноўную ролю і ёй, як правіла, належыць першы голас (я не маю на ўвазе голас дыктатара). Але-ж і вы, хлопцы, павінны імкнуцца да таго, каб умацоўваць сям'ю дружбай, узаемнай павагай і каханнем.

Вось дзяўчына расказвае сяброўкам аб тым, які яе каханы ўважлівы, як ён кахае яе. І раптам ёй адказваюць: «Гэта цяпер ён такі, а вось як ажэніцеся... І куды толькі ўсё гэта ў іх пасля дзяецца».

Сапраўды, часам (ды і нярэдка, нажаль!) бывае так, што калі хлопец сустракаецца з дзяўчынай, ён гатовы ўсё зрабіць для яе, а калі стане мужам, робіцца грубы і прыдзірлівы. Вось вам і трэшчына ў сям'і. А ці многа трэба, каб яна разраслася ў прорву, куды паляціць беззваротна ўсё лепшае, што было паміж вамі?

Часта ў сям'і бывае і так: маладая жанчына просіць мужа дапамагчы ёй па гаспадарцы. Ён адказвае, што не будзе рабіць «жаночай работы. Мая справа грошы зарабляць, а твая — гаспадарку весці». А што жонка таксама, як і ён, днём працуе на вытворчасці і зарабляе грошы, — пра гэта ён забывае. Што-ж было-б, каб жанчына таксама дзяліла ўсю работу на «жаночую» і «мужчынскую»? Колькі гэтай самай «мужчынскай» работы робіць яна ў гаспадарцы, не лічачыся са сваёй працай і сіламі!

Правільна і тое, што, уступаючы ў сямейнае жыццё, дзяўчына павінна мець хоць элементарныя веды ў кулінарыі, у дамаводстве. Але зусім не абавязкова ёй чытаць і вывучаць працы і трактаты аб сямейным жыцці і аб правілах пабудовы яго. Я думаю, што па напісаным жыццё не пражывеш. Жыццё — такая школа, якая ўсяму навучыць і ўсё прымусіць рабіць так, як найлепш. І калі ў сям'і ёсць мір і згода, значыць, будзе і дабрабыт.

Я не згодна, што заўсёды толькі з-за пачуцця рэўнасці дзяўчаты не дазваляюць мужам удзельнічаць у гуртках самадзейнасці. Часта маладой жанчыне даводзіцца, прыйшоўшы з працы, бегчы ў дзіцячы сад або ў яслі па дзіця, потым спяшацца дадому гатаваць абед і прыводзіць кватэру ў парадак. І ўсё гэта яна павінна рабіць адна, таму што муж — на рэпетыцыі. Што сказаў-бы ён, калі-б яны памяняліся ролямі, і яму давялося-б усё рабіць, таму што жонка недзе спявае або танцуе? Таму пытанне аб грамадскай рабоце мужа і жонкі трэба ўсё-ж разглядаць індывідуальна. Калі дома ёсць маці, або калі няма дзяцей, тады, вядома, нельга адыйсці ад грамадскай справы. Сумна-ж будзе! Але, нажаль, часта чуеш, як малады муж, які толькі-толькі стаў татам, з усёй катэгарычнасцю заяўляе: «Няма чаго табе па танцульках бегаць! У цябе ёсць сям'я, і ты павінна пра гэта памятаць!» Бывае так, ці не праўда?

І яшчэ адно пытанне мне хацелася-б закрануць. Гэта загана, у якой нават пры ўсім сваім жаданні, вы, мужчыны, не маглі-б нас абвінаваціць. Гутарка ідзе аб залішнім ужыванні алкагольных напіткаў.

Я думаю, што няма патрэбы шмат гаварыць пра гэта. Вы ўсё гэта добра ведаеце самі. Вам застаецца толькі асэнсаваць гэта і запомніць простую ісціну, што гарэлка ў хату — няшчасце ў хату.

Усе мы, як кажуць, жывыя людзі, ва ўсіх у нас ёсць недахопы. Але галоўнае, каб не было заган. А з недахопамі лягчэй змагацца. Толькі рабіць гэта трэба неяк асцярожна, не абражаючы каханага чалавека. Няма ў нас, у дзяўчат, вялікіх заган, за якія нас можна было-б ненавідзець. А з вашымі і нашымі недахопамі мы будзем змагацца разам, не лічачы сябе лепшымі адзін за другога.

Маргарыта СЯРГЕЕВА.
г. Мінск.

## Ёсць яшчэ і дрэнныя дзяўчаты

Прачытаўшы адкрыты ліст да дзяўчат аршанскіх комсамольцаў, мімаволі ўспамінаеш некаторых знаёмых дзяўчат. У памяці праходзіць уся гісторыя іх жыцця, прыпамінаюцца найбольш характэрныя рысы іх характараў, паводзін.

Прывяду некалькі прыкладаў.

Мікалай з Нінай П. нарадзіліся і ўвесь час жылі ў адной і той-жа вёсцы. Вучыліся ў адной школе. Сваю навуку Мікалай пачаў яшчэ да Вялікай Айчыннай вайны. Пасля вызвалення з-пад фашысцкай акупацыі Беларусі ён пайшоў у трэці клас. Пайшла ў школу і Ніна. Закончыўшы шэсць класаў, Мікалай пакінуў школу і пайшоў працаваць у родны калгас. Праз год ён пайшоў на курсы трактарыстаў, якія адкрыліся пры Старобінскай МТС, а пасля іх заканчэння Мікалай стаў працаваць памочнікам трактарыста.

У гэты час і пачалося каханне Мікалая і Ніны. Ніна ў той час вучылася ў восьмым класе сярэдняй школы. Іх часта бачылі ў калгасным клубе, на лаўцы каля нінінай хаты. Хутка аб гэтым даведалася німіна маці. Яна забараніла ёй хадзіць вечарамі гуляць, дазваляла толькі гуляць у нядзелю і святочныя вечары. Але гэта толькі ўмацавала іх узаемаадносіны. І калі толькі Ніна закончыла сярэднюю школу, яна адразу-ж пачала працаваць у сваім калгасе.

Хутка Мікалай з Нінай пажаніліся. Цяпер яны жывуць весела і дружна. Яны кахаюць адзін другога.

Давялося бачыць і адваротныя выпадкі і прыклады. Некаторыя дзяўчаты «кахаюць» хлопцаў толькі таму, што спяшаюцца замуж і баяцца застацца «ў дзеўках».

Ліда з Мікалаем П. пасябравалі яшчэ ў школьныя гады. Ішоў час, але гэтае сяброўства не ўмацоўвалася, а наадварот, слабела. Ліда старалася пазбегнуць сустрэч з Мікалаем.

Аднойчы мне прышлося ісці дамоў разам з Лідай.

— Хіба ты не заўважаеш, што Мікалай цябе кахае? — спытаў я.

— Яму ў армію трэба. А пакуль ён адслужыць, — адказала Ліда, — я ўжо выйду замуж. Так што хай лепш і не спадзяецца на мяне...

Я зразумеў, што па-сапраўднаму такая дзяўчына кахаць не можа. Паабяцай такой, што возьмеш замуж, і яна згодна на ўсё, хоць і бачыць, што ты яе па-сапраўднаму не кахаеш. Такая дзяўчына не задумваецца аб тым, які будзе яе далейшы лёс, як гэта можа адбіцца на іх сямейным жыцці ў будучым.

Ёсць і такія дзяўчаты, для якіх каханне — суцэльная гульня і весялосць.

Пасябравала Аня К. з Валодзем яшчэ ў школе. Іх сяброўства цягнулася каля двух год. Хутка прыехаў на летнія канікулы з рамеснага вучылішча іх аднакласнік Васіль М. Аня закахалася ў Васіля. З прыемнасцю ў першы вечар яна разглядала бліскучыя гузікі на яго шынялі, ключ і малаток на шапцы. Але хутка ўсё гэта ёй абрыдла. К гэтаму часу ў вёску прыехалі салдаты, якія тут размясціліся на цэлы месяц. І вось Аня закахалася ў Грышу, малодшага сержанта, чарнавокага гарманіста. Не прайшло і месяца, як яна закахалася ў матроса, што прыехаў на пабыўку. Пасля гэтага яна штовечар змяняла «кавалераў». Цяпер для Ані ўсёроўна, з кім праводзіць вечары, абы толькі быць не адной...

З Ані добрай жонкі, мабыць, не будзе. Хочацца пажадаць, каб такіх дзяўчат у нашым асяроддзі зусім не было.

Уладзімір ЯКУБОВІЧ,
студэнт-завочнік аддзялення журналістыкі БДУ імя В. І. Леніна.

## Не перагінайце палкі

У «Маладосці» я прачытала вельмі карысную крытыку ў адрас дзяўчат. Дзякуй за гэта, сябры! Але, як гаворыцца ў народзе, раней чым каго крытыкаваць, паглядзі на сябе.

Вось вы, хлопцы, абураецеся на дзяўчат, што часта з-за іх капрызаў, мяшчанскіх поглядаў на жыццё адбываюцца сямейныя нелады. Можа, гэта ў некаторых выпадках і так, але не трэба вінаваціць толькі дзяўчат, таму што ў большасці выпадкаў вінаваты самі хлопцы.

Сярод вас, хлопцы, ёсць і такія для якіх дзяўчына — не сябра, не каханая, а проста нейкая прыналежнасць, якую, да таго-ж, можна абмяняць на лепшую.

У якасці доказу прывяду такі прыклад. У мяне была сяброўка Н., якая шчыра пакахала юнака В. І гэтак-жа ён, здаецца, кахаў яе. Яны пажаніліся. Не прайшло і поўгода, як яна даведалася, што ў яго на Украіне ёсць другая жонка і дзіця. А калі яна была ў бальніцы і чакала дзіцяці, ён ажаніўся на трэцяй. Ну, хіба-ж гэта сумленны чалавек! А Н. яго сапраўды кахала.

Вось якія бываюць нікчэмныя людзі! Дзіўна толькі, што да іх не адносяцца, як да парушальнікаў грамадскага жыцця, а дазваляюць ім разводзіцца і жаніцца бясконца.

Ёсць і такія выпадкі, калі маладыя людзі, паддаючыся часоваму захапленню, не ведаючы адзін другога, жэняцца, а праз некаторы час разыходзяцца, таму што яны вельмі розныя людзі.

Люда і Мікалай кахалі адзін другога і неўзабаве пажаніліся. Мікалай кахаў не доўга. Прышлося маладажонам разыйсціся. Колькі гора прынёс Мікалай дзяўчыне? А калі-б ён не спяшаўся, а добра падумаў, ці сапраўды яе кахае, то гэтага не было-б. Ён не сапсаваў-бы жыцця дзяўчыне.

Некаторыя з вас, хлопцы, зусім не цікавяцца поглядамі дзяўчыны на жыццё. А першае, што вас цікавіць, — гэта знешні выгляд.

Хоць некаторыя і абураюцца адзеннем дзяўчат, але калі ўжо зайшла размова аб адзенні, дык і аб вашым адзенні мне хочацца пагаварыць.

Зазірніце ў парк адпачынку імя Горкага або імя Чэлюскінцаў на танцпляцоўку, і вы сустрэнеце сярод вашага брата не прыгожа апранутых юнакоў, а нейкіх папугаяў. Не разабраць, хто гэта танцуе — чалавек ці які-небудзь клін. А як танцуе? Аж сорамна глядзець.

Але гэта яшчэ не ўсё. Паглядзіце на прычоску, і вы самі другі раз не разбярэце, дзяўчына гэта, ці хлопец.

Дарагія хлопцы, аўтары адкрытага пісьма да дзяўчат! Я ў многім згаджаюся з вамі, але мне здаецца, што вы залішне перагінаеце палку.

У вас атрымоўваецца не зусім лагічна: то вы абураецеся за тое, што дяўчаты вельмі стараюцца выйсці замуж і зусім не вучацца рабіць хатняй работы, то абвінавачваеце іх у тым, што яны не цікавяцца сямейным жыццём. На мой погляд, цікавіцца сям'ёй патрэбна тады, калі выйдзеш замуж, калі гэтае пытанне стане на парадак дня. А калі яна яшчэ дзяўчына, ёй карысней было-б атрымаць якую-небудзь спецыяльнасць, а жонкай стаць, гадаваць дзяцей яна заўсёды паспее.

Трэба кахаць чалавека, ва ўсім давяраць адзін аднаму. І вось тады, калі погляды на жыццё, на працу, на сяброўства ў двух закаханых будуць агульныя, тады ніколі не будзе разладу ў сям'і.

Ліда ЛАБОЦКАЯ,
бібліятэкар Мінскага фінтэхнікума.

## Пра абавязак сям'і і школы

З вялікай цікавасцю і ўвагай мы, нядаўнія маладажоны, прачыталі ў «Маладосці» ліст Леаніда Жыліна, Аляксандра Філіпава і Валянціна Манькоўскага «Што думаюць пра вас хлопцы?»

Я хачу закрануць пытанне аб тым, што многія маладыя людзі не любяць «чорнай» работы. Памятаю, я, семнаццацігадовы здаровы юнак, саромеўся ўзяць у рукі рыдлёўку або сякеру і працаваць там, дзе могуць мяне бачыць людзі. Сын селяніна, бацькі якога выхавалі чатырох сыноў і тры дачкі на мізэрным кавалку пясчанай зямлі, я баяўся той працы, якой бацька і маці здабывалі для мяне кавалак хлеба. А чаму? Ды таму, што бацькі не прывучалі мяне да працы.

Я — самы малодшы сын у сям'і. Вучыўся ў школе лепш за сваіх старэйшых братоў. Гэта і паслужыла повадам для той думкі, што я павінен абавязкова толькі вучыцца, а не працаваць. Ну, і што з гэтага атрымалася? Я добра вучыўся ў школе, затое не навучыўся касіць, араць, не ўмеў як след зачасаць калок, не ведаў, у які бок адкручваць гайкі, каб змазаць калёсы. А шкада.

Не навучыла мяне, як і многіх маіх аднагодкаў, усяму гэтаму і школа.

Затое ў мяне вельмі рана з'явіўся гадзіннік, добрае аддзенне, хромавыя боты. Усё гэтае і многае іншае далі мне бацькі і старэйшыя браты. Часамі я нават не шанаваў гэтага.

Гаворачы аб усім гэтым, хачу падкрэсліць, як важна для юнакоў і дзяўчат, якія стаяць на парозе самастойнага жыцця, бацькоўскае выхаванне. Добра, калі бацькі з маленства вучаць сваіх дзяцей рабіць усё тое, што неабходна ў жыцці. І што, здаецца, цяпер можа быць ганебнага ў тым, калі малады хлопец па-майстэрску валодае сякерай на новабудоўлі, а дзяўчына даглядае калгасных свіней або доіць кароў.

Не, не павінны бацькі шкадаваць свайго сына або дачку тым, што не прымушаюць іх рабіць якую-небудзь дамашнюю работу.

Вось яшчэ прыклад, які яскрава гаворыць аб шкодзе такога выхавання. Мая жонка неаднаразова ўспамінае, як яе бацькі не дазвалялі ёй прынесці ў хату вядро вады або бярэма дроў. Хай гадуецца, гаварылі яны, яшчэ ўсё жыццё ў яе ўперадзе, яшчэ напрацуецца. Дваццацігадовай дзяўчыне маці мыла бялізну. І што-ж з гэтага шкадавання атрымалася? Вышаўшы замуж, яна адразу адчула на сваіх плячах бацькоўскую «ласку». Толькі цяпер прышлося ёй вучыцца гатаваць ежу, пячы блінцы, мыць бялізну, варыць варэнне, саліць гуркі, марынаваць грыбы.

Нядаўна ажаніўся мой таварыш С. Да гэтага часу жыў ён адзінока, далёка ад сваіх бацькоў. Гаспадыня, дзе ён быў на кватэры, заўсёды своечасова гатавала яму ежу, падтрымлівала ў яго пакоі чысціню і парадак. У яго заўсёды былі вымытымі і выпрасаванымі кашулі, пасцельная бялізна, гузікі былі на месцы.

Але ўсё гэта перамянілася пасля таго, як ён ажаніўся. Зараз яму на працу часамі прыходзіцца ісці без снедання, а прышоўшы на абед, доўга чакаць, пакуль яго згатуе жонка. Жонка яго нідзе не працуе, затое любіць доўга спаць. Пакінуўшы не мытую на стале пасуду, С. застае яе такой-жа, калі вернецца дадому з работы. Яго жонка гаворыць, што яе таксама маці не прымушала дапамагаць ёй па хатняй гаспадарцы. Яна клапацілася толькі аб тым, каб яе адзіная дачка вучылася ды была прыгожа апранутай. А ў школе яе не навучылі прыбіраць пакой, гатаваць ежу, мыць бялізну, вышываць. І вось, дачушка, не давучыўшыся, узяла ды і выйшла замуж з студэнцкім білетам у руках. І вось зараз яна вучыцца той нескладанай справе, як быць добрай гаспадыняй, хоць часу на гэта было вельмі многа раней.

Н. КАЗЁЛ.
в. Міхневічы Залескага с. с. Смаргоньскага раёна Маладзечанскай вобласці.



**У цэнтральнай лабараторыі Мінскага мотавелазавода. Старшы інжынер Г. А. Кадолка (сядзіць) і лабарант комсамолка Л. Зірко за спектральным даследаваннем металу. Навейшыя айчынныя спектрографы, якімі абсталявана гэтая лабараторыя, дазваляюць рабіць аналізы ў дзесяткі разоў хутчэй, чым звычайным хімічным спосабам, і з дакладнасцю да дзесяцітысячнай долі працэнта.**

Фото А. Дзітлава.








**На цеплаходзе «Победа» вакол Еўропы.** Уверсе — **блакітная мячэць — адна з найпрыгажэйшых у Стамбуле.** Злева — з вышыні **Агрыпскага** акропаля адкрываецца від на **сучасны горад.** Справа — **Капры. У чырвонай віле ў свой час жыў М. Горкі.** Унізе злева — **Парыж. За рэкламай не відаць дамоў.** Унізе справа — **турысты абменьваюцца сувенірамі з жыхарамі Кіля.**

Фото В. Панамарова.










Поўночная Венецыя — так нззываюць Амстэрдам, горад шматлікіх каналаў і мастоў.



Не ўсім у Парыжы весела.

# КРУІЗ

Круіз — так названа самае захапляючае з усіх зарубежных турысцкіх падарожжаў гэтага года. Цудоўны пасажырскі цеплаход «Пабеда» забірае на борт больш чатырохсот прагных да ўражанняў адпускнікоў і, адчаліўшы ад пірса Одэсы, агінае Еўропу, каб праз 26 дзён прыбыць у Ленінград. Там турысцкія партыі змяняюцца, і новы рэйс праходзіць у адваротным напрамку.

Дваццаць чатыры беларускіх турысты ўдзельнічалі ў ліпеньскім рэйсе. Мы не толькі праплылі дзесяць тысяч кіламетраў па васьмі марах і акіяну, але і спыняліся ў многіх гарадах, праводзячы на беразе іншы раз па трое сутак.

Стакгольм, Кільскі канал, Ротэрдам, Амстэрдам, Гаага, Гаўр, Парыж, Неапаль, Рым, востраў Капры, Пірэй, Афіны, Стамбул і Сталін — вось асноўныя пункты нашага маршруту. І гэта не толькі берагавыя пейзажы і панарамы гарадоў, не толькі гістарычныя помнікі, але і мноства жывых людзей, шчырыя размовы з імі і выпадковыя бытавыя сцэны. Як зараз, бачу цесны натоўп заходнегерманскіх немцаў, якія ўслед адыходзячаму ад шлюза цеплаходу скандыруюць па-руску: «Совьет, ура! Совьет, ура!» Не забудзецца мне і ўраджэнка Варонежа, якую я сустрэў у Амстэрдаме. Жанчына ніяк не магла стрымацца ад слёз, калі гаварыла пра родную хату, пакінутую не па сваёй волі пятнаццаць год назад.

Ніколі не забудзецца і прасторны цэх парыжскага завода Рэно, дзе мы адчулі сяброўскую шчырасць французскіх рабочых-комуністаў, адчулі так моцна, што нам на момант здалося, што мы дома.

У думках я зноў хаджу па бясконцай анфіладзе ватыканскай бібліятэкі, гляджу на вялікія тварэнні Мікельанджэло ў Сіксцінскай капеле, зноў уваходжу ў грандыёзны сабор Святога Пятра, у якім, калі верыць гіду, можа адразу змясціцца звыш пяцідзесяці тысяч чалавек.

Турысцкі аўтобус зноў імчыцца па пыльных вуліцах Стамбула, горада пяцісот дваццаці мячэцяў. Зноў мазоліць вочы нехта ў цывільным ля старой Візантыйскай сцяны, які на нашых вачах адабраў гасцінцы, што далі савецкія турысты турэцкім дзецям...

Многа ўсялякага ўспамінаецца цяпер, пасля падарожжа на цеплаходзе «Пабеда» вакол Еўропы. І на дапамогу памяці прыходзіць дарожны дзённік і шматлікія фатаграфіі.

В. ПАНАМАРОЎ.

# Вершы

Генадзі БУРАЎКІН

## Мора

Я не плаваў у марскіх прасторах,
Хоць душа заўсёды ўдаль заве,
І дзяцінства марамі аб моры
На старонках дзённіка жыве.

А цяпер дзевятым грозным валам
Трызніць стаў і мой малодшы брат,
І цяльняшцы, як і я, бывала,
Ён сягоння невыказна рад.

Для яго свой сэнс, што аж з Балтыйска
Я цяльняшку гэтую прывёз,
Бо ён знае: там-жа мора блізка —
Чайкі, хвалі аж за край нябёс.

І ён мне пра караблі тлумачыць
З выглядам старога марака
І з кішэні з гордасцю дзіцячай
Дастае партрэт Саманчука.

Загарэлы, хударлявы хлопчык,
На мяне глядзіць ён зараз так,
Што мне ясна і без слоў:
Ён хоча
Стаць такім-жа, як герой-марак.

І кажу яму я:
— Станеш, мусіць.
Не бяда, што вырас над ракой.
Мораў хоць няма на Беларусі,
Але колькі слаўных маракоў!

Пятрусь МАКАЛЬ

## У вагоне

Дождж вясновы несціхана лье,
Кроплямі па шкле аконным скача.
У вагоне гучна хлопчык плача
І заснуць суседзям не дае.
Маці-ж супакойвае няспынна
Двухгадовага грамадзяніна
І на пасажыраў, што навокал,
Пазірае вінаватым вокам.
Удзячна я гляджу на клопат матчын:
Недзе дома і ў мяне сям'я,
Сын, які мяне ў жыцці не бачыў,
Гэтак, як яго не бачыў я.
І рукой салдацкай, агрубелай,
Што ласкаць прывыкла сталь штыка,
Асцярожна і зусім няўмела
Пачынаю гладзіць хлапчука.
І усе здзіўляюцца ў вагоне:
Не ад матчыных пяшчотных рук —
Ад маёй шурпатае далоні
Раптам суцяшаецца хлапчук.
Мо', напомніў я малому бацьку,
Што яму ўяўляўся, як праз сон,
Ну, а можа, у постаці салдацкай
Проста моц адчуў і сілу ён.
І, напэўна, каб не хвіля гэта,
Мне было-б самому неўздагад,
Колькі ласкі і пяшчоты светлай
У тваёй суровасці, салдат.

## Не пытайцеся, сяброўкі

Не пытайцеся,
Сяброўкі, хто мой любы.
Лепш збірайцеся
Увечары
Ля клуба.
І зірніце вы на хлопца
Хоць украдкай,
Што расцягне
Галасістую трохрадку;
Як кране лады ён зноўку
У гармоні,
Быццам выпырхне салоўка
З-пад далоні.
Узмахне у лад напеву
Русым чубам...
Не пытайцеся ў мяне вы,
Хто мой любы.
Не пакіне да паўночы
Ён гулянку
І раскрыць не зможа вочы
Заўтра ўранку.
Будуць зваць яго з пляцоўкі
Сцены зруба...
Не пытайцеся, сяброўкі,
Хто мой любы.

## ГІСТАРЫЧНЫ АРТЫЛЕРЫЙСКІ МУЗЕЙ

Адным са старэйшых музеяў нашай краіны з'яўляецца Артылерыйскі гістарычны музей, які размешчаны ў будынку кранверка Петрапаўлаўскай крэпасці.

Экспазіцыя музея адлюстроўвае гісторыю развіцця, баявы шлях айчыннай артылерыі, гераізм артылерыстаў з даўнейшых часоў і да нашых дзён.

Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя адкрыла доступ да багаццяў музея шырокім працоўным масам. За гады Совецкай улады музей значна вырас, шырока разгарнуў навукова-даследчую і прапагандысцкую дзейнасць. Шматлікія экспанаты, якія сабраны ў залах музея, сведчаць аб гераічных подзвігах совецкіх воінаў у бітвах з ворагамі Айчыны, аб выключнай ролі артылерыі ў барацьбе за свабоду і незалежнасць нашай социялістычнай Радзімы.

Нядаўна ў Мінскім акруговым Доме афіцэраў Гістарычным артылерыйскім музеем была арганізавана выстаўка, якую наведалі тысячы мінчан.

А. КВАШНІНА.



У адной з залаў Артылерыйскага музея.




## НЕЗВЫЧАЙНЫЯ ЖАБЫ

У многіх адно слова «жаба» выклікае агіднае пачуццё. Рэакцыя такая зразумелая з эстэтычнага боку. Але факты гавораць аб тым, што жаба — добры друг чалавека. Яна спажывае вялікую колькасць чарвячкоў, слізнякоў, жучкоў і іншых сельскагаспадарчых шкоднікаў. Нездарма некаторыя садоўнікі ў Заходняй Еўропе купляюць жаб для рассялення на сваіх гаспадарках.

Пра жаб можна сказаць і больш. Усе яны (а іх налічваецца каля 200 відаў) практычна прыгодны для ўжывання ў ежу. Захаваліся звесткі, якія гавораць аб тым, што жаб елі яшчэ ў глыбокай старажытнасці. Жабінае мяса з ахвотай ядуць жывёлы. Вяленыя і перамолатыя цельцы жаб з'яўляюцца цудоўным кормам для водаплаваючай птушкі і пушнога звера ў гадавальніках.

Для ўжывання ў ежу ловяць зялёных, або ядомых жаб. Афарбоўка іх скуры — ярказялёная з чорнымі крапінкамі і трыма прадоўжнымі жоўтымі палоскамі — мае ахоўны характар, робіць іх непрыкметнымі ў травяністай і кустарнікавай мясцовасці. Гэтая жаба некальні больш за жаб іншых відаў. Тулава яе мае даўжыню 6 — 8 см, а мясістыя, моцныя заднія лапкі дасягаюць 10 — 11 см. Гэтыя заднія лапкі якраз і ядуць. Па сцверджанню аматараў (асабліва цэніцца гэты дэлікатэс у Францыі, Германіі і ЗША) жабіныя лапкі маюць смак куранячага мяса.

Зялёная жаба жыве і ў нас. Водзіцца яна паблізу прэсных вадасховішчаў, у сажалках, канавах. У адрозненне ад незялёных жаб, якія згуртоўваюцца ў сажалках і лужынах толькі ў перыяд размнажэння, а ў іншы час жывуць далёка ад іх, зялёная жаба, якая лічыцца вадзяной, жыве ўвесь час паблізу вадасховішчаў. Яе можна бачыць, калі яна грэецца на сонцапёку на якім-небудзь адкрытым выступу, купіне і нават на паверхні вадаплаваючых раслін, напрыклад, на лістах вадзяной лілеі.

Перыяд размнажэння зялёнай жабы прыпадае не на раннюю вясну, як у іншых відаў жаб, а на больш позні час — на май-чэрвень. Самцы значна меншыя за самак. Сваім асабліва прарэзлівым кваканнем яны клічуць да сябе сваіх сяброўак. Жабіныя канцэрты ўсім вядомы. Апалонікі вылупліваюцца з аплодненых яек на пяты дзень. Падобнымі да нармальных жаб яны робяцца на пяты месяц. Зрэлага стану дасягаюць у пяцігадовым узросце.

Ядомая жаба — сапраўдны драпежнік: яе ўвагу прыцягвае галоўным чынам жывая здабыча, здольная рухацца. Яна глытае яе, выкідваючы насустрач доўгі ліпучы язык. У сваю чаргу зялёная жаба — любімая спажыва многіх драпежнікаў: лісаў, выдры, тхара, вадзяного пацука, бусла, чаплі, шчупака, фарэлі.

Людзі ловяць зялёных жаб восенню, калі яны нагульваюць больш мяса. Прылады для лову розныя: сецi, кручкі, пруткі.

Разводзяць зялёных жаб і ў штучных умовах у садках (тэрарыумах). Жаба хутка прывыкае да новых умоў, бярэ еду з рук давальшчыка корму. На перыяд размнажэння ў садках ставяцца пасудзіны з вадой.

Х. САЛАМОНІК.

## Першы заробак

Пасля заканчэння сярэдняй школы ў сёлетнім годзе комсамолец Іван Маслёнчанка паступіў на гомельскі вагонарамонтны завод, дзе працуе і яго бацька.

Івана накіравалі вучнем да спрактыкаванага токара Васіля Андрыенкі. З першых дзён навічок сур'ёзна ўзяўся за працу, хутка асвоіў станок, вымяральны інструмент, навучыўся заточваць разцы.

Аднойчы, прышоўшы ў цэх, Васіль Андрыенка пачуў знаёмы гул. Ён спяшаўся да свайго станка — карцела хутчэй даведацца, хто там... Так, за станком гаспадарыць яго вучань, увішна арудуе супартам... Токар хацеў накрычаць на хлопца, але той спакойна спыніў станок і прывітаўся з настаўнікам.

— Малайчына, хлопча,— лагодна сказаў Андрыенка.— Заўтра будзем трымаць экзамен на вучнёўскі разрад!..



...Увечары Іван Маслёнчанка разам з іншымі рабочымі атрымаў свой першы заробак. Прынёс яго дадому і, з нейкім невыказна ўрачыстым настроем аддаючы грошы маці, сказаў:

— Вось, вазьмі, мама!

І пайшоў умывацца. З мыцельніка цішком наглядаў. Не, яго маці на сына не злуецца, відаць, змірылася з думкай, што Іванка не пайшоў адразу ў інстытут.

А ў хлопца свае планы — спачатку стаць добрым токарам, а потым — завочна паступіць у інстытут. Можна не сумнявацца, ён свайго дасягне!

Г. АРЦЕМ'ЕЎ.

На здымку: цэхавы касір Аляксандр Вяроўкін выдае першы заробак Івану Маслёнчанку.

Фото Ф. Раманава.

## СПОЎНЕНАЕ ЖАДАННЕ

Першае знаёмства Івана Медзвядка з трактарам адбылося даўно, яшчэ тады, калі басаногім хлапчуком прасіўся ў бацькі, каб той узяў яго да сябе ў кабіну. Хлопчык з цікавасцю прыглядаўся да таго, як бацька, нават не гледзячы, пераштаўляў рычагі, і машына, паслухмяная гэтым плаўным і ўпэўненым рухам, то сцішала свой ход, то ірвалася наперад. Як хацелася хлопчыку самому навучыцца кіраваць такім веліканам. І Іван прасіў у бацькі хоць пасядзець на месцы вадзіцеля.

Ішлі гады. Усё часцей і часцей можна было бачыць Івана ля машын. Хлопчык падрос, пасталеў. У летні час стаў працаваць у соўгасе, часцей за ўсё з бацькам. Ён распытваў у бацькі, для чаго служаць розныя дэталі, знаёміўся з работай розных вузлоў машыны, прыглядаўся да тэхнікі ваджэння. Колькі радасці і шчасця было ў хлопчыка, калі магутная машына стала паслухмянай яго волі!

Прайшло яшчэ два гады. Іван вучыўся ўжо ў восьмым класе, стаў комсамольцам. У соўгасе арганізаваліся курсы трактарыстаў. Самым акуратным і старанным быў Іван. Не было выпадку, каб ён не з'явіўся на заняткі ці не падрыхтаваў задання. І вось у гэтым годзе Іван атрымаў пасведчанне трактарыста.

А калі былі здадзены апошнія экзамены ў школе, ён атрымаў трактар па акту і стаў самастойным рабочым-механізатарам.

Упэўнена і горда, з усведамленнем адказнасці, якая ўскладзена на яго, сельскага механізатара, водзіць Іван Медзвядок, вучань дзевятага класа Сосноўскай сярэдняй школы, трактар па палях роднага соўгаса. І дзе-б ён ні працаваў — на акучванні бульбы ці на сенаўборцы, на культывацыі кукурузы ці ў агародзе — усюды ён працуе па-комсамольску, старанна.

На здымку: Іван Медзвядок за рулём трактара ДТ-14.

А. ВЕРАМЕЙЧЫК.

Соўгас «10 год БССР» Любанскага раёна Мінскай вобласці.



---

## ТОЛЬКІ ФАКТЫ

### ЕСЕНІН НА ВЕНГЕРСКАЙ МОВЕ

Венгерскім выдавецтвам «Уй мадзьяр кёньвкіада» выпушчаны зборнік вершаў Сяргея Есеніна ў перакладах на венгерскую мову.

Перакладалі Есеніна ў Венгрыі яшчэ ў дваццатых гадах. Але асобнай кніжкай яго вершы выходзяць упершыню.

### КАНЦЭРТ ГРАМЗАПІСУ З РУСКІХ ОПЕР

Галандскія ахвотнікі да опернай музыкі нядаўна мелі магчымасць праслухаць канцэрт грамзапісу з рускіх опер. Канцэрт наладзіла выдавецтва «Пегасус» у канцэртнай зале горада Амстэрдама.

### ВЫСТАЎКА, ПРЫСВЕЧАНАЯ ТУРКМЕНСКАЙ ССР

У ізраільскім горадзе Назарэце адкрыта выстаўка мастацтва Туркменскай ССР. Ізраільскі часопіс «Ідіут» піша, што выстаўка карыстаецца поспехам сярод мясцовага арабскага і яўрэйскага насельніцтва.

### ПАМЯЦІ ДАСТАЕЎСКАГА

Ліванскі часопіс «Ат-Тарык» паведамляў аб вечары памяці Дастаеўскага, які быў арганізаваны ў Бейруце.

У памяшканні залы была наладжана выстаўка, прысвечаная творчасці Дастаеўскага. З прамовамі выступілі міністр асветы Жорж Акль, вядомыя ліванскія пісьменнікі Міхаіл Нуайме і Жорж Хана. У заключэнне адбыўся канцэрт.

### ДАКЛАД АБ СОВЕЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ У ОСЛО

Прафесар Орхускага ўніверсітэта ў Даніі А. Стэндзер-Петэрсен па запрашэнню нарвежскага саюза «Атланой» прачытаў у Осло даклад аб сучаснай совецкай літаратуры.

У якасці найбольш характэрнай рысы совецкай літаратуры прафесар падкрэсліў яе самую цесную сувязь з рэальным жыццём, у той час, як літаратура Заходняй Еўропы з'яўляецца літаратурай для выбраных, літаратурай, якая пішацца некаторымі для некаторых.




Тарас **ЖЫГАЛКА**

Пакой, у якім мы працавалі, нагадваў заводскі канвеер. Ён быў доўгі, вузкі, пяць масіўных сталоў размяшчаліся ў ім літарай «П».

Часта мы выклікалі да сябе якога-небудзь сакратара камітэта камсамола, глыбока і ўсебакова вывучалі яго работу. Сакратар пры гэтым перасядаў з аднаго крэсла на другое і абавязаны быў адказваць на нашы пытанні. І вось тут асабліва была відаць зручнасць нашага пакоя: кожны ў любы момант мог задаць пытанне, якое ён раней выпусціў з поля зроку. Пасля такога азнаямлення мы ведалі пра работу камітэта нават больш за сакратара. Такім чынам, эканоміліся камсамольскія грошы, а эканомія — наш закон.

Як вы і здагадваецеся па колькасці сталоў, нас было пяцёра не зусім ужо маладых, але яшчэ і далёка не старых. Большую частку дня, а часам і вечара, мы праводзілі ў крэслах. Ад такога ўкладу жыцця нам ужо было нялёгка згінацца. Мы пісалі, перапісвалі, візавалі і зноў перапісвалі. Работа гэтая на першы погляд не складаная, але той, хто за яе браўся ўпершыню, праз два дні аўтарытэтна заяўляў, што лепш абараніць доктарскую дысертацыю, чым дагадзіць нашаму першаму сакратару таварышу Муравейку, асабліва калі ён быў не ў гуморы.

Гэта не перабольшана. Таварыш Муравейка мог бясконца бракаваць праекты пастаноў. Яшчэ не прачытаўшы і першай старонкі, ён падымаў на лоб акуляры і, прыжмурыўшы вочы, панура глядзеў у кут, дзе стаяла сметніца.

— Што гэта? — грозна пытаўся ён. — Дзе ўздым? Дзе заклікаючы стыль? Пастанова — гэта дакумент, які будуць вывучаць нашчадкі! Перарабіць.

Не ведаючы аднаго сакрэту, вы ніколі не дагадзілі-б таварышу Муравейку. Ён-бы забракаваў і сто першы праект. Таварыш Муравейка любіў словы «пафас» «эфект», «гістарычны» і толькі тую пастанову прызнаваў баявой, якая была перасыпана гэтымі словамі.

Сакратар па школах любіў слова «ў выніку», а другі сакратар патрабаваў слоў «неабходная важнасць» і «забеспячэння». Вось і паспрабуй дагадзіць на кожнага! Тут сам чорт не рызыкнуў-бы ўзяцца за напісанне праекта. Але мы абавязаны былі і пісаць, і дапрацоўваць.

Можа нам і прыходзілася-б туга, каб не Вася Бабашка.

Фармальна Вася лічыўся інструктарам па фізкультуры і спорту. А фактычна ён быў спецыяліст па пастановах. За пяць гадоў работы інструктарам Вася вывучыў стылі ўсіх сакратароў і загадчыкаў аддзелаў, і яго праекты пастаноў прымаліся без паправак.

Звычайна, калі ў каго-небудзь з нас бракавалі праект, мы звярталіся да Васі:

— Выручай, брат.

— Два куфлі піва!

Даводзілася згаджацца. Вася абкладаўся адпаведнымі пастановамі за апошніх дзесяць год і спрытна здзіраў адтуль сказ за сказам, перасыпаючы іх словамі «пафас», «эфект», «гістарычны», «у выніку» і інш. І сапраўды, праект прымаўся.

Вася Бабашка захапляўся кібернетыкай. Раніцай ён урываўся ў наш пакой і крычаў:

— Хлопцы, вось навіна: машына перакладае, і без памылак!

— Хлусіш, — спынялі мы яго.

— Хлушу? Вось глядзіце, — і ён паказваў артыкул пра такую машыну.

Другі раз ён уляцеў у пакой настолькі ўзрушаны, што мы падумалі — Вася атрымаў пуцёўку ў Сочы. Ён плюхнуўся ў крэсла і ледзь выдыхнуў:

— Рэшэўскі зрабіў нічыю.

— З кім? З Батвіннікам?

— З Мукам!

— А хто такі Мук?

Вася пагардліва паглядзеў на нас.

— Эх вы! Гэта электронная машына. І Рэшэўскі не мог яе абыграць у шахматы. За кібернетыкай — будучае, — важна сказаў ён. — Прыйдзе час, і спецыяльныя машыны будуць кіраваць заводамі, электрастанцыямі, аўтамашынамі, будаваць дамы, вадзіць паязды.

Я пажартаваў.

— Па старынцы застанемся працаваць толькі мы. Ні адна машына не здолее дагадзіць Муравейку.

Вася задумаўся...

Мы пачалі працаваць. Той дзень быў для нас чорным. Нашы праекты бракаваліся адзін за другім, а калі мы звярталіся да Васі, дык ён круціў галавой і адказваў:

— Не магу, галава баліць.

Увечары, як стала потым вядома, Вася зноў чытаў і перачытваў артыкулы па кібернетыцы. Нехта ціха пастукаў у дзверы.

— Зайдзіце...

На парозе стаяў малады чалавек у чорным капелюшы з шырокім брылем. Ён трымаў пад пахай нейкую чорную скрынку з мноствам бліскучых гузікаў.

— Я кандыдат тэхнічных навук Дыбка, — сказаў ён. — Я пасланы дапамагчы вам.

Вася глядзеў на яго, нічога не разумеючы.

Дыбка паставіў на стол скрынку, уключыў штэпсель у электрычную разетку.

— Я доўга, — сказаў ён, — вывучаў вашы пастановы, таварыш Бабашка. Усе яны — вынік кампіляцыі з другіх пастаноў, і я прышоў да вываду, што вам пецярым зусім няма чаго рабіць.

Вася ўсміхнуўся:

— Вы проста нашага Муравейку не ведаеце. Паспрабуйце, напішыце ў яго стылі пастанову пра наглядную агітацыю.

Дыбка націснуў гузік — са шчыліны папоўз папяровы ліст.

«У мэтах эфектыўнага выканання гістарычных задач па далейшаму ўздыму і ахопу эфектыўным пафасам...»

Вася не верыў сваім вачам: гэта быў стыль Муравейкі.

— А ну, дайце пастанову па ўдзелу моладзі ў вывазцы ўгнаення!

Дыбка націснуў на другі гузік.

«У мэтах далейшага эфектыўнага забяспечання высокіх ураджаяў і падкрэсліваючы неабходную важнасць гістарычнага ўдзелу моладзі, яе пафасу і імкнення...»

Вася хацеў прыдрацца. Машына бездакорна капіравала цяпер стыль Муравейкі і другога сакратара. «Пачакай-жа, як ты будзеш капіраваць стыль адразу трох», — зларадна падумаў Вася.

— Па піянерскіх зборах праект, — загадаў ён майстру.

«У выніку, — пачала пісаць машына, — эфектыўнага ўмяшання абкома камсамола, які неадназарова падкрэсліваў гістарычную важнасць шырокага разгортвання ініцыятыўнасці ў рабоце піянерскіх атрадаў, вынік іх работы, пафас і ўздым...»

І Вася здаўся.

— Слухайце, таварыш, дайце мне гэтую машыну.

— Калі ласка.

Назаўтра электронная машына стаяла ў нашым інструктарскім пакоі. Цяпер мы ажылі. Пастанову, над якой раней трэба было працаваць два дні, машына цяпер пісала хвілін за сем-восем.

Упершыню ў нас стала так многа вольнага часу, што мы разгубіліся. Хлопцы пачалі вучыцца, чытаць літаратуру, хадзіць у кіно, займацца фізкультурай і ўсё часцей і часцей бываць у пярвічных арганізацыях. Праўда, Васю гэта не закранула. Ён сядзеў і націскаў гузікі машыны, і пастановы паўзлі адна за другой, навадняючы райкомы, пярвічныя арганізацыі. І чым больш мы бывалі ў пярвічных арганізацыях, тым больш пісалася папер. Вася кожны наш выезд хацеў увекавечыць пастановай.

— Пакінь ты гэтую машыну, — казалі мы яму, — пойдзем да камсамольцаў. Трэба-ж дапамагчы ім выканаць тыя пастановы, што ўжо напісаны.

— Дзівакі, — крывіў вусны Вася, — наперад глядзець трэба. Праз сто гадоў падымуць матэрыялы нашага абкома камсамола і скажуць: вось як працавалі! А калі вы будзеце хоць кожны дзень сядзець у арганізацыях, а пастановы не будзе, дык нават праз дзесяць год нас забудуць. Для гісторыі працаваць трэба!

І тут здарылася тое, чаго ніхто не чакаў. Машына раптам перастала пісаць пастановы. Вася тыцкаў пальцамі ў гузікі, але машына толькі вурчэла. Ён хапаўся за розныя рычажкі, ручкі — усё як і раней. Нам зноў трэба было садзіцца за нуднае пісанне пастаноў.

— Выручай, Вася, — прасілі мы яго.

Вася і сам стараўся. Ён зноў і зноў кратаў гузікі, рычажкі, ручкі і раптам... машына запрацавала.

«У мэтах рашучага і эфектыўнага палепшання работы абкома камсамола і набліжэння яго дзейнасці да мас моладзі, правесці скарачэнне штатаў на трыццаць працэнтаў. Адкрыць дарогу крытыцы і самакрытыцы. З гэтай мэтай...»

Вася не дачытаў, што зрабіць «з гэтай мэтай», спалохана запытаўся:

— Хлопцы, што-ж з намі будзе?.. Першыя ахвяры кібернетыкі.



